22 лютага 2019 | № 7 (618)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Ці чакаць малдоўскага Майдану?**

стар. 19

**4 БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ ФРАНЦУЗСКАГА АНЕКДОТА**

Сумленныя выбары не зводзяцца да сумленнага падліку галасоў. Калі дзяржава ўзяла манаполію на тэлебачанне, дык усялякія размовы пра сумленнасць ператвараюцца ў пустую балбатню

**5 ПАДМАН ПРЫ РАЗЛІКУ: ЯК НЕ ТРАПІЦЬ У ПАСТКУ**

Да нас у рэдакцыю звярнуўся чалавек, які сцвярджае, што быў падмануты пры звальненні з працы



**7—18 Літаратурная Беларусь**

**22 АД УСЕНАРОДНАГА ПРЫЗНАННЯ ДА ТУРМЫ І ЗАБЫЦЦЯ**

Гісторыя братоў-авіятараў, якія нарадзіліся ў Беларусі і ажыццявілі пералёт з ЗША ў Еўропу



# Беларуская мова — жыве і будзе жыць

## Калі мы будзем падтрымліваць яе — родным словам ці рублём — і не спадзявацца на ўладу



Таццяна ШАПУЦЬКА

Напярэдадні Дня роднай мовы ўлады зрабілі беларускамоўным мінчукам ды гасцям сталіцы падарунак — на чыгуначным вакзале перарабілі галоўны вітальны надпіс з рускай мовы на беларускую ды англійскую.

Традыцыйна ўчыніўся вэрхал — а што б гэта значыла, а ці ўлады ўзяліся за беларусізацыю, а ці пасварымся з Расіяй, а ці пасябруем з Захадам і таму падобнае. Такі інфармацыйны шум уздымаецца штораз, калі ўлады зробяць нейкі рэверанс у бок беларускай мовы. Паказальна, што на шматлікія прабеларускія акцыі ды падзеі, ініцыяваныя грамадскімі актывістамі, рэакцыя значна больш сціплая. Выходзіць, усё спадзяемся на ўладу? Чакаем, калі яна возьмецца за беларусізацыю — мяккую, жорсткую, хоць якую? А яна не возьмецца, як не бярэцца і зараз. Тое, што так у нас любяць называць «мяккай беларусізацыяй» — гэта міф.

Ніякай беларусізацыі з боку ўлады няма. Улады ці не робяць нічога, ці робяць выключна тое, да чаго іх змушае актуальная палітычная сітуацыя. Калі чыноўнікі сядзяць, склаўшы ручкі, на іх месца прыходзяць грамадскія актывісты ды прыватны бізнес.

Не знаходзіцца ў Міністэрства культуры сродкаў на пераклад папулярных фільмаў на беларускую мову — знойдзе Андрэй Кім з ініцыятывай «Кінаконг» ды арганізуе масавыя паказы ў кінатэатрах. Не бачыць міністэрства адукацыі патрэбы ў пазашкольным навучанні беларускай мове — убачаць стваральнікі «Мовы Нанова» і знойдуць для гэтага пляцоўку ды выкладчыкаў у 18 гарадах Беларусі.

Міністэрства інфармацыі не выдае пераклады адзінай беларускай Нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч — перакладзе, выдасць ды яшчэ развязе па бібліятэках «Белгазпрамбанк». Міліцыя не рэагуе на інтэрнэт-аматараў абражаць беларускую мову — дзякуй юрысту Ігару Случаку, які заўжды гатовы абараніць родную мову ў судзе. Як мы бачым, і без удзелу ўлады шмат што робіцца. Робіцца паспяхова, цікава ды прыцягвае многіх новых людзей, якія раней беларускай мовай ды культурай і не цікавіліся.

Дрэнна становіцца якраз тады, калі чыноўнікі спрабуюць запусціць свае рукі ў падобныя ініцыятывы і ўзяць іх пад кантроль — тады цэлы год не вешаецца юбілейная дошка БНР, а бібліятэкары пачынаюць адмаўляцца ад дармовых кніг Святланы Алексіевіч.

Калі ўлады не робяць нічога — гэта дрэнна. Статыстыка яскрава паказвае вынікі бяздзейнасці ўлады: паводле даследавання BISS, у прамежак з 1995 па 2018 гады колькасць беларускамоўных дашкольнікаў у гарадах упала з 68,9% да 2,3%. Статыстыка датычна беларускамоўных студэнтаў і школ не лепшая. Расплочвацца за гэтую бяздзейнасць і аднаўляць ранейшыя пазіцыі па беларускамоўнай адукацыі давядзецца не адзін год. Аднак прынамсі дыягназ нам вядомы, лячэнне зразумелае, і апошнія пару гадоў, дзякуючы намаганням грамадзянскай супольнасці ды ініцыятыўным бацькам, сітуацыя пачала трошкі выпраўляцца.

Але калі ўлады робяць нешта прабеларускае, азіраючыя на палітычную рэчаіснасць, гэта, магчыма, нават горш. Палітычная сітуацыя часта змяняецца: перамовы з Пуціным некалі могуць апынуцца больш выніковымі, чым лютаўскія, і рускамоўны надпіс у той жа дзень вернецца на ўваходныя дзверы мінскага вакзала, а беларускамоўны заляжа недзе на складзе да лепшых часоў.

Відавочна палітычны падтэкст маюць і нядаўна апублікаваныя вынікі апытання, праведзенага Інфармацыйна-аналітычным цэнтрам пры адміністрацыі кіраўніка дзяржавы. З іх вынікае, што беларускую мову лічаць роднай 48% жыхароў Беларусі, а рускую — 43%. Што сказаць, вельмі зручныя лічбы: калі стасункі з Расіяй не будуць ладзіцца, на любыя абвінавачванні ў русафобіі можна смела заяўляць: дык у нас для большасці беларуская мова родная. Калі ж наадварот, улады могуць гаварыць: не будзем крыўдзіць амаль палову насельніцтва, для якіх родная мова — руская.

Цяперашняй уладзе, схільнай да маніпуляцый, верыць нельга. Гэта нават небяспечна, бо, чакаючы ўяўнай беларусізацыі, можна ўпусціць каштоўны час. Калі мы хочам беларускасці — варта верыць і спадзявацца толькі на сябе. І рабіць што хто можа.

Аддаць дзіця ў беларускамоўную школу, хаця рускамоўная, можа, і бліжэй да дому. Падпісацца на беларускамоўную газету, хаця рускамоўная, можа, і крыху таннейшая. Схадзіць на беларускамоўны фільм у кінатэатр, хаця, магчыма, яго паказваюць і не ў самы зручны час. Зрэшты, пазначыць беларускую мову роднай і мовай зносін падчас перапісу насельніцтва ў кастрычніку 2019-га, хаця, можа быць, размаўляць па-беларуску — гэта толькі ў вашых планах.

Без нашых высілкаў і ахвяраў (не такіх ужо і вялікіх, праўда?) нічога не будзе. Зразумела, што працэй ціха сядзець і чакаць, калі ўлады прынясуць беларускую мову на сподачку. Але чакаць такой міласці ад людзей, якія дзесяцігоддзямі для беларушчыны нічога не рабілі, не выпадае.



# Як улады выконваюць «дармаедскі» дэкрэт

**У «дармаеды» запісваюць ветэранаў працы, а ў судзе «не занятую ў эканоміцы» папрасілі забраць заяву.**

З тыдзень таму жыхарка Гомеля Марыя Тарасенка звярнулася ў суд і запатрабавала паставіць перад Канстытуцыйным судом пытанне, ці парушае Канстытуцыю Дэкрэт №3, а таксама прызнаць яе занятай у эканоміцы і абавязаць камісію па садзейнічанні занятасці выключыць яе з базы «дармаедаў».

Днямі ёй патэлефанавалі з суда Чыгуначнага раёна Гомеля і папрасілі забраць заяву. Тарасенка паведаміла пра гэта юрысту прафсаюзу РЭП Леаніду Судаленку.

У інтэрв'ю praca-by.info Судаленка заявіў, што будзе чакаць афіцыйнага адказу суда. Праваабаронца нагадаў, што судовая абарона правоў належыць кожнаму грамадзяніну.

— Гэта нам гарантуе Канстытуцыя, і ні адзін суддзя ў краіне не мае ніякага права адмовіць ва ўзбуджэнні справы! Атрымліваецца, для паўмільёна беларусаў, тых, каго чыноўнікі назвалі «не занятымі ў эканоміцы», шлях у суд закрыты? — задаецца пытаннем Леанід Судаленка.

Мінчанін Сяргей аплачваў праз інтэрнэт-банкінг камунальныя плацяжы сваіх бацькоў, 1938 і 1942 гадоў нараджэння. Пры аплаце з'явілася паведамленне: «Вы папярэдне аднесеныя да грамадзян, незанятых у эканоміцы».

— Чаму не знайшлося ніводнага чалавека, які хаця б праверыў даты нараджэння? — сказаў мінчук FINANCE.TUT.BY. — Хто даў права абражаць маіх бацькоў, ветэранаў працы, пенсіянераў, якія маюць працоўныя стажы больш за 40 і 30 гадоў, называючы іх не занятымі ў эканоміцы? Хто будзе прыносіць прабачэнні? Хто адкажа за тое, што мне давялося бацькам ці ледзь не хуткую дапамогу выклікаць пасля такіх абразаў?

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**



## Слуцкія прадпрыемствы павіншавалі з Днём роднай мовы

Марыя ВЕРАС

**Слуцкае Таварыства беларускай мовы павіншавала 20 установ горада з міжнародным Днём роднай мовы.**

У самаробным віншавальным лістку сябры ТБМ звярнуліся да кіраўніцтва і супрацоўнікаў дваццаці дзяржаўных і недзяржаўных устаноў з просьбай зладзіць мерапрыемствы па пашырэнні беларускай мовы ў дзейнасці слуцкіх арганізацый.

Слуцкі сыраробчы камбінат, камбінат хлебапрадуктаў, вошатны, цукровы і іншыя мясцовыя заводы атрымаюць, апрача віншавання, пажаданне ажыццяўляць маркіроўку прадукцыі з інфармацыяй для пакупнікоў на дзвюх дзяржаўных, альбо толькі на адной беларускай мове.

— У нашай краіне дзве дзяржаўныя мовы, — гаворыць адзін са складальнікаў віншавальнай паштоўкі Мікалай Зыкаў. — Але ў гэты дзень галоўным аб'ектам увагі становіцца мова тытульнай нацыі — беларуская. У Слуцку шмат заводаў, якія выпускаюць прадукцыю, што карыстаецца попытам у насельніцтва.

Чаму б ні прачытаць пра прадукцыю этыкеткі воцатнага або цукровага заводу па-беларуску? Гэта б было адным са спосабаў выкарыстання беларускай мовы ў паўсядзённасці.

У звароце да кіраўніцтва КУП «Слуцкая ЖКГ» сябры таварыства просяць беларусізаваць указальнікі вуліц і шыльды з назвамі вуліц горада, каб пашырыць сферу ўжывання беларускай мовы ў грамадскай прасторы.

Не абышлі ўвагай у віншавальных паштоўках Слуцкі РАУС, кіраўніцтва Слуцкага райвыканкама і аддзелы ідэалогіі і адукацыі. Ім таксама прапанавана ажыццяўляць беларусізацыю сваёй дзейнасці, паколькі «нацыянальная мова з'яўляецца найважнейшай каштоўнасцю любога народа, а ахова мовы — абавязак як дзяржавы, так і грамадства».

# Курапаты — гэта знак часу

Зміцер ДАШКЕВІЧ

**Ёсць вялікае пытанне да кожнага патрыёта: калі сёння ты, твае думкі і тваё сэрца не ў Курапатах, то дзе ты ўвогуле?**

Два гады таму шэсць адмарозкаў размясціліся на адмерзлай глебе будпляцоўкі ля Курапатаў. Правыя і левыя, нашы і іхныя прадказвалі кепскі лёс адмарожанай справе. На трэція суткі я ўжо і сам маліўся, каб нас перасадзілі і не трэба было з ганьбаю сыходзіць сваімі нагамі. Але Творца гісторыі кажа: «Мае думкі — не вашыя думкі, і Мае шляхі — не вашыя шляхі». Таму па выніку Бог даў нам не адсідку, а перамогу.

Менавіта ў 2017-м дзяржчыноўнікі пачалі выказвацца пра неабходнасць ушанавання Курапатаў, аж нават намеснік старшыні КДБ агучыў пералік месцаў, дзе ў Мінску ў 30-х камуністы ладзілі тэрор. Аж галоўны чыноўнік грозна патрабаваў паставіць кропку ў «палітычных спекуляцыях» вакол Курапатаў і ўсталяваць ва ўрочышчы памятны знак. І мы сапраўды падумалі, што ён больш не будзе на гэтым спекуляваць і паставіць кропку ў забудове ахоўнай зоны нацыянальнага некропаля.

Але прыйшоў 2018-ты, і мы з сумам убачылі святочны інтэр'ер бульбашжора «Поедем, поедим».

З іншага боку, самадзержац абяцаў памятны знак, і ён яго паставіў: забаўляльны рэстаран у былой, дзеля таго адмыслова ўрэзанай, ахоўнай зоне Курапатаў — гэта сапраўдны памятны знак пра 25-гадовую эпоху бяспамяцтва.

Зрэшты, нічога ў гэтым новага. Але я задумаўся, чаму мы зноў і зноў чуем гэта слова, Курапаты? 2017-ты, 2018-ты, 2019-ты... Будоўля бізнэс-цэнтру і нечуваная згуртаванасць людзей вакол абароны, забаўляльны кабак і «Ноч паэтаў», раструшчаная лава і новыя вялізныя крыжы вакол некропаля, збітыя машынамі абаронцы і штодзённая варта ля рэстарана... Трэці год мы гаворым пра Курапаты, ці ёсць у гэтым нейкі сэнс? Калі гісторыя — гэта не хаос і не збег выпадковасцяў, але лагічны і заканамерны працэс, то ці не ёсць Курапаты знакам часу?

У 1988-м Беларусь даведалася пра Курапаты. У 1989-м у Курапатах усталявалі першы крыж. А ў 1990-м абвешчана Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. А ў 1991-м бел-чырвона-белы сцяг, які яшчэ тры гады перад тым міліцыянты маглі драць у Курапатах, стаўся Дзяржаўным сцягам Беларусі.

Ці многія ў 1988-м і 1989-м распазналі знакі часу? Дзякуй Богу за тых людзей, хто распазнаў, — за тых, хто ўздымаў бел-чырвона-белы сцяг і абвяшчаў незалежнасць. Але пераважная большасць, на жаль, знакаў часу не распазнала. Таму прыйшоў яшчэ горшы бес, які ўзяў горшае ад камуністаў і горшае ад капіталістаў: і асуджанае самімі камуністамі імя Сталіна рэабілітаваў, і культ «усім па 500 долараў» кананізаваў.

Дзве тысячы гадоў таму Ісус Хрыстос насварыўся на сваіх сучаснікаў, кажучы ім: «Крывадушнікі! Аблічча неба адрозніваеце, а знакаў часу не можаце?» На жаль, гэты папрок актуальны цяпер і для нас. Бо Курапаты сёння — гэта першасны выклік для ўсіх і галоўны знак часу.

Канешне, у розны час у нас могуць быць розныя выклікі. Летась галоўным выклікам для нас быў Дзень Волі — і дзясяткі тысяч людзей, якія адчулі знак часу, з'ядналіся вакол кампаніі #БНР100.

Хто ведае, заўтра расійскія танкі паедуць да нашых межаў — і мы, безумоўна, будзем не пад брамай бульбашжора стаяць, а акопвацца ў лясах Веткаўскага раёна. Але сёння Курапаты — гэта відавочны для нас Божы знак часу. Ён настолькі відавочны, што Госпад паўтарае для нас яго трэці год запар.

Таму ёсць вялікае пытанне да кожнага патрыёта: калі сёння ты, твае думкі і тваё сэрца не ў Курапатах, то дзе ты ўвогуле? Ці не паглынула цябе другаснае, зацьміўшы першаснае? Ці не праспаў ты знакі часу, як на пераломе 90-х праспалі многія? Калі абагульніць груба, праспалі мы ўсе. Праспалі цэрквы, якія былі не гатовы несці духовую праўду, — і прыйшлі кашпіроўскія. Праспалі чыноўнікі, негатовыя да рэформаў, — і прыйшлі маўродзі з алігархамі. Па многіх пазіцыях праспала і інтэлігенцыя — і мы скаціліся ў эпоху яшчэ горшую за пераспелы савок.

Я пэўны, у Курапатах Бог дае нам сёння бясспрэчныя знакі часу. Ад таго, як адкажам мы на іх, і ці адкажам увогуле, залежыць тое, якім будзе заўтра.

# Зноў напад на абаронцаў Курапатаў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Увечары 16 лютага на старшыню «Маладога фронту» Дзяніса Урбановіча падчас варты ў Курапатах наехала машына.**

Актывіст быў шпіталізаваны, лекары дыягнаставалі ўшыбы. Але праз два дні яму стала горш, і Урбановічу наклалі гіпс, каб зафіксаваць спіну, з якім ён мусіць хадзіць тры тыдні. У абаронцы Курапатаў пашкоджаныя правае плячо і рука, ёсць пытанні па селязёнцы.

Як пішуць у сацсетках, кіроўца аўтамабіля раптоўна даў газу з месца і на хуткасці наехаў на Дзяніса Урбановіча, калі той падышоў, каб уручыць яму буклет пра Курапаты каля рэстарацыі «Поедем, поедим». Кіроўцу аўтамабіля затрымалі супрацоўнікі ДАІ і забралі ў яго правы.

Актывісты Курапацкай варты паспелі зафіксаваць аўтамабіль і высветліць асобу кіроўцы. Паводле інфармацыі актывіста і журналіста-расследавальніка Дзяніса Івашына, брутальны наезд на Урбановіча здзейсніў Анатоль Лабанок — музыка, які займаецца канцэртнай дзейнасцю, грае на кантрабасе, выкладае бас-гітару ў дзяцей і нават выступаў разам з Алесем Камоцкім. Зрэшты, апошні потым запэўніў журналістаў, што сувязі з гэтым музыкам у яго даўно згубленыя.

Варта абароны Курапатаў фіксавала машыну Лабанка ўжо двойчы: 3 лістапада 2018 года і 26 студзеня 2019-га. Выявілася, што Лабанок прыязджае выступаць у рэстаран «Поедем, поедим».

Выданню «Наша Ніва» ўдалося звязацца з музыкам, але з яго версіі падзей не зразумела, што стала прычынай наезду на Урбановіча.

«Я пабачыў, што гэтыя людзі выклалі ў інтэрнэт пра мяне, і зразумеў, што сутыкнуўся з подлымі і хлуслівымі людзьмі. Гэта чыстая правакацыя. Ёсць улады, якія разбяруцца і вынесуць вердыкт, хто мае рацыю, а хто не мае. Я не хачу нічога казаць, бо ўжо выслухаў пра сябе столькі бруду: і пра сваё прозвішча, і пра паходжанне. Я раней думаў, што Беларускі народны фронт — гэта прыстойныя людзі, якія рупяцца пра нацыянальную свядомасць, а яны проста чуткі збіраюць і абліваюць брудам.

На мяне сталі казаць, што я расіянін, што ў мяне дзед у НКВД служыў. Адразу так сталі абгаворваць. У мяне партызанскія карані, што з мамінай лініі, што з бацькавай. Яны нават гісторыі сваёй не ведаюць.

У Курапатах няхай збіраюць грошы, ставяць помнікі, вянкі, збіраюцца, успамінаюць. А не гэтымі радыкальнымі метадамі, што гэта за метады такія? Любы мір лепшы за вайну. А гэта вайна! На маленькім узроўні, але вайна, правакацыя. На якой аснове вы перагароджваеце дарогу? Хто ім даў права? Яны не разумеюць, што парушаюць правілы дарожнага руху? Прычым планамерна парушаюць. Там гісторыі няма, гэта пастановачны момант», — сказаў журналістам Лабанок, дадаўшы напрыканцы размовы моцнае слоўца.

Яно, канешне, можна зразумець: творчая асоба з тонкай душэўнай арганізацыяй, якая востра перажывае ўсё, што адбываецца навокал... Але навошта давіць людзей? Можна ж знайсці супакаенне ў той жа музыцы, Моцарта паслухаць, ці што.

У сваю чаргу пацярпелы ад наезду Дзяніс Урбановіч запэўнівае: «Курапаты буду абараняць да апошняга, няглядзячы на траўмы, якія атрымаў у суботу. Жыве Беларусь!»

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# І загад яму — на Захад...

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пасля трохдзённай сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна ў Сочы Беларусі, падаецца, трэба шукаць новае месца ў гэтым супярэчлівым свеце.**



Фота www.Thinktanks.by

Дзіўныя «перамовы» кіраўнікоў Расіі і Беларусі скончыліся нічым, нібыта іх і не было. Пакаталіся на лыжах, пагулялі ў хакей, пагаварылі пра адукацыю і спартсменаў. Па выхадзе паведамілі журналістам, якія тэмы яны не абмяркоўвалі, і раз'ехаліся.

Лукашэнка заявіў, што не размаўляў з Пуціным пра галоўную праблему — мільярды, якія Мінск губляе ад падатковага манеўру. «Не манеўрамі толькі жывуць людзі», — з усмешкай сказаў беларускі кіраўнік па выніках трохдзённай сустрэчы з Пуціным. А Пуцін зазначыў, што «мы дамовіліся, што прааналізуем усё, што зроблена па саюзнай дамове, зрахуем гадзіннікі па інтэграцыйнай павестцы».

Невядома, хто зацягвае перамовы. Ці Масква, якая не жадае кампенсаваць Беларусі «падатковы манеўр», ці Мінск, якому вельмі не падабаецца ідэя «шчыльнай інтэграцыі». Але, відавочна, што абодва бакі проста не зацікаўленыя ў выніковасці падобных размоваў.

Але, калі Крэмль з інтэграцыяй можа чакаць да бясконцасці, беларускім уладам грошы патрэбныя ўжо зараз. І іх даводзіцца шукаць. А дзе іх шукаць, калі не дае Расія? Альбо ў Кітаі, альбо на Захадзе.

Па вяртанні з Сочы беларускі кіраўнік сустрэўся з еўрапейскім камісарам па бюджэце і чалавечых рэсурсах Гюнтэрам Этынгерам. Менавіта яго структура адказная за інвестпраекты ў краінах, прылеглых да ЕС. І вось тут ужо Лукашэнка разліваўся салаўём. «Я хачу вас запэўніць, што Беларусь у дачыненні да сваіх суседзяў заўсёды прытрымліваецца вельмі ўзважанай і акуратнай палітыкі. Мы лічым, што суседзі ад Госпада, іх не выбіраюць, таму з імі трэба будаваць добрыя адносіны. Выходзячы з гэтага, мы заўсёды будзем надзейным партнёрам Еўрапейскага саюза, і за беларускі кірунак (амаль паўтары тысячы кіламетраў) вы можаце не турбавацца. Вядома ж, мы хочам, каб падобныя пачуцці былі ўзаемнымі», — казаў ён.

Пры гэтым Лукашэнка казаў, што быў бы зацікаўлены, каб экспарт Беларусі ў ЕС дасягаў 30–35%. Ён і зараз неблагі — 10 мільярдаў долараў на год. Але «ёсць яшчэ порах у парахаўніцах»...

Этынгер, падаецца, быў агаломшаны такім прыёмам, і адзначыў у адказ, што ЕС гатовы падвысіць фінансаванне праектаў у Беларусі — як па лініі добрасуседства, так і па лініі праграмы «Усходняга партнёрства». І нават намякнуў, што мерапрыемства з нагоды дзесяцігоддзя «Усходняга партнёрства» на высокім узроўні можа прайсці ў Мінску.

Такім чынам Пуцін, які, пэўна, лічыць, што Беларусь ад яго нікуды не падзенецца, бо цалкам закрэдытаваная Расіяй, атрымаў пэўны ўдар пад дых. Фінансаванне ад ЕС на развіццё памежнай і транспартнай інфраструктуры дазволіць Беларусі вызваліць значныя сродкі. Галоўнае, каб гэтыя сродкі пайшлі не на подкуп выбаршчыкаў у час «палітычнай вакханаліі», а на аплату расійскіх крэдытаў.

Яшчэ адной непрыемнай навіной для расійскага кіраўніцтва, пэўна, стала справаздача Мінэканамразвіцця суседняй дзяржавы. Аказваецца, саюзная інтэграцыйная Беларусь уваходзіць у топ-5 краін па колькасці ўведзеных супраць Расіі абмежаванняў.

Найбольшую колькасць абмежаванняў супраць Расіі ўвёў Еўрасаюз — 25. Далей ідуць Украіна (22), Індыя (16), Беларусь (13), Турцыя (12) і ЗША (9).

Праўда, нашы абмежаванні не вельмі моцна б'юць па расійскай кішэні. Больш за ўсё Расія пацярпела ад санкцый ЕС (2,4 мільярда долараў), ЗША ($1,1 мільярда) і Украіны ($775 мільёнаў). Затым ідуць Турцыя ($713 мільёнаў), Індыя ($377 мільёнаў), Іран ($320 мільёнаў) і Кітай ($174 мільёны). Шкода ад уведзеных нашай краінай абмежаванняў склала ўсяго $42 мільёны — на 10-м месцы.

Усяго ж супраць Расіі ўведзена 159 абмежавальных мераў 62 краінамі. Абмежаванні ўключаюць захады па абароне рынку (антыдэмпінгавыя, кампенсацыйныя і спецыяльныя і ахоўныя пошліны), іншыя нетарыфныя меры (ліцэнзаванне, квоты, тэхнічныя бар'еры, санітарныя і фітасанітарныя меры) і санкцыі.

Што тычыцца Беларусі, то, зразумела, у нас не санкцыі, у нас «захады па абароне рынку». Дый як ім не быць? Мы пісалі пра тое, што Рассельгаснагляд, праверыўшы расійскае малако, не знайшоў у ім малака. Цяпер такі ж лёс напаткаў ці не самы нацыянальны расійскі прадукт — пельмені.

«Расякасць» праверыла ўсе расійскія пельмені і не знайшла ні аднаго вытворцы, якому можна надаць дзяржаўны Знак якасці, паведаміла ТАСС. Вытворцы падмянялі заяўленыя на этыкетцы інгрэдыенты больш таннымі аналагамі, дадавалі крухмал і загушчальнікі, якія не былі пазначаны ў складзе прадукту. Эксперты знайшлі ў мясе рэшткі антыбіётыкаў.

Дык ці дзіўна тое, што мы адмаўляемся ад расійскай прадукцыі?

І тым больш было б дзіўна, каб прадпрымальныя беларусы такім становішчам у «стратэгічнага партнёра» не скарысталіся. Паводле дадзеных Рассельгаснагляду, у першыя месяцы 2019 года павялічыліся спробы ўвозу грамадзянамі Беларусі немаркіраванай жывёлагадоўчай прадукцыі, нібыта для ўласных патрэбаў. Паводле звестках ведамства, беларусы ў прыватным парадку пачалі актыўна везці ў Расію курыныя яйка, курыныя мяса і субпрадукты, а таксама ялавічыну.

Меркавана, гэтая прадукцыя ідзе на так званыя фермерскія рынкі Маскоўскай вобласці для рэалізацыі пад выглядам фермерскага прадукту. Падобныя спробаў правозу прадуктаў харчавання грамадзянамі Беларусі стала значна больш, чым было яшчэ год таму. Прычым, гаворка ідзе менавіта пра прыватныя выпадкі, а не пра «шэры бізнес». Беларусы вязуць прадукты харчавання ў аўтобусах, у легкавых аўтамабілях, у невялікіх бусах. Абы зарабіць — а заадно забяспечыць расіян якаснымі прадуктамі.

Так што спробы Рассельгаснагляду абараніць рынак за кошт абмежавання паставак прадукцыі з беларускіх прадпрыемстваў пацярпелі паразу. Што не робіцца арганізавана — будзе рабіцца неарганізавана.

Ну і добрая навіна для ўсіх аўтааматараў, незалежна ад таго, вязуць яны харчы ў Расію ці не. У Беларусі абмяркоўвaецца пастанова Саўміна, згодна з якой дазволяць праводзіць тэхагляд індывідуальным прадпрымальнікам. Мяркуецца, што прапанаваныя захады знізяць карупцыю на прадпрыемствах транспартнага ведамства.

А можа быць, яны знізяць і кошты на тэхагляд.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алесь Марачкін

**У Мінску пачалася падрыхтоўка да правядзення Міжнароднай канферэнцыі па дэкамунізацыі Беларусі.**

Па словах старшыні яе працоўнай групы, мастака і грамадскага дзеяча Алеся Марачкіна, павінен адбыцца своеасаблівы «Маскоўскі Нюрнберг», таму што Масква працяглы час была не проста сталіцай Савецкага Саюза, а цэнтрам сусветнага камунізму. Алесь Марачкін нагадаў, што ў многіх краінах былога СССР і савецкага блоку гэты працэс ужо адбыўся і камуністычная ідэалогія і сімволіка там пад забаронай. Але ў Беларусі ўсё на тым жа месцы, як было ў БССР.

Па словах Марачкіна, плануецца, што гэтая грамадская акцыя адбудзецца восенню, хутчэй за ўсё, у лістападзе. Яе галоўная ідэя і мэта — распавесці пра злачынствы, якія здзяйсняліся падчас камуністычных часоў. Асабліва важна гэта зараз, калі неабальшавіцкія, сталінскія сілы ўзнялі галаву і спрабуюць узяць рэванш.



## Валерый Варанецкі

**Былы намеснік міністра замежных спраў і пасол Беларусі ў Аўстрыі, а цяпер старшыня парламенцкай камісіі па міжнародных справах, падзяліўся ў фэйсбуку паведамленнем Акадэміі навук пра тое, што ў іх праходзіць «Тыдзень роднай мовы».**

Пад допісам разгарнулася дыскусія, і ў адказ на адно з паведамленняў Варанецкі выказаў упэўненасць, што «нам патрэбныя таксама ўніверсітэты з беларускай мовай выкладання».

«Зразумела, што гэта звязана з месцам і роляй мовы ў грамадстве, — сказаў Варанецкі «Нашай Ніве». — Сёння яна, мы бачым, недастаткова запатрабаваная як сродак зносін і, зразумела, мае патрэбу ў дзяржаўнай падтрымцы. Важна фармаваць у грамадскай свядомасці стаўленне да беларускай мовы як да неад'емнага і найважнейшага складніку культуры, самабытнасці нашага народу, павышаць яе грамадскі прэстыж».

«Гэта найважнейшы атрыбут нашай дзяржаўнасці, мова мае вялізнае значэнне ў справе захавання нашага культурнага кода і перадачы яго нашчадкам, гэта наша неаспрэчная спадчына. Адсюль і разважанні, і разуменне, што калі мы глядзім у будучыню нашай дзяржавы, у будучыню нашай адукацыі ў тым ліку, то павінен абавязкова быць беларускі ўніверсітэт з беларускай мовай выкладання», — падсумаваў ён.



## Іван Караічаў

**Спартыўны піяршчык даў жорсткі адказ беларускаму футбольнаму абаронцу Дзянісу Палякову, які нядаўна перайшоў ва «Урал» і назваў Беларусь і Расію «практычна адной краінай».**

Караічаў піша, што сем гадоў працаваў у спартыўным піяры і заўзее за наш футбол з 1984 года — «з самай першай гульні, з таварняка супраць Украіны». «Быў на гульні супраць Люксаў (1994), амаль што плакаў пасля перамогі над Галандыяй (1995), сціскаў кулакі, калі нарвежцы такі дацiснулі нашых на першым афіцыйным выездзе».

«Дзяніс, з моманту АДНАЎЛЕННЯ незалежнасці маёй краіны я заўзею за ўсе нашы клубы ў еўракубках. БАТЭ, мінскае «Дынама», «Атака-Аўра», «Фандок» — мне пофіг, таму што з Беларусі. Маёй краіны, за якую сотні тысяч, а можа і мільёны гатовыя галовы скласці», — піша Караічаў.

Няма нічога дрэннага, каб адчуваць сімпатыі да Расіі, адзначае Караічаў. «Але практычна адна краіна? Якога чорта? (...) У кастрычніку 1992-га я ў самым першым матчы заўзеў за Беларусь супраць Украіны, а не за Саюзную дзяржаву супраць Украіны... А разгром Польшчы ў 2001-м? А гераічны выезд у Італію, калі вазілі ў 2004-м і цудам прайгралі? А наогул увесь адбор з 0-2 Украіне дома, калі ўвесь стадыён верыў у банду Малафеева, у Валіка і Хаца? Дзясяткі тысяч сэрцаў рваліся разам з выступам зборнай на футбольных палях. Гэта была зборная Саюзнай дзяржавы? Не, Дзяніс, — Беларусі», — зазначае Караічаў.

«Дзяніс, у нас адна краіна. І яна ніяк не называецца Саюзная дзяржава... Наша Радзіма, Дзяніс, называецца Беларусь. І зборная ў нас, Дзяніс, Беларусі. Дзяніс, гэта важна, глядзіце, не пераблытайце», — адразае Караічаў.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Беларускі варыянт французскага анекдота

**Нягледзячы на амаль чатырохразовую перавагу колькасці гарадскіх жыхароў над сельскімі, носьбіты гарадской культуры па-ранейшаму застаюцца ў меншасці.**




Здавалася б, у век інтэрнэту масавая вера ў міфы павінна знікнуць. Адна справа — старажытныя грэкі з іх Зеўсам-Грамоўнікам, кентаўрамі і сірэнамі, і зусім іншае — сучасныя беларусы з сярэдняй, як мінімум, адукацыяй, заточанай на падрыхтоўку прафесійных матэматыкаў.

Крыху афіцыйнай інфармацыі, запазычанай у «Статистическом ежегоднике» за 2017 год з раздзела «Размеркаванне спісачнай колькасці работнікаў арганізацый па ўзроўні адукацыі»: вышэйшая — 33,0%, сярэдняя спецыяльная — 22,3%, прафесійна-тэхнічная — 20,5%, агульная сярэдняя — 22,2%, агульная базавая (у тым ліку агульная пачатковая) — 2,0%.

Так і хочацца напісаць: «Амерыка адпачывае», ды няма часу на пошук адпаведнай статыстыкі. Таму прывяду тыповы прыклад міфалагічнага мыслення: «Палітычная сітуацыя ў 2020 годзе ў Беларусі на «прэзідэнцкіх выбарах» выдатна вядомая і нам у Беларусі, і Еўропе, і ЗША, і нашым суседзям, ды і адзінаму палітыку (АП). Яна такая: АП сумленна не выйграваў ніякіх выбараў пасля 1994 года. Ніякіх дэмакратычных выбараў у Беларусі ён выйграць не здольны, затое здольны развязаць яшчэ большыя рэпрэсіі супраць народа і працягнуць знішчаць эканоміку краіны».

Цытата запазычаная з артыкула «Прыклад Венесуэлы адкрывае акно магчымасцяў для Беларусі». Яе аўтар — кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Андрэй Саннікаў. Але я нездарма назваў прыведзены прыклад «тыповым». Сярод лідараў апазіцыйных партый, мабыць, няма ні аднаго, хто б ні заяўляў пра немагчымасць АП перамагчы «сумленна».

Такая перакананасць, як правіла, заснаваная на асабістым вопыце зносін апазіцыянераў з насельніцтвам. Гэта, маўляў, яшчэ 3–4 гады таму на перыферыі многія адкрыта падтрымлівалі АП. Але сёння настрой у людзей змяніўся кардынальна. Куды ні прыедзеш, з кім ні пагутарыш — усюды сустракаеш падтрымку.

Практыка — крытэр ісціны. Што можна супрацьпаставіць такім рашучым заявам? Толькі тое, што яны гучаць ужо трэці дзясятак гадоў.

«Міф, — тлумачыць дырэктар «Лявада-цэнтра» Леў Гудкоў, — па сутнасці сваёй ірацыянальны. Менавіта таму сродкаў барацьбы з ім практычна няма. Сродкі масавых камунікацый, інтэрнэт — гэта ўсяго толькі інструменты перадачы. Ім усё роўна, што трансляваць — міф ці інфармацыю, якая развейвае гэты міф».

## Як у показцы пра Напалеона

Безумоўна, сумленныя выбары не зводзяцца да сумленнага падліку галасоў. Калі, напрыклад, дзяржава ўвяла манаполію на эфірнае тэлебачанне, дык усялякія размовы пра сумленнасць ператвараюцца ў пустую балбатню.

Прывяду прыклад з жыцця. У сярэдзіне 90-х гадоў аўтар «Азбукі паліталогіі» працаваў дырэктарам тэлекампаніі «М4» на 8-м канале. Кампанія спецыялізавалася на навінавых праграмах. Здавалася б, выбары — яе залаты час, толькі паспявай намазваць масла на хлеб. Аднак пасля 1994 года перадатчык у Калодзішчах на час выбарчых кампаній для 8-га канала чамусьці пачынаў адчуваць патрэбу ў прафілактыцы і... адключаўся.

Што да сумленных выбараў, то яны не зводзяцца толькі да сумленнага падліку галасоў. Аднак сумленны падлік галасоў у шэрагу іншых крытэрыяў сумленнасці не мае сабе роўных. У гэтай сувязі прывяду анекдот, які я распавёў супрацоўнікам місіі БДІПЧ АБСЕ ў 2015 годзе: «У час наведвання аднаго з гарнізонаў Напалеон пацікавіўся, чаму яго кіраўнік не вітаў імператара гарматнымі залпамі. Той пачаў апраўдвацца: «Па дзесяці прычынах, Ваша Вялікасць. Па-першае, у мяне няма гармат...». «Дастаткова!» — перапыніў яго Напалеон».

Супрацоўнікам місіі, якія не зразумелі намёку, давялося патлумачыць, што ў Беларусі фармаванне ўчастковых выбарчых камісій — гэта аналаг гармат з анекдота. Калі ад спісу кандыдатаў, вылучаных апазіцыйнымі партыямі, у камісіі трапляюць некалькі працэнтаў, то гэтага цалкам хапае, каб сказаць: «Дастаткова».

**Даведка**

У 2015 годзе ад апазіцыйных палітычных партыі праз сіта выканаўчых камітэтаў змаглі прабіцца толькі 30 чалавек (6,4% з заяўленых). У лаяльных уладам партый прынцыпова іншы паказчык — 2906 (86,4%).

Выснова з такой статыстыкі відавочная: калі ўлады на месцах прапускаюць менш за 80% кандыдатаў у сябры выбарчых камісій ад апазіцыйных партый, то такія выбары не з'яўляюцца выбарамі, і таму любыя намаганні па іх ацэнцы на адпаведнасць дэмакратычным нормам пазбаўленыя сэнсу.

## Два народы ў адной краіне

Але як бы ні падлічваліся галасы, як бы ні ацэньваліся іншыя крытэры, вынікі галасавання не могуць выйсці за мяжу, устаноўленую прыродай беларускага грамадства. А галоўнай яго характарыстыкай, пра што мне неаднаразова даводзілася пісаць, з'яўляецца раскол. У самым агульным выглядзе ён народжаны сутыкненнем сучаснасці і сялянскага традыцыяналізму.

У Беларусі колькасць гараджан перавысіла колькасць сельскіх жыхароў у 1976 годзе, а на пачатак 2018-га ў гарадах пражывала 78,1% насельніцтва. Вось толькі якасныя змены ўсё ніяк не могуць угнацца за зменамі колькаснымі, таму працэс сацыякультурнай мадэрнізацыі па-ранейшаму далёкі ад завяршэння.

У выніку ў адной краіне жывуць як бы два народа. «Аднаму, — на думку культуролага Ігара Якавенкі, — патрэбна сакральная ісціна, гарантаваная сакральнай уладай. Іншы народ сам фармуе прастору светапоглядных і палітычных каштоўнасцяў і выпрацоўвае лінію ўласных паводзінаў. Першаму такая сітуацыя бачыцца хаосам, у якім немагчыма нічога зразумець і незразумела, як жыць».

На жаль, другі народ складае ў Беларусі «большасць». Ён і забяспечыў у 1994 годзе будучаму АП перамогу на першых і апошніх дэмакратычных прэзідэнцкіх выбарах. Якасць наступных выбараў «большасць» цалкам задавальняла, бо пераможцам заўсёды абвяшчаўся кандыдат, за якога «большасць» галасавала.

У табліцы прыведзеныя вынікі галасавання, зафіксаваныя сацыёлагамі НІСЭПД. Яны істотна адрозніваюцца ад афіцыйных — і не толькі таму, што прыведзеныя ад колькасці апытаных, а не ад колькасці тых, хто прагаласаваў, як гэта робіць ЦВК.

**ЗА КАГО ВЫ ПРАГАЛАСАВАЛІ НА МІНУЛЫХ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАХ? (У ПРАЦЭНТАХ АД КОЛЬКАСЦІ АПЫТАНЫХ)**

| Варыянт адказу | 1994 | 2001 | 2006 | 2010 | 2015 |
|---|---|---|---|---|---|
| Лукашэнка | 35* | 48 | 58 | 51 | 38 |
| Дэмакраты | 26 | 21 | 24 | 28 | 14 |
| За іншых кандыдатаў | 19 | 3 | 2 | 1 | 9 |
| Няма адказу / Не хачу адказваць | 2 | 9 | 5 | 4 | – |
| Супраць усіх | 4 | 7 | 3 | 5 | 11 |
| Не галасавалі | 14 | 12 | 8 | 12 | 27 |

* Дадзеныя першага тура

Сам пентачэмпіён любіць паўтараць, што на першых прэзідэнцкіх выбарах за яго прагаласавала больш за 80% выбаршчыкаў. І гэта праўда, але не ўся. У другім туры, паводле звестак ЦВК (а гэта быў ЦВК да Ярмошынай), за яго прагаласавала 80,34% ад колькасці тых, хто прыняў удзел у галасаванні, што склала 56,7% ад спісачнага складу выбаршчыкаў.

У 2006 годзе яўка была рэкорднай, рэкорднай была і падтрымка АП (58% і 63% адпаведна). Далей, нібы нітка за іголкай, узровень электаральнай падтрымкі АП ішоў следам за макраэканамічнымі паказчыкамі. Аднак ЦВК гэтага не заўважыў і адрапартаваў у 2015 годзе пра рэкордны ўзровень электаральнай падтрымкі АП — 83,5%.

## Да новага сярэднявечча

Ва ўмовах імітацыйнай (электаральнай) дэмакратыі палітычная адказнасць можа быць толькі імітацыйнай. Гэтая выснова справядлівая як для АП, так і для яго апанентаў. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ў сучаснай Беларусі працэс міфатворчасці падсілкоўваецца аднычасова зверху і знізу.

«Выдумляць прасцей, чым даследаваць. Верыць прасцей, чым ведаць. У грамадстве міфаў і веры могуць падняцца і квітнець тыя, каму ў сучасным свеце няма на што спадзявацца», — сцвярджае эканаміст Уладзіслаў Іназемцаў. Таму прыведзеныя ў табліцы вынікі галасавання на прэзідэнцкіх выбарах не прымаюць ні АП, ні яго палітычныя апаненты.

Нічога нечаканага ў гэтым няма. Калі на побытавым узроўні кожны задаволены сваім розумам, але ніхто не задаволены сваім заробкам, то на ўзроўні, які прынята ў нас лічыць палітычным, знайсці задаволеных сваім электаральным рэйтынгам тым больш няпроста.

Крайнімі, як заўсёды, аказваюцца незалежныя сацыёлагі, якія атрымліваюць свае вынікі «на каленках». Пра гэта шмат і пераканаўча распавядаў цяпер ужо экс-дырэктар Інстытута сацыялогіі, заслужаны дзеяч навукі Ігар Катляроў. Той самы Катляроў, які на падставе шматгадовых даследаванняў высветліў, што «беларускай нацыянальнай свядомасці ўласцівая ідэя патрыятызму як найвышэйшай каштоўнасці».

Але калі і тыя, каго прынята лічыць элітай, і контрэліты рашуча адмаўляюць рацыянальнасць, што тады казаць пра грамадства? Пазбаўленае арыенціраў, яно лёгка згаджаецца трымацца далей ад сучаснасці і крочыць да новага сярэднявечча.

# Падман пры разліку: як не трапіць у пастку

Мікалай ДЗЯДОК

**Былы супрацоўнік ААТ «Кэпітал Лагістык» (ООО «Кэпитал Логистик») сцвярджае, што быў падмануты пры звальненні, а калі паспрабаваў сфатаграфаваць дакументы, на яго крычалі і адбіралі тэлефон. «Новы Час» разбіраецца ў сітуацыі і высвятляе, як не стаць ахвярай падману.**





Capital Logistic

Зых № 14/12-18 ад 14.12.2018

Міколу Дзядку

На падставе Вашага запыту №0-001 ад 29.11.2018 паясняем наступнае:

Жураўскі Яўген Аляксандравіч (падрадчык) выконваў пэўныя работы ў ААТ «Кэпітал Лагістык» па Дамове Падраду (грамадзянска-прававыя адносіны). Дакументы афармлены ў тэрмін, згодна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, парушэнні з боку Замоўцы адсутнічаюць. Усе належныя ўзнагароды згодна з Дамовай Падраду, актам выкананых работ выплачаны ў тэрмін.

Намеснік дырэктара А.Б.Ягнюк

Да нас у рэдакцыю звярнуўся чалавек, які сцвярджае, што быў падмануты пры звальненні з працы. Прыводзім размову з ім цалкам.

— Мяне завуць Яўген Жураўскі. Напачатку верасня я ўладкаваўся кладаўшчыком у кантору «Кэпітал Лагістык». Далей, як мне сказалі ў аддзеле кадраў, трэба будзе прайсці медкамісію і ўладкоўвацца на кантракт.

Пра нейкія штрафныя санкцыі, звязаныя з адмовай пераходзіць на кантракт, мне ніхто нічога не казаў. Але знаёмыя, што ўжо доўга працавалі ў гэтай фірме, казалі, што з пераходам на кантракт можна месяц-два пачакаць. Зразумела, што прайсці медкамісію каштуе грошай, і не ва ўсіх яны ёсць.

Я адпрацаваў першы месяц кладаўшчыком. Як і абяцалі, заплацілі 700 рублёў. Аднак некаторыя людзі за гэты час сышлі з працы. Я не пацікавіўся, чаму, а дарма.

У наступны месяц я зразумеў, што праца не такая ўжо выдатная, як распавядалі. «Сучасны пакой для прыёму ежы», як пісалі ў рэкламнай аб'яве, — рассаднік антысанітарыі і прусакоў. Шмат часу прыходзілася марнаваць на пошук тавару, які мусіў быць у адным месцы, а яго там не было. Даволі вялікія праблемы былі з ацяпленнем: у начныя змены стала зусім нявесела. Пасля гэтага я вырашыў, што не хачу там заставацца, і ў кастрычніку прыйшоў звальняцца. Я адпрацаваў амаль два месяцы. І ўжо ў аддзеле кадраў я даведаўся, што са мной не заключылі дамову падраду на наступны месяц.

Тут я зноў памыліўся — прызвычаіўся працаваць па бестэрміновай дамове падраду, і гэтым разам таксама не паглядзеў, якімі былі ўмовы гэтай дамовы. Думаў, што працую з той жа дамовай, з той жа тарыфнай стаўкай... Але мне сказалі: дамову з табой перазаключаць у сярэдзіне лістапада, калі трэба будзе прыйсці падпісаць акт прыёму выкананых прац.

***— То-бок вы сказалі: «Я хачу звольніцца?», а вам?***

— Далі абходны ліст, але сказалі: заробак толькі пасля падпісання акта выкананых працаў (гэта прапісана ў дамове падраду) за кастрычнік. То-бок у лістападзе кіраўнік нібыта правярае маю працу, і калі ён усім задаволены, я атрымліваю свае грошы.

Я прыходжу ў лістападзе, мне даюць падпісаць акт выкананых працаў, але лічбы ў ім не суадносяцца з тым, што я напрацаваў. Мне выставілі 158 гадзін, а я ведаю, што ў мяне была 161 гадзіна працы. Я пайшоў разбірацца да начальніка змены, ён паглядзеў табелі і згадзіўся — так, была памылка. Але пытанне аказалася ў іншым. У тым, што тарыфная стаўка ў мяне была амаль у два разы ніжэйшая, чым тая, па якой я, як думаў, працаваў!

***— У верасні была адна тарыфная стаўка, а ў кастрычніку яе раптоўна знізілі без вашага ведама?***

— Так. Калі ў верасні я працаваў за 5,09 рубля за гадзіну, то ў кастрычніку — за 3,48 рубля за гадзіну. Калі я зразумеў, што гэтае пытанне — не да начальніка змены, я пайшоў у бухгалтэрыю, там накіравалі ў аддзел кадраў, і мне там кажуць: «Па дамове падраду ў кастрычніку ў вас такія лічбы». Калі я спрабаваў высветліць, чаму такія лічбы, мне пачалі выдумваць адмазкі з серыі: «Ну вы ж нас падманулі, вы ж не ўладкаваліся на кантракт». Я кажу: «Пачакайце. Дзесьці агаворваліся штрафныя санкцыі? Мяне папярэджвалі аб зніжэнні тарыфнай стаўкі?». Не, не папярэджвалі. У чым тады праблема? Я сказаў, што я гэтую дамову і акт не буду падпісваць, бо не згодны з лічбамі, якія там. Тады мне сказалі: «Вы тады не атрымаеце нічога». Я кажу: «Як жа так? Ёсць жа табелі, дзе ўсё прапісана?» У адказ яны пасмяяліся і сказалі: «Гэта не дакумент!», і намякнулі, што гэта ўсё можна прыбраць.

Я даволі доўга з імі спрачаўся, а пасля мне паставілі ўльтыматум: альбо я падпісваю паперы, альбо не атрымліваю нічога. Жыць за нешта трэба, я быў вымушаны падпісаць.

Але калі я паспрабаваў у гэтай дамове паставіць дату, на мяне накрычалі і спрабавалі вырваць яе з рук.

***— То бок, дамову патрабавалі падпісаць заднім чыслом?***

— Так. Я яе падпісаў нібыта ў верасні. Атрымліваецца, што месяц я працаваў па адной дамове падраду, па той стаўцы, што я думаў, а потым аказваецца, што ўвесь час я працаваў па іншай.

Пасля мне прыносяць акт выкананых работ, і тут пачынаецца самае цікавае: ён... ужо падпісаны мной, але не маёй рукой! Калі я гэта пабачыў, вядома, паспрабаваў сфатаграфаваць, у мяне яго адразу вырвалі з рук.

***— Хто вырваў?***

— Адна з супрацоўніц аддзелу кадраў. Прыбегла начальніца аддзела кадраў. Я пачаў фатаграфаваць, спрабаваў здымаць гэта на відэа, у мяне забіралі тэлефон, закрывалі камеру рукамі. Пасля доўгіх разбіральніцтваў узялі гэтую паперу і сказалі: «Так, гэта не ваш подпіс, мы не ведаем, што адбылося». Парвалі гэтую паперу і выкінулі. Прыйшоў начальнік аховы, я растлумачыў яму сітуацыю. Ён, відаць, бачыў гэта не ў першы раз, бо сядзеў, пасміхаўся і нічога не рабіў.

Пасля я падпісаў гэтыя дакументы і сказаў, што буду з імі змагацца. Яны пасмяяліся і сказалі: «Без праблем».

Пасля, як я ўжо даведаўся, гэта даволі распаўсюджаная практыка ў «Кэпітал Лагістык», і, магчыма, не толькі там. Калі тым, хто не хоча пераходзіць з дамовы падраду на кантракт, зразаюць заробак. Звычайна людзям пра гэта кажуць заднім лікам, бо многія не сочаць за сваімі дамовамі падраду. І проста ў наступным месяцы перад заробкам ім даюць падпісаць дамову, яны падпісваюць — і бачаць, што там лічбы іншыя. Таму там такая вялікая цякучка.

Зразумела, яны хочуць звышпрыбытку і імкнуцца пакласці больш грошай сабе ў кішэню. І тое, што я звольніўся і не паглядзеў, да якой даты была заключаная дамова падраду, — гэта добрае поле для махінацыі і падману. І, як я зразумеў, я не першы, каго яны падманулі. Але, спадзяюся, буду апошнім.

***— Хтосьці яшчэ пратэставаў з гэтай нагоды?***

— Толькі бачыў, як людзі лаяліся з начальнікамі змены. Але гэта не той чалавек, які вырашае такія пытанні. Тыя людзі, хто спрачаўся, потым проста не выходзілі на працу.

## «Пры чым тут газета?»

Каб спраўдзіць расповед Жураўскага і выслухаць другі бок, мы пазванілі ў ААТ «Кэпітал Лагістык». З намі размаўляла жанчына, якая прадставілася Алесяй (магчыма, гэта была Алеся Ігнацюк, дырэктарка ООО «Кэпітал Лагістык», аднак адназначна сцвярджаць нельга). Размова з ёй не задалася. Калі мы пацікавіліся сутнасцю сітуацыі і меркаваннем пра канфлікт, яна парыравала: «Калі яго, па ягоным меркаванні, падманула арганізацыя, ёсць органы, у якія трэба звяртацца. Пры чым тут газета?» А пасля і ўвогуле параіла нам «прыязджаць да іх з пасведчаннем», калі мы хочам атрымаць каментар.

Аднак спроба дамовіцца пра сустрэчу ні да чаго не прывяла. Прадстаўніца кампаніі «Кэпітал Лагістык» так і не змагла ўзгадніць з намі час прыёму, і мы напісалі ім афіцыйны запыт. Адказ атрымаўся чаканы: «Дзейнічаем у адпаведнасці з заканадаўствам, нічога не парушаем».

Тым не менш гісторыя пакінула пытанні, якія толькі памножыліся ад раптоўнай адмовы кіраўніцтва кампаніі каментаваць канфлікт з Жураўскім. Таму мы вырашылі пачуць меркаванне эксперта. Сітуацыю каментуе юрыст Аляксей Лойка.

## «Дзеянні наймальніка з'яўляюцца незаконнымі»

Чалавек зрабіў памылку, падпісаўшы дамову, кажа Лойка. У яго сітуацыі юрыст параіў не падпісваць такую дамову. Тады можна:

а) Звярнуцца з суд з позвай па ўсталяванні наяўнасці працоўных адносінаў (у такой сітуацыі допуск да працы аўтаматычна азначае заключэнне дамовы на нявызначаны тэрмін).

б) Пасля вынясення судовага рашэння — напісаць заяву ў Дэпартамент аховы працы (прыклаўшы копію судовага рашэння) аб прыцягненні наймальніка да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне заканадаўства аб працы. На практыцы ж суды самі накіроўваюць у Дэпартамент аховы працы прыватнае судовае вызначэнне.

в) Спаганяць, у выпадку звароту ў суд, сярэднямесячны заробак па аналагічнай пасадзе на дадзеным прадпрыемстве.

Подпіс на дамове падраду заднім чыслом пацвярджае факт таго, што чалавек працаваў па дамове падраду. Калі ж ён ужо падпісаў дамову заднім чыслом, у суд хаця і можна звярнуцца, але ж дамова падпісаная, і пацвердзіць тое, што яму паставілі такі ўльтыматум, немагчыма. Можна, канешне, паспрабаваць прызнаць дамову нікчэмнай у судовым парадку — бо мелі месца працоўныя адносіны. Аднак, калі рабіць гэта праз суд, то ўсе супрацоўнікі прадпрыемства могуць сказаць, што чалавек падпісаў дамову падраду тады, калі гэта ўказана ў дамове.

## Як атрымаць зробленыя грошы?

З каментара юрыста і словаў самога Жураўскага вынікаюць тры парады, як не стаць ахвярай падману на працоўным месцы:

1. Ніколі не падпісваць дамову ці іншыя дакументы, з якімі не згодныя. Подпіс азначае фактычную згоду, і даказаць потым любы падман будзе вельмі цяжка.
2. Калі працадаўца практыкуе розны прававы статус працоўных на адных і тых жа пасадах, змушае іх пераводзіцца на кантракт ці наадварот — варта насцярожыцца. Гэта ўрадлівая глеба для маніпуляцый і падману.
3. Заўсёды правяраць рэпутацыю працадаўцы, да якога ўладкоўваешся: праз адпаведныя сайты і групы ў сацсетках. Напрыклад, «Праблемныя працадаўцы Мінска і мінскай вобласці».

У нашай дэклараванай «сацыяльнай дзяржаве» мы абароненыя ад падману працадаўцаў толькі на словах. Наяўнасць жа рэсурсаў, улады і юрыдычных перавагаў на справе дае працадаўцы значна больш магчымасцяў павярнуць любы працоўны канфлікт у патрэбнае рэчышча. Таму фраза «ратаванне пралетарыяту — справа рук самога пралетарыяту» застаецца як ніколі актуальнай.

22 лютага 2019 | № 7 (618) Новы Час




# Беларусаў чакаюць тараматы

Павел КІРЫЛАЎ

**Урад рыхтуе праграму захадаў па замяшчэнні пластыкавай тары для пітной вады ды іншых напояў на шкляную. Адначасова ў нашых крамах з'явяцца адмысловыя аўтаматы для здачы бутэлек, слоікаў і бляшанак у абмен на грошы — тараматы.**

Што стаіць за экалагічным клопатам па змяншэнні пластыку ў абарачэнні? Чаго тут болей — экалогіі ці эканомікі? Якія планы і рэакцыі ў гульцоў з розных галінаў — ад гандлю і вытворчасці напояў да шклозаводаў і перапрацоўкі адкідаў? І што ад гэтага нашаму здароўю і кашальку?

### Смеццевая стратэгія

У 2017 годзе ў Беларусі было перапрацавана 17% цвёрдых бытавых адходаў — прасцей кажучы, смецця рознага паходжання. Летась крыху болей, але меней за 20%. Згодна з Нацыянальнай стратэгіяй па абыходжанні з цвёрдымі камунальнымі адходамі і другаснымі матэрыяльнымі рэсурсамі, гэты паказнік да 2020 года павінен дасягнуць 25%. Гэта цяперашні ўзровень Польшчы. А да 2035 года, да якога і разлічана Нацстратэгія, — 35%. Аднак і тое вельмі далёка ад узроўню краінаў-лідараў, кшталту Германіі ці Швейцарыі, — 90%!

Што тычыцца тарнай упакоўкі з пластыку і шкла, то цяпер удаецца збіраць, адпаведна, трціну і дзве трціны ад таго, што прадаецца. Асобны збор не вельмі апраўдаў сябе: утылізацыйная культура ў Беларусі не надта распаўсюджаная. Не асабліва спрыялі ёй і камунальныя службы. Нават тыя з нас, хто сартаваў смецце і выкідаў яго ў адпаведныя прыдамавыя кантэйнеры, маглі бачыць, як прыязджае смеццявоз і закідае да кучы змесціва ўсіх бакаў. Гэта адбівала ўсялякую ахвоту да экалагічных паводзінаў.

Мэта ж стаіць збіраць на перапрацоўку да 90% тары. І для гэтага часткай згаданай Нацстратэгіі па смецці стане дэпазітна-закладная сістэма збору. Паралельна з яе ўкараненнем ПЭТ-пляшкі будуць выціскацца шклянымі. Натуральна, не татальна.

Прэм'ер-міністр Сяргей Румас стварыў адмысловую міжведамасную групу, якая днямі павінна прадставіць канкрэтныя заканадаўчыя і тэхнічныя прапановы. У яе складзе намеснікі кіраўніка ўраду Уладзімір Кухараў і Міхаіл Русы, дырэктар установы «Аператар другасных матэрыяльных рэсурсаў» Наталля Грынцэвіч, міністр ЖКГ Аляксандр Церахаў, міністр эканомікі Дзмітрый Крутой.

### Часова пераплацім

Дэпазітна-закладная, або дэпазітна-зваротная сістэма збору тары (шкляных і ПЭТ-пляшак, а таксама бляшанак з-пад напояў) павінна запрацаваць у 2020 годзе. Падчас падарожжаў за мяжу вы маглі назіраць, як гэтая сістэма працуе. На ўваходзе ў крамы, унутры ці звонку, стаяць аўтаматы па прыёме ёмістасцяў. Калі закідаеш туды праз адтуліну бутэлькі, гэты тарны аўтамат счытвае спецыяльныя пазнакі на іх (напрыклад, штрых-коды) і выдае табе чэк на суму закладных коштаў здадзеных пляшак.

Гэтыя чэкі прымаюцца на касах: іх можна абнаявіць і атрымаць грошы на рукі або скарыстаць пры аплаце пакупак. Чэк будзе дзейнічаць абмежаваны тэрмін — верагодна, паўгода. Закладны кошт у Беларусі ўжо вызначаны — 20 капеек. Плануецца, што ён будзе адзіным для ўсіх відаў тары — пластыкавай, шкляной і металічнай. І для любых аб'ёмаў — ад піўной пляшкі да маленькага слоічка.

Дарэчы, цяпер у пунктах прыёму шклотары расцэнкі такія: піўная пляшка — 8 капеек, з-пад віна — 13–15 капеек, з-пад гарэлкі — 7–14 капеек, трохлітровы слоік — 20 капеек, паўлітровы — 5, слоік ад гарчыцы ці дзіцячага харчавання — 3 капейкі.

У крамах закладны кошт будзе напісаны на цэнніках асобна, каб пакупнік ведаў, што ён можна вярнуць свае часова пераплачаныя 20 капеек. Гэта павінна заахвочваць здаваць пляшкі, а не выкідаць ці складаваць. Наўрад ці працэдура здавання пляшак у тарамат стане вялікім клопатам і нязручнасцю. Чаму б не прыхапіць з сабой пакет з пляшкамі пры паходзе ў краму — напрыклад, на закупы на тыдзень? Дый дзеці і падлеткі з цікавасцю і меркантыльным інтарэсам зробяць гэта за бацькоў. Вось табе і грошы на кішэнныя выдаткі, нават пэўным чынам заробленыя.

Для тых, хто і так звыкла здае тару, а не выкідае, гэта будзе прыемней рабіць у краме, чым у пункце прыёму шклотары, дзе поўна так званых асацыяльных элементаў. Тараматы будуць прымаць не ўсю тару, а толькі пазначаную адмысловымі знакамі, зарэгістраванымі ў дэпазітна-закладнай сістэме. Астатнюю можна будзе здаваць на шклабой.

### Калькулятарны скепсіс

Зацікаўлены бізнес збольшага бурчыць. Для працы з тараматнымі чэкамі давядзецца перапраграмаваць мноства касавых апаратаў у крамах. Хаця што гэта за праблема для IT-краіны, так жа? Між тым, дробныя крамы непакоіцца, што выпрабаваць сістэму будуць спачатку на буйных гандлёвых пляцоўках. Магчымасць здаваць тару стане для іх дадатковай канкурэнцыйнай перавагай. Дый наогул у дробных крамах можа папросту не быць вольных плошчаў для ўсталявання такіх апаратаў. На гэтыя выпадкі прадугледжаны ручны збор тары, але гэта азначае патрэбу заводзіць лішняга супрацоўніка. Бо, паводле санітарных нормаў, прадавец харчовых тавараў не зможа займацца прыманнем пляшак.

Вытворцы напояў ужо засцерагаюць ад істотнага падвышэння коштаў. У прыватнасці, на нашай мясцовай «Кока-Коле» кажуць, што, акрамя ўласна закладнога кошту ў 20 капеек, каля 7 капеек выдаткуецца на функцыянаванне сістэмы. Бо тараматы ж будуць абслугоўвацца, а тара збірацца і перавозіцца. Апрача таго, на пляшкі трэба будзе наносіць адмысловыя этыкеткі са штрых-кодамі для тараматаў.

Затое вытворчасць новай тары з другаснай сыравіны (адкідаў) будзе таннейшай, чым з першаснай. То бок, чым болей адкідаў не закопваецца на палігонах, а ідзе праз колазварот у перапрацоўку, тым чысцей становіцца краіна і эканомней выраб упакоўкі.



Тым часам некаторыя лічаць, што збор пад 70% шкляной тары — гэта і так годны ўзровень. Прадпрыемствы «Белрэсурсы» і «Белкаапсаюз» выступаюць за тое, каб не ўключаць шкло ў дэпазітна-закладную сістэму. Маўляў, давайце праверым на іншых адкідах: будзе плён, тады зоймемся і шклянымі бутэлькамі.

Аднак таму шкляная тара цяпер і збіраецца лепш за пластык, бо гэта эканамічна выгадней. Яе актыўна збірае цэлая армія людзей як па сметніцах гарадоў, так і на палігонах, хоць гэта закрытая тэрыторыя. Абарона старой сістэмы збірання шкляных адкідаў — ці гэта не лабіяванне нечых інтарэсаў? «Белкаапсаюз» жа непакоіцца, як мы ўжо сказалі, што яго невялікія крамы зазнаюць страты праз арганізацыю ручнога прыёму тары і падаражанне напояў.

Інвестар, у сваю чаргу, наўрад ці прынясе на дэпазітна-закладную сістэму патрэбных 100 мільёнаў еўра пры выключэнні з яго шкляной упакоўкі. Тым больш, калі настойліва абвешчана вуснамі самога кіраўніка краіны паступовае замяшчэнне ПЭТ-пляшак на шкляныя: «Не трэба труціць людзей. Перакананы, што ў вялікіх і малых начальнікаў ужо вадзічка ў шкле. У свеце пайшла тэндэнцыя вызваляцца ад поліэтылену і больш арыентавацца на экалагічна чыстую тару».

Натуральна, такое замяшчэнне не будзе татальным ні па якіх аб'ёмах тары. Як, напрыклад, замяніць ПЭТ-бутэлькі аб'ёмам 1,5 і 2 літра на шкло?

### Шкло ці пластык?

Бізнес, хоць і пагаджаецца з экалагічнай аргументацыяй і клопатам пра здароўе нацыі, але ўсё адно бурчыць наконт гэтай перспектывы. Пужаюць (і гэта праўда), што напоі падаражэюць. Ужо цяпер можна заўважыць: розніца ў цане паўлітра аднаго напою ў шкле і пластыку сягае 30–40 капеек. Заводам-вытворцам давядзецца купляць ці пераабсталёўваць лініі разлівання. І яны дакладна захочуць «адбіць» выдаткі на гэта.

Напрыклад, паводле дадзеных «Гільдыі піваварах», цяпер 75% піва разліваецца і, адпаведна, прадаецца ў ПЭТ-посудзе, каб забяспечыць «прымальны кошт для спажыўца». Таксама тут кажуць, што беларускія заводы не змогуць вырабляць патрэбныя аб'ёмы шклотары — і яе давядзецца закупляць у Расіі. А ПЭТ-пляшкі цяпер амаль цалкам вырабляюцца ў Беларусі.

Але самі заводы абяцаюць, што пераарыентуюцца: быў бы попыт.

Так што добрыя часы чакаюць той самы шкляны завод «Ялізава» ў аднайменным пасёлку Асіповіцкага раёна, якому яшчэ нядаўна пагражала банкруцтва. Дый усю шкляную вытворчасць чакае рэнесанс з экспартнымі перспектывамі. Паводле экспертаў, сусветны рынак шкла расце больш як на 5% штогод.

Таксама не варта забывацца, што выкарыстанне шкла замест пластыку — гэта эканомія бюджэту на вырашэнне экалагічных праблемаў і аздараўленне нацыі, калі б пацвярджэнні бяспекі ПЭТ-пляшкі пры кантакце з вадой ці тымі самымі газаванымі напоямі не мелі. Хаця, хутчэй за ўсё, большасць нашага небагатага грамадства абярэ больш танную, лёгкую і зручную ўпакоўку.

А якая пазіцыя ў вас?

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №2 (150)
(люты)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

**lit-bel.org**
**novychas.by**


## Змест



# Ён чытаў зоры

## Жменя згадак пра Алеся Пісьмянкова

Леанід ЛЕВАНОВІЧ



Фота www.mogilev.by

Быў светлы, трошкі зажураны, вераснёўскі дзень. Мы з Алесем выбраліся ў грыбы. Ён прыехаў да мяне на Вілейшчыну. Маю родную вёску Клеявічы, прыгожую, песенную, што маляўніча цягнулася паўз Бесядзь, знішчыў Чарнобыль. Алесевы Бялынкавічы, што стаяць таксама на Бесядзі, — наўпрост ад маёй кіламетраў дзесяць, — ацалелі.

Верасень у 2003 годзе быў грыбны. Алесь прыехаў павіншаваць мяне з 65-годдзем. Сабраліся суседзі, амаль усе жыхары невялікай лясной вёсачкі Пятрылава. Алесь быў у добрым гуморы, дасціпна, весела жартаваў, ягоны густы басавіты голас уладарыў у застоллі. Ён тады працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Вожык». Я слухаў Алеся, пазіраў на яго адухоўленае, паэтычнае аблічча: русявы чуб, пшанічныя вусы, сінія вочы, ды яшчэ прозвішча — Пісьмянкоў... Яму лёсам наканавана пісаць, думаць вершы — так вызначыў сваё крэда сам Паэт.

Пасля вячэры мы выйшлі на прагулку. Ужо ацямнела, цёмнаю зубчастаю сцяною з усіх бакоў вёску абступаў лес.

— Ваша Пятрылава стаіць, як у вянку, — дзівіўся Алесь. — А ядловец вы пасадзілі?

Госця зацікавілі вастраверхія, нібы малыя кіпарысы, ядлоўцавыя дрэўцы паабапал гаражных варот, яны стаялі быццам вартавыя.

— Так. Ім ужо дзесяць гадоў. А ліпы пасадзіў у 1987-м. Тады ж набыў гэтую хату. Малыя ліпкі выкапаў на былым хутары, дзе перад вайною нарадзілася мая будучая жонка... Ліпавую алею — дванаццаць дрэўцаў — я пасадзіў насуперак Чарнобылю. У той год набыў пчаліны рой.

Цемра пагусцела, на небе высыпалі мігатлівыя зоры. Месяц тады ўзыходзіў позна, ягонае святло не перашкаджала зоркам выяўляць усю сваю моц. Вядома, што самыя буйныя і яркія зоркі бываюць напрыканцы лета і ў пачатку восені, быццам яны даспелі за лета.

— О, Кірэевіч, глядзіце: Палярная зорка акурат над вашай хатай, — узрадавана мовіў Алесь. — А якая Венера яркая! Добрая беларуская назва яе — Мілавіца. Вацлаў Ластоўскі вычытаў у летапісах, што Венера называлася — гвязда Чагір. А Плеяды — Сітца або Вуцінае Гняздо...

На паўночным Усходзе мы адшукалі мігатлівую купку зорак — Плеяды-Сітца, знайшлі сузор'е Касіяпеі, яркія зоркі Вялікага Воза і Малога Воза — сёмая зорка яго і ёсць Палярная. Алесь прызнаўся: са школьных гадоў любіць астраномію. Я зразумеў, што назва зборніка «Чытаю зоры» зусім невыпадковая.

Той ноччу, пасля паходу ў грыбы, чытання зораў я доўга не мог заснуць: успаміны агарнулі мяне. Прыгадаўся ўжо далёкі жнівень 1980 года. Я тады пачаў працаваць на Беларускім тэлебачанні на пасадзе галоўнага рэдактара літаратурна-драматычных праграм. Першай перадачай, якую мне давялося весці, сталася перадача «Мой родны кут» — аб родных мясцінах славутага паэта Аркадзя Куляшова. Сцэнарый напісала ягоная дачка Валянціна. Мы наведалі Саматэвічы, родную вёску паэта, запісалі размову з яго настаўнікам Брыльянтавым, іншымі аднавяскоўцамі. Ад маіх Клеявічаў да Саматэвічаў сем вёрст. Падлеткам я хадзіў у Саматэвічы на кірмаш — у гэтым слынным мястэчку праводзіліся штогод кірмашы: на Ілллю 2 жніўня і на Змітра 8 лістапада. Іллінскі кірмаш пачынаўся з усходам сонца — дарэчы, на яго любіў прыязджаць Куляшоў.

Алесь успамінаў, што часта ездзіў з бацькам, калгасным шафёрам, на кірмаш у Саматэвічы. Мы здымалі перадачу «Мой родны кут» — пра Куляшоўскія мясціны напрыканцы жніўня, калі кірмаш ужо адшумеў. У сцэнарый быў запланаваны сюжэт пра маладога паэта Пісьмянкова. Я чытаў яго вершы ў раённай газеце, былі Алесевы радкі і ў сцэнарыі, але сустрэцца нам пакуль што не давялося.

Сонца ўжо звярнула з паўдня, калі мы прыехалі ў Бялынкавічы, вялікае прыгожае паселішча на беразе Бесядзі, ракі, якую Аркадзь Куляшоў уславіў на ўвесь свет. Думалася пра жыццядайнасць Прыбесяддзя, якое нарадзіла новага паэта.

Запісвалі сінхрон з Алесем у светлым класе мясцовай школы. Усхваляваны юнак з русявым чубам і пшанічнымі вусамі, валошкавымі вачыма, у светла-ружовай кашулі глядзеўся вельмі прывабна. Уразіў густым басавітым голасам, уразіў вершамі — кароткімі, ёмістымі. Іх так і хочацца цытаваць і цытаваць: «Над вёскай дымок гаркавы. / Размова касы з атавай. / У дом пад крылом бусліным / Жанчыны ідуць на радзіны. / Расчулены бацька надзіва — / Сын нарадзіўся. Радзіміч. / Маці трывожыцца: «Сыне...» / Вочы ў сына — сінія. /...Радзіны. / Радзіміч. /Радзіма»...

Слухаў я вершы, любаваўся прыгожым, адухоўленым аблічам юнага земляка, і сэрцам, і розумам адчуў: у прыгожай вёсцы з паэтычнай назвай Бялынкавічы нарадзіўся таленавіты паэт. На агульнастудыйнай лятучцы тэлеперадачу пахвалілі. Генадзь Бураўкін, тагачасны старшыня Дзяржтэлерадыё, — менавіта ён перацягнуў мяне з часопіса «Полымя» на БТ, — сказаў, што мой першы блін аказаўся не камяком, а хлопец, які чытаў вершы, яго вельмі зацікавіў.

Пасля гэтага мы сустракаліся з Алесем даволі часта, прычым часцей на радзіме, чымся ў Мінску. Урэзалася ў памяць сустрэча ў Касцюковічах. Запрасілі нас, літаратараў-землякоў (Івана Чыгрынава, Алеся Пісьмянкова і мяне) на юбілей вызвалення раёна ад фашысцкай навалы. Было тое свята 28 верасня 1993-га — дата самавітая, круглая — 50 гадоў з дня вызвалення Касцюкоўшчыны. Асабліва хваляваўся Іван Чыгрынаў: яму надалі званне Ганаровы грамадзянін Касцюковіцкага раёна, павязалі цераз плячо шырокую чырвоную стужку. Дарэчы, такую ж стужку павязалі і мне ў 2009 годзе. На вялікі жаль, Чыгрынава і Пісьмянкова ўжо не было з намі...

На юбілеі вызвалення Алесь прачытаў верш, прысвечаны ветэранам. Верш моцны, прачулы, і чытаў аўтар узнёсла, на ўсю моц голасу. І ўзнагародай яму былі воплескі шматтысячнай аўдыторыі — людзі сабраліся на пляцы ў цэнтры горада.

Далёка не ўсе паэты ўмеюць выразна, па-майстэрску чытаць свае вершы, у Алеся гэта атрымлівалася вельмі хораша. А калі яго абралі сакратаром Саюза пісьменнікаў, у яго раскрыўся талент вядоўцы вечарынаў у Доме літаратара. Яго прыемна было слухаць, і прыемна глядзець на яго зграбную постаць у строгім гарнітуры. Ён меў выдатную памяць і мог сказаць цёплую, змястоўную прамову пра юбіляра ці аўтара кнігі, з нагоды выхаду якой адбывалася імпрэза. І ён ніколі не чытаў з паперчыны, сыпаў дасціпнымі жартамі. Нездарма пазней яго прызначылі галоўным рэдактарам часопіса «Вожык». Цікавая дэталь: раней рэдагаваў гумарыстычны часопіс таленавіты журналіст, таксама выхадзец з Касцюкоўчышыны Аляксандр Данілавіч Раманаў. Значыць, у Прыбесяддзі жывуць самыя вясёлыя людзі. А вось па колькасці народных — у нас два: Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, — Касцюковіцкі раён саступае Ушацкаму. Адтуль выйшлі: Пятрусь Броўка, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін.

Але вернемся ў Дом літаратара на імпрэзу, дзе рэй вядзе Алесь Пісьмянкоў. А сабраўся народ на вечарыну, прысвечаную ўручэнню Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў: прэмію імя Івана Мележа ўручалі аўтару гэтых радкоў за кнігу «Ларыса, альбо Каханне аўтамабіліста», прэмію імя Аркадзя Куляшова — Сяргею Панізніку за падрыхтоўку дзіцячых кніг у выдавецтве «Юнацтва». Дыпломы ўручыла кіраўнік Саюза Вольга Іпатава, а вечарыну вёў Алесь. Вось тады, а было гэта ў сакавіку 2000-га, — я, так бы мовіць, — адчуў на сабе, як умеў Пісьмянкоў сказаць добрае слова пра калегу-літаратара. Хоць прэмію далі за «Ларысу...», вядоўца болей гаварыў пра мае раманы, а на той час ужо «вылецелі» кнігаю «Шчыглы», «Паводка сярод зімы», «Дзікая ружа». У «Полымі» надрукаванае «Сіняе лета» — адным з першых чытачоў гэтага рамана быў Алесь, ён тады працаваў у часопісе.

Напрыканцы вечарыны адбылася сяброўская замочка прэміі. Алесь вёў рэй і ў застоллі, на хаду прыдумляў каламбуры, расказваў анекдоты, усе рагаталі, звонка смяялася яснавокая прыгажуня Вольга Іпатава, гэта яшчэ болей натхняла Алеся. Такім вясёлым я не бачыў яго ніколі.

Жыць заставалася Алесю Пісьмянкову чатыры гады...

А цяпер пра тое, як мне пашчасціла рэдагаваць Алесеву кнігу. Так, менавіта пашчасціла, бо за дзяржаўныя грошы я меў чытацкую асалоду. А гісторыя вось якая.

**Я слухаў Алеся, пазіраў на яго адухоўленае, паэтычнае аблічча: русявы чуб, пшанічныя вусы, сінія вочы, ды яшчэ прозвішча — Пісьмянкоў... Яму лёсам наканавана пісаць, думаць вершы**

Працяг на стар. 9 (3) »

«ПУНКТ АДЛІКУ»

## Кацярына Захарэвіч. Час Вогненнага Птушкалова

**Захарэвіч К. Час Вогненнага Птушкалова: аповесць. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 144 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**




Пятнаццацігадовая Бася не ўяўляла, хто яна такая, пакуль у дзверы іх з мамай хаты не пастукаліся жаўнеры князя Свету. Яны вышукваюць адметных — рáсу, якую чамусьці вельмі не любяць звычайныя людзі. Схавацца ад пераследу можна толькі ў паселішчы сярод глухога лесу за непаслухмянай Хітрай ракой. Як толькі Бася зачыняе дзверы хаты, шляху назад для яе не застаецца...

## Ольга Юдина. Тараканы

**Юдина О. Тараканы. — Минск : Кнігазбор, 2018. — 168 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**




У вас ёсць прусакі? Не-не, не ў кватэры. У галаве. Вы добра з імі знаёмыя? Можа, вы нават здолелі пасябравацца? Калі так, вы — малайчына, бо прарабілі вялікую працу над сабой. А цяпер уявіце, што замест сваіх вы пачалі бачыць прусакоў у іншых людзей. Вы зможаце жыць звыклым жыццём ці з'едзе з глузду? Магчыма, вы палюбіце іх больш, чым самага блізкага чалавека...

Чытайце адну з версій развіцця такіх падзей у абсурдна-фантастычнай аповесці «Тараканы».

## Александр Веледимович. Золотое время

**Веледимович А. Золотое время, или Занимательные приключения Шуры Переплётова в окрестностях города Витебска, правдиво сочинённые под воздействием трёх муз и одного рассказа таинственного призрака, а иногда подсмотренные с высоты птичьего полёта. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 100 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Гэта — зборнік навел пра жыццё Шуры Пераплётава ў Віцебску. Аўтар пераплятае гістарычныя факты з гарадскімі міфамі і літаратурнымі цытатамі. Забабоны шляхты, войны, падпольны рок-н-рол і паездкі на паветраным трамваі ператвараюцца ў новыя легенды пра горад на беразе Заходняй Дзвіны...

## Дар'я Трайдэн. Крыштальная ноч

**Трайдэн Д. Крыштальная ноч: апавяданні / Дар'я Трайдэн. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 96 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**




«Крыштальная ноч» — гэта вянок, сплецены з гісторый пра крохкасць, прыгажосць, Беларусь і смерць. Вобраз крышталю сустракаецца ў кожным апавядзе. Крышталь грае ад месячных промняў, адбівае святло, асвятляючы ці, наадварот, дазваляючы ўбачыць патаемнае, прыхаванае, інтымнае.

# Паэтычны, міжнародны...

**У залі рэстарана «Сёмае неба» адбылося ўрачыстае адкрыццё Восьмага міжнароднага паэтычнага фестывалю «Вершы на асфальце» імя Міхася Стральцова.**



Фота СБП

Першы дзень традыцыйна меў урачысты характар, бо менавіта падчас адкрыцця праходзяць цырымоніі ўручэння дзвюх літаратурных прэмій: адной з найстарэйшых — прэміі часопіса «Дзеяслоў» «Залаты апостраф» і адной з самых новых — імя Міхася Стральцова. Апошняя з узнагародаў, прэмія імя Міхася Стральцова, была ўпершыню ўручаная летась, калі ёй быў уганараваны паэт Алег Мінкін. Як і ў мінулы раз, усё трымалася ў сакрэце да апошняй хвіліны — і агучанае імя было абсалютнай нечаканасцю для ўсіх прысутных. Лаўрэаткай сёлетняй стральцоўскай прэміі стала маладая паэтка з Гішпаніі Анхела Эспіноса Руіс. Да цырымоніі паэтка атрымала шыкоўны падарунак — выдадзеную Саюзам беларускіх пісьменнікаў «лаўрэацкую» кнігу выбраных твораў «Колер Крылаў», куды ўвайшлі не толькі вершы, але й эсэ, пераклады, створаныя ў апошнія гады. Нягледзячы на абсалютна нестандартнае рашэнне журы, зала вельмі цёпла прыняла й прывітала новую лаўрэатку прэміі, якая падзякавала ўсім і сказала прачулую прамову пра сваё бачанне літаратуры.

Затым былі абвешчаныя новыя лаўрэаты «Залатога апострафа». У галіне паэзіі ўзнагароду атрымаў заслужаны аксакал беларускай літаратуры паэт Васіль Зуёнак. Найлепшай празаічнай публікацыяй 2018 года была прызнаная проза Уладзіміра Сцяпана. У намінацыі «Дэбют», як адзначыў галоўны рэдактар «Дзеяслова» Барыс Пятровіч, разгарнулася найбольш вострае абмеркаванне, канкурэнцыя была вельмі вялікай. У выніку прэміяй адзначылі Марыю Бадзей. Усе пераможцы былі вельмі ўсцешаныя прэміяй і асабліва адзначалі важнасць яе ўручэння падчас Стральцоўскага фэсту, бо імя Стральцова называлася сярод найважнейшых літаратурных імёнаў у іх жыцці.

Наступны блок прадстаўляў уласна паэтычную творчасць беларускіх літаратараў і замежных гасцей з Літвы, Украіны і Швецыі. Перад слухачамі выступілі мінулагоднія лаўрэаты Алесь Разанаў (Прэмія імя Наталлі Арсенневай), Бенедыктас Янушэвічус (Літва) з перакладчыцай Сюзанай Паўкштэла, Іда Ліндэ (Швецыя) з перакладчыцай Наталляй Паваляевай, Альгерд Бахарэвіч (прэмія «Кніга году»), Вера Бурлак (прэмія Шэрмана), Уладзімір Някляеў (прэмія Францішка Аляхновіча), Паўло Карабчук, Мірaслаў Лаюк, Алена Сцепаненка (Украіна).

Першы дзень Стральцоўскага фэсту быў вельмі насычаным і размаітым па змесце, і прайшоў пры поўнай залі, што засведчыла цікавасць да мерапрыемства і цікавасць да беларускай паэзіі.

Назаўтра ўсіх аматараў літаратуры прытуліў клуб «Грай» — напачатку «Мінскую школу» (з мадэратарам Дзмітрыем Строцавым), пасля чаго адбыліся прэзентацыі новых кніг Алеся Аркуша, Алеся Замкоўскага, Стася Карпава, Марыі Мартысевіч, Ірыны Ляшкевіч, Галіны Сіўчанка, Уладзіміра Сцяпана.

У аздабленні фестывалю былі музычны выступ Алеся Камоцкага і перакладчыцкі слэм. А на завяршэнні прайшла традыцыйная «Ноч паэзіі» з удзелам дзясяткаў актыўных беларускіх і замежных паэтаў.

**Ул. інф.**

# Бярозаўская літаратурная «анамалія»

**У Галерэі мастацтваў горада Бяроза адбылася знакавая падзея — адкрыццё пастаяннай літаратурнай экспазіцыі «Вытокі літаратурнага майстэрства».**

Бярозаўшчына даўно славіцца літаратурнымі імёнамі. Значны ўнёсак не толькі ў нацыянальную, але і сусветную культуру зрабілі лаўрэаты нацыянальных і еўрапейскіх прэмій Алесь Разанаў і Ніна Мацяш. Нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч напачатку сваёй журналісцкай дзейнасці працавала ў раённай газеце «Маяк камунізма». Аматарам літаратуры добра вядомы імёны Раісы Баравіковай і Зінаіды Дудзюк, Віктара Супрунчука і Васіля Сахарчука, Сяргея Амельчука і Валянціны Осіпавай. На стэндах размешчаны творы і мясцовых літаратараў: Маргарыты Гаравой і Марыі Стэфанавай, Алены Усціловскай і іншых маладых творцаў, якія яшчэ знаходзяцца ў натхнёным палёце да сваіх вяршыняў.

Бярозаўская зямля шчодрая на таленты. Адна толькі вёска Сялец, у якой нарадзіўся Алесь Разанаў, дала беларускай культуры і драматурга Міколу Арахоўскага, і пісьменніка Віктара Супрунчука, і краяведа Міколу Пейгана. Вось такая бярозаўская «анамалія»! На літаратурнай экспазіцыі прадстаўлена творчая дзейнасць вядомых беларускіх журналістаў, якія нарадзіліся на Бярозаўшчыне. Сярод іх імёны Андрэя Юдчыца, які доўгі час быў рэдактарам «Народнай газеты», Анатоля Казловіча — карэспандэнта і пісьменніка-публіцыста, аўтара шматлікіх кніг і дакументальных кінастужак. Не абдзялілі ўвагай і летапісцаў роднага краю: на стэндах прадстаўлены творы Міколы Пейгана, Міколы Жуковіча, Яўгена Сялені, заслужанага дзеяча культуры БССР Міхаіла Шыманскага ды іншых мясцовых краязнаўцаў.

На ўрачыстае адкрыццё літаратурнай выставы сабралася каля сотні гасцей. Было шмат навучэнцаў мясцовых школ. На запрашэнні землякоў заўсёды шчыра адклікаецца Алесь Разанаў, які ў якасці ганаровага госця прысутнічаў на імпрэзе. Алесь Сцяпанавіч падзяліўся ўспамінамі пра пачатак сваёй творчай дзейнасці ў літаратурным аб'яднанні «Крыніца» пры раённай газеце «Маяк камунізма», падарыў музею новыя кнігі, адна з якіх створана на літоўскай мове.

Кампанію «Будзьма беларусамі!» і Саюз беларускіх пісьменнікаў на свяце творчага Слова прадстаўляла намеснік абласнога аддзялення СБП Валянціна Осіпава. Яна павіншавала ўсіх прыхільнікаў нацыянальнай культуры, якія прысутнічалі ў зале, са значнай падзеяй і ўручыла Галерэі мастацтваў памятныя сувеніры і беларускія часопісы; таксама выказала надзею, што літаратурны куток Галерэі мастацтваў стане кропкай прыцягнення для новых талентаў. Паэтка распавяла слухачам пра дзейнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў і кампаніі «Будзьма беларусамі!» і запрасіла мясцовых аматараў паэзіі дасылаць свае творы ў літаратурны альманах Берасцейшчыны «Жырандоля», у часопіс «Дзеяслоў» і ў «новачасную» «Літаратурную Беларусь».

Госці актыўна знаёміліся з экспанатамі літаратурнай экспазіцыі, размешчанай у філіяле Бярозаўскага гісторыка-краязнаўчага музея, дзяліліся ўражаннямі, выказалі шчырую ўдзячнасць арганізатарам літаратурнай выставы.

**В. О.**

# Ён чытаў зоры

## Жменя згадак пра Алеся Пісьмянкова

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» распачало серыю «Беларуская паэзія ХХ стагоддзя», аналагічная серыя і для кніг прозы. Я тады загадваў самай вялікай рэдакцыяй — Збору твораў, выбраных твораў, перавыданняў, крытыкі і драматургіі. У перспектыўны план я ўключыў кнігу Алеся Пісьмянкова. На рэдкалегіі пачуліся галасы супраць, маўляў, зарана, малады яшчэ. Але дырэктар выдавецтва Серафім Андраюк падтрымаў: «Вы рыхтуйце. А там паглядзім». І я пачаў рыхтаваць…



Фота www.rv-blr.com

У «Мастацкай літаратуры» я адпрацаваў больш за пятнаццаць гадоў, блаславіў у друк не адну сотню кніжак. Вельмі часта даводзілася адбівацца ад настырных аўтараў, скарачаць расцягнутыя рукапісы, адбіраць вершы з таўшчэзных папак.

З Алесевай кнігай усё было наадварот: даводзілася выцягваць па вершу, аўтар лічыў многія з іх слабаватымі, маўляў, яшчэ трэба пагабляваць, падумаць. Але я не адступаў, ведаючы выключную патрабавальнасць паэта-земляка. А яшчэ ў яго была дзіўная рыса характара: шкадаваў аддаваць свае вершы ў друк. Аднойчы прызнаўся: «Мне заўсёды шкада развітвацца з уласнымі вершамі. Аддасі — яны ўжо нібыта не твае. Узнікае адчуванне нейкай пустаты. А калі яна запоўніцца, невядома».

І ўсё ж, дзякуючы маёй настойлівасці, атрымалася самавітая кніга на 320 старонак, і наклад немалы — дзве тысячы асобнікаў. А вось угаварыць Алеся памяняць загаловак «Я не памру, пакуль люблю», не ўдалося. Мабыць, у глыбіні душы ён прадчуваў свой сыход, свой лёс, сваю планіду. Адна з яго кніжак так і называлася — «Планіда». Назва выбранага — апошні радок апошняга верша з гэтай кніжкі.

Мабыць, верш падабаўся аўтару. Ён кароткі, яго варта працытаваць цалкам:

*Вада. На строме сосны.*
*У збажыне задумны гай.*
*Любіць бы вечна гэты край.*
*Журботны.*
*Родны.*
*Росны.*
*Любіць высокія аблокі,*
*Ад гора горкую зямлю…*
*Любіць прызначана мне лёсам:*
*Я не памру,*
*пакуль люблю.*

Можна з поўным правам сказаць, што кніга Алеся Пісьмянкова ўпрыгожыла выдавецкую серыю «Беларуская паэзія ХХ стагоддзя». Пра яе было шмат водгукаў і чытачоў, і крытыкаў. А я атрымаў кнігу з аўтографам: «Дарагому Леаніду Кірэевічу Левановічу — майму таленавітаму земляку і спагаднаму рэдактару з заўсёднай павагай. 13 сакавіка 2001 г.»

Неяк вясною, на Радаўніцу, мы з Алесем выбраліся на радзіму — пакланіцца магілам продкаў. Па дарозе завіталі ў Лапічы, вялікае мястэчка ля Бабруйска, дзе працаваў дырэктарам школы малодшы Алесеў брат Мікалай. Ехалі мы на маім «жыгулёнку». Браты сцішана гаманілі пра жыццё-быццё, пра палітыку, пра літаратуру і неўзабаве пачалі спрачацца. Басавіты Алесеў голас загучаў мацней, але ў ім адчувалася прыхаваная паблажлівасць, маўляў, хоць ты і дырэктар школы, а ў палітыцы, тым больш — у літаратуры, не разбіраешся.

Пасля Магілёва спыніліся на перакус. Браты кульнулі па кілішку за сустрэчу, а я мусіў піць адно гарбату. Паехалі далей. Браты зноў усчалі спрэчку. «Вось ты расхвальваеш Барыса Пастарнака, а я «Доктара Жывагу» ледзьве дачытаў. Прымушаў сябе», — гарачыўся Мікалай. «Пастарнак — вялікі талент. Ён не вінаваты, што ты лянуешся чытаць». — «Каб ты ведаў, колькі ў мяне клопатаў», — уздыхнуў дырэктар вясковай школы.

Я прывёз братоў у Бялынкавічы, увайшлі ў хату. Узрадаваная Марыя Сямёнаўна, маці братоў, кінулася накрываць на стол. Запрасіла мяне на пачэснае месца, але я адмовіўся: мяне чакала ў Касцюковічах старэйшая сястра Моця. З Алесем дамовіліся, што праз дзень я прыеду да яго.

Слова сваё я стрымаў, назаўтра пасля Радаўніцы прыкаціў у Бялынкавічы.

— Добра, што вы прыехалі, — узрадаваўся Алесь. — Пасля Радаўніцы заўсёды журботна на душы. Брат учора аўтобусам паехаў у Лапічы… Пойдзем на Бесядзь. Зараз пад'едзе Міхаіл Шаванда. Гэта — галоўны ляснічы лясгаса. Цікавы чалавек. Адданы лесу. Спрабуе пісаць прозу…

Неўзабаве мы ўтрох сядзелі на высокім беразе ракі. Расклалі цяпельца, у казане варылася юшка — лясны начальнік прытарабаніў шчупакоў і акунёў. Міхаіл Іванавіч Шаванда насамрэч зацікавіў мяне. Каржакаваты, рухавы, з абветраным, загарэлым тварам, на якім свяціліся розумам і досціпам валошкавыя вочы. Родам ён з суседняга раёна, ад звычайнага лесніка дарос да галоўнага ляснічага. Пра сябе, пра лясныя клопаты распавядаў нетаропка, не забываючы падкідваць у агонь сухія паленцы, якія прывёз з сабою.

Дзень быў сонечны, ветраны, такія дні часта надараюцца напрыканцы красавіка. Трохі воддаль стаяў белы, нібы абліты малаком, чаромхавы куст, дзесьці далей цёхкаў салоўка. Юшка неўзабаве зварылася. Пад яе кульнулі мы па кілішку — памянулі нашых продкаў.

— Алесь, мы з табой даўно не бачыліся. І вершаў тваіх даўно не чуў. Пачытай што-небудзь. З новых… — папрасіў Шаванда.

Алесь адкашляўся, быццам нешта пяршыла ў горле, і густым барытонам пачаў:

*Калі марнею ад нягод*
*І сэрцу цесна,*
*Я ўспамінаю радавод*
*І продкаў песні…*

Ён чытаў пра Вашчылу, пра Сож, пра бяроз дзявоцкую цнатлівасць і соснаў бронзавы загар, пра неба чыстае без хмар. І што мяне асабліва ўразіла — пра зоры. Я ведаў, што ў Алеся нядаўна выйшла кніжка «Чытаю зоры».

«Я хацеў дастаць з неба зорку і апёк сабе рукі…» — гучаў басавіты голас паэта. Яшчэ раз паўтаруся: слухаць, як Пісьмянкоў чытаў свае вершы, была вялікая асалода. А яшчэ падумалася: ён чытае зоры, каб зразумець свой радавод, нашы карані, гісторыю краіны. Я пазіраў на Алеся збоку і злавіў сябе на думцы: ён падобны да Байрана… Прачытаў Алесь і «Оду бярозаваму венiку». Расчулены Шаванда падняўся, абняў паэта.

— Ну, Алесь, дарагі ты мой… Я не крытык. Я — лесавод. Але мне здаецца, гэты верш — маленькі шэдэўр. Як вы, Кірэевіч, згодны?

— Цалкам згодны. Ваша думка — гэта голас народа. «Оду…» я ведаю на памяць.

Не я першы выкажу думку, што літаратар, асабліва паэт, павінен нарадзіцца ў прыгожым краі. Вось як пра гэта піша Алесь у эсэ «Пісьмянкоў Луг». Хай даруе мне чытач, але выняткa будзе даволі доўгая:

«Можа, я і пішу нешта сваё толькі таму, што ў мяне былі і ёсць Белы Камень і Мізырычы на Зубары, Бялынкавічы на Бесядзі, Канічы на Сураве… Нездарма ж сам Аркадзь Смоліч заўважыў у сваёй славутай «Геаграфіі Беларусі», што Касцюкоўшчына «ляжыць над Бесяддзю ў прыгожай мясцовасці». Можа, дзякуючы акурат гэтай прыгажосці тут і з'явіліся на свет пісьменнікі Якуб Брайцаў, Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, Аляксей Русецкі, Масей Сяднёў, Васіль Хомчанка, Пятро Прыходзька. Леанід Левановіч, Сямён Пацёмкін, Віктар Патапенка, Міхась Губернатараў, Мікола Мельнікаў, выдатны мастак Антон Бархаткоў».

Тут трэба патлумачыць: назву Пісьмянкоў Луг людзі далі мясцовасці, якую расчысцілі, зраўнялі, высеклі хмызняк над Зубарам і ператварылі ў прыгожы раздольны луг працавітыя Алесевы бацькі.

Уранні, пасля паходу ў грыбы, Алесь прыткнуўся да стала на верандзе. Праз нейкі час падаў мне аркуш з нататніка, спісаны акуратным, прыгожым почыркам. «Гэта вам на ўспамін». Верш называўся «Пятрылава». Прыказку «Чакай Пятра — сыр з'ясі» аўтар узяў эпіграфам. Верш кароткі, лапідарны, як і ўсе творы Пісьмянкова: у іх няма ніводнага лішняга слова, таму цытую яго цалкам:

*Певень залопаў крыламі,*
*Лясныя будзячы нетры.*
*Рана ўстае Пятрылава:*
*Пятрылаву трэба петрыць:*

*Петрыць і рупіцца шчыра.*
*За косы і граблі пара:*
*Нельга застацца без сыру*
*Пятрылаўцу да Пятра.*

Вось так лясная вёсачка-шасціхатка Пятрылава ўвайшла ў літаратуру: твор пра яе надрукаваны ў кнізе «Думаць вершы». Раз ужо я ўзгадаў гэтую кніжку, а ўбачыла яна свет у 2005 годзе пасля заўчаснай смерці паэта, у ёй ёсць верш «Зямная аснова», прысвечаны мне. Верш таксама кароткі, лапідарны.

**Паэт, народжаны ў прыгожым краі, павінен паказаць людзям ягоную прыгажосць і хараство, так бы мовіць, сплаціць свой доўг. Хараша сказаў пра гэта яшчэ ў 1913 годзе ў «Нашай Ніве» мудры Вацлаў Ластоўскі: «Паэта павінен быць вучыцелем і прарокам свайго народа**

*Зямная аснова*
*Трывалай была.*
*Прыручана слова.*
*Раіцца пчала.*
*Такая планіда*
*Ў майго земляка.*
*Пяро Леаніда*
*Натхняе рака.*
*Нішто не замуціць*
*У Бесядзі дно.*
*На ёй каламуці*
*Дасюль не відно.*
*Хоць свет і суровы,*
*Стае ў ім святла.*
*Прыручана слова.*
*Раіцца пчала.*

Час ляціць хутка. Вось ужо пятнаццаць гадоў прамінула, як Алесева душа ўзляцела ў неба, да зор, якія паэт любіў чытаць. Ён цвёрда стаяў на Зямлі, любіў свой родны кут, сваю Бесядзь, але вельмі часта пазіраў у неба, мабыць, як ніхто з нашых творцаў. Вось гэткага нябесна-касмічнага падыходу да жыцця бракуе нашай літаратуры. Даволі рэдка героі нашых кніг углядаюцца ў неба і шукаюць сваю Зорку, як гэта рабіў на пачатку ХХ стагоддзя геніяльны юнак Максім Багдановіч. А ўслед за ім і Алесь Пісьмянкоў.

Паэт, народжаны ў прыгожым краі, павінен паказаць людзям ягоную прыгажосць і хараство, так бы мовіць, сплаціць свой доўг. Хараша сказаў пра гэта яшчэ ў 1913 годзе ў «Нашай Ніве» мудры Вацлаў Ластоўскі: «Паэта павінен быць вучыцелем і прарокам свайго народа, павінен быць суддзёй і цветам душы яго, павінен выяўляць красу свайго народа і краю». Алесь Пісьмянкоў гэта разумеў. Ён шмат вершаў прысвяціў сваім Бялынкавічам і Беламу Каменю, роднай Бесядзі і Зубару, пісаў пра кіраўніка паўстання Васіля Вашчылу і сваіх мужных працавітых продкаў. Ёсць у яго глыбока філасофскі верш, у якім паэт, наш сучаснік, выказвае сваё разуменне жыцця, часовасці чалавека, непазбежнасць адыходу ў вечнасць: мы станем «Зямлёй, травой, кустамі, І будзе дождж ісці над намі, І будзе снег ісці над намі, І будуць воблакі над намі. І будуць зоркі спець над намі. Як над зямлёй, як над травой, як над кустамі…»

Пра творчасць Алеся Пісьмянкова, пра яго як Чалавека, як Асобу напісана нямала. У пасмяротнай кніжцы «Думаць вершы» пра яго згадваюць зямляк і блізкі сябар Віктар Патапенка, калегі-літаратары Анатоль Зэкаў, Алесь Марціновіч, Навум Гальпяровіч, Таццяна Мушынская, Уладзімір Ягоўдзік ды іншыя. Не магу не адзначыць таленавітую кнігу Віктара Патапенкі «Шлях бярозамі значаны», якая прысвечана жыццю і творчасці нашага паэта-земляка. У цёплай прадмове яе высока ацаніў Анатоль Зэкаў. Піша В. Патапенка пра сям'ю паэта: жонку Алену, сыноў Максіма і Аляксея.

Мне думаецца, што творчасць Алеся Пісьмянкова яшчэ чакае свайго прачытання, бо ягоная паэзія, так бы мовіць, яшчэ расце. Маю думку пацвярджае выдатны паэт Алесь Разанаў: у часопісе «Дзеяслоў» (№ 2, 2016) ён надрукаваў грунтоўнае даследаванне «Зацемкі з зімовага саду», у якім аналізуе верш «Мой сад у снезе па калена». Аўтар піша: «…верш просты і нават празрысты, усё ў ім для слыху і разумення вядомае, аднак у яго простасці і празрыстасці ёсць нешта тое, што затрымлівае ўвагу, што надае вершу глыбіню…» І гэтай глыбіні Разанаву хапіла на дванаццаць (!) часопісных старонак. Унікальнае даследаванне! Прачытаўшы яго, міжволі падумалася: беларуская літаратура мае права ганарыцца паэтам-мысляром Алесем Пісьмянковым і паэтам-інтэлектуалам Алесем Разанавым.

Дарэчы, артыкул яго публікуецца пад рубрыкай «Прачытанне». Значыць, насамрэч вывучэнне спадчыны Алеся Пісьмянкова, паэта, які чытаў зоры і які знічкаю дачасна ўзляцеў у нябёсы, яшчэ наперадзе.

**Леанід Левановіч**

# Янкоўскі

## Словы пра мовазнаўцу



Адам ГЛОБУС

### Пераклады

Вядомы ў Беларусі філолаг Фёдар Янкоўскі ў кнізе «Само слова гаворыць» выказаўся пра пераклад і перакладчыка: «Каб перакладаць, трэба ведаць хоць бы... дзве мовы, а калі на стале ляжаць падрадкоўнікі — трэба ведаць (засмяешся, чытатач?) хоць бы... адну мову. Тую, на якую перакладаеш». Філолаг меў рацыю. Перакладчык мусіць ведаць мову, з якой працуе. Мая знаёмая перакладчыца Вера Маркава перакладала творы старажытнай японскай літаратуры не проста на рускую мову, яна іх перакладала на рускую мову Льва Талстога, на мову ягонага самага лірычнага твора «Дзяцінства, маладзецтва, юнацтва». Маркава зрабіла такія выдатныя тэксты, што яе пачалі называць «вялікая руская перакладчыца». Дзякуючы яе перакладам у рускай літаратуры з'явіліся новыя паэтычныя жанры — хоку і танка. Ніхто з беларускіх літаратараў яшчэ не заслужыў ганаровага звання — геніяльны перакладчык. Прынамсі, мы яшчэ не казалі пра гэта публічна. Спадзяюся, што ў нас абавязкова з'явяцца вялікія перакладчыкі, і ў нейкай ступені, гэта адбудзецца дзякуючы такім майстрам слова, як Фёдар Янкоўскі.

### «Ты»

У кнізе Фёдара Янкоўскага «Абразкі» ёсць замалёўка «У гасцях», дзе можна прачытаць: «А на другі дзень маці не ўтрывала:

— Як жа гэта? Дзе ж бачылі?! Ні ў нашай, ні ў суседніх вёсках няма і не было гэтакага. Ра́дачка мая! Дзеці на бацькоў — на бацьку, на матку — «ты»! А тады і на мяне, старую, на бабулю, ужо «тыкаюць». Гэта ўнукаў прычакала...»

Тое самае было і ў маіх вёсках ды мястэчках. Мае бацькі да сваіх татуль ды матуль звярталіся толькі на «вы». Адпаведна і я да бабы з дзедам звяртаўся на «вы». Праўда да таты і маці ўжо па-сталінчаму на «ты», але я ніколі не мог звярнуцца да бацькі ці да маці праз імя. Сказаць да таты «Чэсь» ці паклікаць маці: «Ніна!», мне і ў галаву не прыходзіла. Нават тады, калі я пачуў, як мой сусед — пяцігадовы Максім — называе сваю маці Мая. І ягоная сястра Ніка звярталася да маці на «ты» і магла сказаць ёй нібыта якой сяброўцы ці раўналетцы: «Мая, ты чула?»

Шчыра кажучы, мяне такая фамільярнасць крыху бянтэжыла. Зразумела, што я ніколі не рабіў ніякіх заўваг ні Максіму, ні ягонай Ніцы. Проста, у іх сям'і было крыху па-іншаму, чым у нашай. Узрушанасці і абуранасці, пра якую напісаў Янкоўскі, я ніколі не чуў, адно чытаў. Свет змяняецца досыць хутка, было так, а цяпер інакш, але гэта не азначае, што інакш абавязкова горш, бо цеплыні ў адносінах Максіма з маці было не менш, чым у тых, хто звяртаўся да сваіх мамусі і татусі выключна на «вы».



Янка Брыль (злева) і Фёдар Янкоўскі

### Сцебурака

Каб стаць паэтам, трэба напісаць два вершы, бо ў кожнага, хто спрабуе вершаваць, адзін твор абавязкова атрымаецца, а другі без таленту не складзецца. Калі я прачытаў у развагах паэта Сікі, што непараўнальны Басё мае толькі дзесяць выдатных вершаў, я ледзь не абурыўся. Чаму так мала? А потым зразумеў і прыняў словы Сікі, бо каб стаць непераўзыдзеным паэтам Японіі дзесяць геніяльных хоку больш чым дастаткова. Таму я паважаю анталогіі, складзеныя так, што аднаго паэта прадстаўляе адзін найлепшы верш. Асаблівую радасць я адчуваю, калі ў газетнай падборцы ці сярод інтэрнэтных постынгаў знаходжу добры верш з новай і маладой паэзіі. Так на старонцы «Нашай Нівы» я прачытаў «Ранішні блюз» Усевалада Сцебуракі.

### Ранішні блюз

*У пяць гадзін раніцы, ў пяць*
*таксоўкі самотна стаяць,*
*месяцічы ўсе яшчэ сьпяць*
*у пяць гадзін раніцы, ў пяць.*

*У пяць гадзін раніцы, ў пяць*
*шклом алкашы не зьвіняць,*
*дзеці «Макдональдсы» сьняць*
*у пяць гадзін раніцы, ў пяць.*

*Хтосьці на працу ідзе,*
*хтосьці ідзе ваяваць,*
*хтосьці плыве па вадзе,*
*хтосьці працягвае спаць...*

*У пяць гадзін раніцы, ў пяць*
*сонна ліхтарні гараць,*
*рана судзіць і караць*
*у пяць гадзін раніцы, ў пяць.*

*У пяць гадзін раніцы, ў пяць*
*можна сабе дазваляць*
*простыя рыфмы ствараць*
*у пяць гадзін раніцы, ў пяць.*

*Хтосьці на працу ідзе,*
*хтосьці ідзе ваяваць,*
*хтосьці нявeдама дзе*
*толькі зьбіраецца спаць.*

Выдатны верш. Таму і чакаў я кнігу Сцебуракі, таму і шукаў у той кнізе другі таленавіты верш, каб сказаць усім, што Усевалад — паэт. Толькі другога добрага верша ў кнізе «Крушня» не знайшлося. І мог бы я не пісаць свае развагі пра два абавязковыя вершы для паэта, каб не згадка пра фалькларыста Фёдара Янкоўскага. Пасля публікацыі адной з першых маіх вершаваных падборак я атрымаў ліст ад вядомага збіральніка фальклору. Ён хваліў мае творы, расказваў пра сваю радасць ад знаёмства з маёй паэзіяй. Таму і я пішу пра «Ранішні блюз», бо ўсё яшчэ спадзяюся прачытаць другі таленавіты твор Усевалада .

### Бацька

Да свайго бацькі я зазвычай звяртаўся праз слова «тата». Ён у нас быў «татам», бо слова «бацька» ў нашай сям'і знітоўвалася з дзедам Уладзімірам. Баба Броня казала пра яго «наш бацька». Каб не блытацца, я на свайго бацьку казаў «мой тата».

У абразку Фёдара Янкоўскага «Бацька» прачытаў: «Калі я бачу партрэт Францішка Багушэвіча ці чую гэтае імя, побач устае вобраз бацькі. І наадварот. У абодвух былі амаль такія самыя вусы. Абодва хударлявыя, энергічныя, няўрымслівыя і, здаецца, нястомныя. Абодва дарагія мне. Адзін — родны бацька, другі — той, хто, як нікто да яго, сказаў свету пра Беларусь і беларусаў...»

Цікава, што і для мяне вобраз Багушэвіча заўжды быў звязаны са словам «бацька», бо менавіта ён — бацька новай беларускай літаратуры. Дарэчы, і наш дзед Уладзімір Фёдаравіч Адамчык быў крыху падобны тварам да Багушэвіча, хоць заўжды галіў бараду і вусы не насіў.

# Чысцец

Кастусь КАЛЮЧЫ

У ярка асвечаным сонцам пакоі я стаю разам з некалькімі хлопцамі. Сцены — бруднага блакітнага колеру. Перад вакном — шырокі стол, за якім з сур'ёзным выглядам сядзяць людзі ў белых халатах. Мой позірк мільгануў па дзяўчыне, што сядзіць на крайнім крэсле. Хударлявая, з невялікімі прыгожымі грудзямі. Яе халат зашпілены на ўсе гузікі, якія, схаваўшы пад беласнежнай тканінай таямніцу сусвету, усё ж наражаюць жаданне спрычыніцца да яе раскрыцця. Але сёння надзеі і мары прысутных звязаны зусім з іншым.

Я пераводжу позірк на лысаватага дзядзечку. Мы ўсведамляем, што праз некалькі гадзін ягоныя словы вырашаць наш будучы лёс. Калі на нябёсах ёсць чысцец, дык напэўна ён выглядае менавіта так. Праўда, ёсць адна перавага: рашэнне аб тым, куды цябе адправяць — у рай ці ў пекла — будзе прымацца не ў залежнасці ад таго, наколькі грэшным ты быў дагэтуль. Невядома толькі: перад нябесным кансіліумам таксама паўстаеш у сваім самым натуральным безабаронным абліччы? Пад пільным позіркам экспертаў мы стаім цалкам аголеныя...

Чую сваё прозвішча. Вагаюся, абдумваючы, як правільна адказаць — «я» ці «ёсць» — і моўчкі раблю некалькі крокаў наперад...

***

Колькі гадоў таму, калі я дагрызаў у старэйшых класах апошнія кавалкі навуковага граніту, мне ўпершыню выпадала магчымасць пазнаёміцца з абласнымі спецыялістамі. Мясцовыя дактары не маглі знайсці прычыну маёй немачы і накіравалі ў горад на Віцьбе. Дыягнастычны цэнтр з дапамогай прасунутай тэхнікі пацвердзіў адсутнасць у маім целе пэўных анамалій. Пасля агучвання вынікаў дасведавання доктар запытала: «Я так разумею, у вас хутка будзе медкамісія пры ваенкамаце?». Разумець гэтыя словы трэба было так: «Спрабуеш касіць?»

Зладжаная ўжо ваенкаматам вандроўка ў Віцебск выдалася незабыўнай. Каму хоць аднойчы ка́палі ў вочы атрапін, зразумею, як выглядалі і што адчувалі два студэнты (са мной быў яшчэ мой аднагрупнік) сонечным зімовым днём. Для тых, хто не ў тэме, патлумачу: калі бачыце маладзёна, які няўпэўнена сунецца, скіраваўшы позірк долу, абліваецца слязьмі і хваравіта жмурыцца, нават калі сонца хаваецца за хмарамі, не спяшайцеся лічыць яго наркотам ці вар'ятам. Ёсць верагоднасць, што ягоныя зрэнкі памерам з капейку не рэагуюць на святло праз дзеянне атрапіну, які закапалі яму перад накіраваннем да спецыялістаў, у якіх табліца «ШБ мнк» нейкім сакрэтным чынам адрозніваецца ад той, якой карыстаюцца мясцовыя вочнікі.

Але галоўная паездка была потым. Выявілася, што хвароба скуры, якую ў мяне выявілі, вызваляе ад неабходнасці на паўтары гады абувацца ў кірзачы. Заставалася толькі, каб дыягназ пацвердзіла вобласць.

Тамтэйшы скурвендыспансер нагадваў адначасова папраўчую ўстанову і вар'ятню. Пераступіўшы парог, я зазнаў тыя ж пачуцці, што і оруэлаўскі Ўінстан Сміт у Міністэрстве Любові.

У палаце было тры чалавекі: два дзядулі і хлапец, які таксама патрапіў сюды «па лініі ваенкамата». На мяне адразу кінуў цікаўны позірк хлопчык гадоў васьмі. Чыйсьці ўнук, падумаў я. Буркнуўшы «Усім дзень добры», рушыў да свайго ложка. У гэты момант малы скочыў з ложка і кінуўся да мяне. Працягнуў рукі і... паспрабаваў злёту мяне абняць. Не чакаўшы такой раптоўнай шчырасці і ўсмешкі ў месцы, дзе нават рукацца ні з кім не хацелася, я зрабіў нязграбнае падабенства абдымкаў — выцягнутымі рукамі пацісну́ў хлопчыка за плечы.

— Ваня, не прыставай да людзей! — жартаўліва сказала медсястра, што была ў палаце. Ваня пасміхнуўся і падышоў да майго суседа, відаць, каб працягнуць размову, якую перарвала маё з'яўленне.

Ваня не быў нічыім унукам. Ён быў сіратой і трапіў сюды з нейкай балячкай на галаве. У адрозненне ад большасці пацыентаў, ён быў бязмежна рады змене свайго месцазнаходжання і новым людзям, таму і заходзіў цягам дня ў чужыя палаты. Пастрыжаны «пад нуль», у клятчастай старой кашулі, ён быў падобны на ахвяру вайны. Ахвяру, якая яшчэ не ўсведамляе свайго незайздроснага лёсу і таму яшчэ дзеліцца з гэтым светам сваім пазітывам.

Харчаванне было стандартным для такога кшталту ўстаноў: аўсянка, батон, гарбата... Дадатковую цяжкасць з ужываннем ежы выклікала сузіранне хворых. Наглядзеўшыся на ўсё і ўсіх, употай суцяшаў сябе, што я тут не на лячэнні і мяне трымаць доўга не будуць.

Вечарам, лежачы на ложку, ніяк не мог заснуць. І каб знайсці штосьці прыемнае ў сваім становішчы, думаў пра сваю сяброўку. Віцебск — горад нявест. Супадзенне ці не, але сяброў у гэтым горадзе ў мяне ніколі не было, толькі сяброўкі. З прыгажуняй Аленай, якую ведаў крыху болей за год, кантактаваў «на адлегласці», але калі лёс рабіў адлегласць паміж намі карацей за кіламетраж паміж Полацкам і Віцебскам, яна дзіўным чынам апынался побач са мною. Калі дзяўчына даведалася, куды закінуў мяне чарговым разам няўдзячны лёс, — дык адразу, хоць я і адгаворваў, паведаміла, што прыедзе за мной.

***

Калі ўсё скончылася, я пашыбаваў як мага хутчэй да выхаду з будынка. Да неадольнага жадання памыцца дадалося памкненне спаліць сваю вопратку.

Свежае паветра дыхнула ў твар, і ад дзённага вулічнага святла на імгненне заплюшчыў вочы. Потым я ўбачыў яе. Лёгкі ветрык гуляў даўгімі светлымі валасамі. Той, хто лічыць анёлаў бясполымі стварэннямі, памыляецца, — анёл быў перада мной у спадніцы і на абцасах. Зрэшты, у кожнага свае анёлы.

Я наблізіўся да Алены, і яна спытала: «У цябе ўсё добра?» У душы яшчэ не сціх гармідар эмоцый і думак, і мне нешта яшчэ замінала супакоіцца. Я паглядзеў на свайго анёла, потым на шэры будынак. «Пачакай хвіліну», — прамовіў я і накіраваўся назад да дзвярэй...

# Маладая вясна



Валянціна АКСАК

### Прыступкі да яблыні Евы

*У нейкім нарвежскім кіно*
*пра аматарак кветак*
*было пра старую кабету,*
*якая штодня*
*апаноўвае дбаць*
*пра сто ружаў*
*у садзе нагорным.*
*Прыступкі ў яе*
*да ружоўнікаў*
*там уладкованы*
*для звыш загартованых пані,*
*бо да кожнага кусціка*
*трэба мо метар які*
*ўверх уздымацца.*
*Удзячныя кветкі штодня*
*ля самай*
*высокае клумбы*
*выстаўляюць ёй*
*келіх бургундскага.*
*Ну чым не матыў,*
*каб моцна любіць*
*і іншых*
*на гэтым шляху.*
*А Ева пры чым?*
*Яна — толькі прытча.*
*Тым болей,*
*што яблыка*
*і не было.*

### Крылы

*Успаміны*
*мокрымі крыламі*
*валочацца ўсцяж*
*слізкае сцежкі,*
*не даюць*
*вырвацца ў вырай*
*услед за буслами,*
*жоравам наўздагон.*
*Але як тужліва*
*курлычуць тыя,*
*што ўзняліся*
*на Птушыны Шлях.*
*Яны зайздросцяць*
*мне,*
*прыледзянелай*
*да свайго*
*пагорку.*

### Воддаль

*Божа,*
*якое гэта шчасце —*
*сядзець пад зорамі*
*і ні пра што*
*не думаць!*
*Зрэшты,*
*мой Божа,*
*я ўсё ж думаю —*
*пра Цябе*
*і зоры.*

### Побач

*Побач*
*з прыгожаю жанчынай*
*хочацца*
*яшчэ больш згорбіцца,*
*зашыцца ў норку*
*і ніколі*
*адтуль*
*не вылазіць.*

### Ніцма

*Захутанаю*
*ў сынавыя апранахі*
*між дзвюох бярэзінаў*
*мне шчасце легчы*
*ніцма.*

### Аблічча ў небе

*Колькі гляджу на неба,*
*столькі знаходжу воблакаў*
*з абліччам бацькі*
*ў труне.*

### Мінулае мінула

*Мінулае — гэта бацькі.*
*Яго закапалі ў іхніх магілах.*
*Цяпер у мяне — толькі зараз.*

### Выпадаю

*Выпадаю з нагоды,*
*з прыгоды, з пагоды.*
*Выпадаю з раскладу,*
*з параду, з прынады.*
*Выпадаю з датклівых,*
*тактоўных і тонкастанных.*
*Выпадаю з душэўных,*
*духоўных і душадайных.*
*Выпадаю з чужых*
*і з сваіх,*
*і з аніякіх.*
*Выпадаю са слова.*
*Хутка выпаду з мовы.*
*Ані гуку.*
*Ні згадкі.*
*Ціша.*
*Цемень.*
*І чуйная знічка*
*ў чорным акне.*

### Там, дзе цвітуць асфадэлі

*Такое сухое слова —*
*ажно трашчыць на вуснах,*
*якіх у мяне ўжо няма,*
*няма чым адчуць*
*іхнюю райскую слодыч,*
*падзівіцца*
*на бялюткія*
*з чырвонымі кропачкамі*
*вяночкі*
*таксама не магу.*
*Выпетрала цела —*
*душа ацалела,*
*ценем блукае ў палях*
*невідочнай красы. Учора сустрэлася*
*з цярплівіцай Пенелопай.*
*Алены ў гэтых пейзажах*
*нешта не бачна —*
*прыўкрасная фанабэрыня,*
*пэўна, пасланая*
*ў пекла.*
*Шкода яе,*
*дурніцу.*

### Бабуля мая дарагая

*У той год, калі ты,*
*мая мілая,*
*нарадзілася,*
*Расея прызнала*
*грыгарыянскі каляндар,*
*так што з запісам у дакуменце*
*ў тваіх пашанотных бацькоў*
*не ўзнікла ніякіх праблемаў,*
*а дзецям і ўнукам тваім*
*потым*
*не давялося галаў ламаць,*
*калі ж адорваць цябе*
*аблямаваным белым*
*пурпур першацветаў.*

*Праўда,*
*бацькі духавенства рашылі,*
*што дэкрэт бальшавіцкі*
*ім не ўказ,*
*і Вялікдзень спраўляць давялося,*
*як некалі, двойчы:*
*31 сакавіка*
*ў засценку ў бабулі з мамуляй*
*і 5 траўня*
*дома ў Менску,*
*з татулем тваім і татулем ягоным.*
*Але за ўсе сто*
*тваіх жыццядайных гадоў*
*было 28 нябесных праяваў,*
*калі зоркі шчасліва злучаліся*
*і ў кошыку для свянцонага*
*маміны пісанкі*
*прытуляліся любасна*
*да бацькавых фарбаванак.*
*Адзіны ж разок*
*было нават так,*
*што ў дзень твой*
*святар хваласпевам абвесціў*
*пра Ўваскрэслага з мёртвых.*
*Свяцілы нябесныя сыдуцца так*
*шчэ як мінімум тройчы*
*на наступным тваім*
*векавечным шляху,*
*да якога,*
*дай Божа,*
*дажыць.*

*Але вернемся крыху ізноў*
*у першы твой год.*
*Тады ж акурат*
*запяяў на ўвесь свет*
*Сымонка малы,*
*скрыпка ягоная*
*рвала ўсім сэрцы,*
*узбунтоўвала душы,*
*загрувашчвала розум*
*грахоўнымі думкамі.*
*Мо таму*
*яго й выгналі з дому,*
*каб спакойна народ даглядаў*
*сваю рунь і скаціну*
*і не пнуўся нічога мяняць.*
*Граблі, косы, снапы —*
*вось багі,*
*якім трэба маліцца*
*і дзяржаўнаю мэтаю меціць,*
*пра што нават*
*і герб сакавіцкі засведчыў.*
*Потым нехта з тых радных*
*усё ж дакумэкаў*
*пра сымбаль спрадвечны*
*і рыштунак мазольнае працы*
*з герба прыбраў.*
*Ваяра верхаконнага*
*сталі мы меціць*
*за галоўны сымболь.*
*Рыцару тому, аднак,*
*не ўдалося да мэты дапяць.*
*Разбойная новая ўлада*
*спутала косю,*
*пацягнула на бойню,*
*а вершніка кінула за муры.*

*Дзіцячая памяць схавала надзейна*
*відзежы тых дзён веснавых,*
*не выпетрыў мрояў аб волі*
*ні рыжскі раздрай,*
*ані дулы наганаў*
*на галгофах*
*ад краю да краю,*
*ні падступныя слодычы*
*юдавых пацалункаў*
*вуснамі набрыдзі*
*ўсякіх масцей.*

*Ты таемна*
*пабралася шлюбам,*
*дзетак харошых займела.*
*Яны выраслі*
*і нарадзілі мяне*
*і многіх маіх*
*сястрычак і брацікаў.*
*Мы ў сілу ўбіраліся,*
*моўчкі ў душах пястуючы*
*спеў пра цябе.*
*Але гімн твой*
*прарваўся навонкі*
*разам з крыкам радзінным*
*нашых сыноў і дачок,*
*і мільённае рэха*
*панесла па свеце*
*пераззвоны літаўраў.*
*Ты чуеш,*
*як граюць нашчадкі твае!*
*І шчаслівая,*
*праўда ж,*
*сустрэць разам з намі*
*гэтае вечнае сонца*
*і гэты бяскрайні*
*нябескі блакіт,*
*і прывітаць тваіх праўнукаў,*
*якіх нарасло гэтак шмат,*
*што для злыдняў зусім*
*тут*
*не стала прытулку*
*і не будзе ніколі.*
*Ведай гэта!*
*І спакойна святкуй.*
*Чаркніся з намі ўсімі*
*за волю*
*і тваю маладую вясну!*

*Бабуля мая дарагая,*
*Бэнээраўка любая!*
*Жыві вечна, як Бог!*

**25.03.2018**



Фота www.kripalu.org

# Беларусь у 1812 годзе



Уладзімір АРЛОЎ

**У 1812 годзе французскі імператар Напалеон пачаў вайну з царом Аляксандрам I. Расейскія гісторыкі называюць тую вайну Айчыннай, гэта значыць такой, калі, бароначы Радзіму, супроць захопнікаў падымаецца ўвесь народ. Але для Беларусі вайна 1812 года была зусім інакшай. Нашыя продкі не лічылі Расейскую імперыю Айчынай і не хацелі бараніць яе. Пазбавіўшы ліцьвінаў-беларусаў незалежнасці, царская ўлада ператварыла Беларусь у сваю калонію. Жыхары Літвы-Беларусі спадзяваліся, што Напалеон вызваліць іх з цяжкага прыгнёту і дапаможа адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае.**

## 15 тысяч рэкрутаў за год

Напалеон Банапарт, якога ў 1804 годзе абвясцілі французскім імператарам, быў выдатным палкаводцам. Ён атрымаў мноства бліскучых перамог і здолеў усталяваць уладу амаль над усёй Еўропай. Расея не магла змірыцца з тым, што Францыя робіцца галоўнай дзяржавай на еўрапейскім кантыненце, і рыхтавалася да вайны. Галоўны цяжар падрыхтоўкі, як заўсёды, клаўся на паняволеныя народы.

На абшары колішняга Вялікага Княства Літоўскага стаялі дзве царскія арміі колькасцю 157 тысяч салдат і афіцэраў. Беларусы мусілі забяспечваць іх правіянтам. У артылерыю забіралі найлепшых коней. Нашмат павялічылі набор рэкрутаў, якім было наканавана служыць цару 25 гадоў. Амаль ніхто з іх не меў шанцаў вярнуцца дадому жывым. За адзін толькі падраваенны 1811 год у беларускіх губернях забралі ў расейскае войска 15 тысяч маладых беларусаў. А наогул рэкруты з нашых земляў складалі тады пятую частку ў царскім войску, хоць на абшары Беларусі жыло ўсяго восем працэнтаў насельніцтва Расейскай імперыі.

Расея рыхтавалася нанесці першы ўдар, але Напалеон апярэдзіў Аляксандра I...

## Армія французскага імператара

Для паходу на Расею французскі імператар падрыхтаваў велізарнае 600-тысячнае войска. Напалеон называў гэтую збройную сілу Вялікай арміяй.

Войска лічылася французскім, але французаў у ім было меней за палову. Астатнія жаўнеры і афіцэры паходзілі з Аўстрыі, Прусіі, Галандыі, Швейцарыі... Вялікая армія размаўляла на двух дзясятках моваў. Пад сцягі Напалеона стала шмат італьянцаў і палякаў. Італьянцы марылі пра адзінства і незалежнасць раздробленай Італіі. Сваю дзяржаву ў ранейшых межах спадзяваліся з дапамогаю французскага імператара адрадзіць і палякі.

У Вялікай арміі служылі тысячы беларусаў-ліцьвінаў, што апынуліся за мяжой пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай і задушэння вызвольнага паўстання на чале з Тадэвушам Касцюшкам і Якубам Ясінскім. Нашых суайчыннікаў вяла вера ў аднаўленне незалежнасці Вялікага Княства.

## Чакалі і шляхта, і сяляне

На нашых землях напалеонаўскія войскі ўжо даўно з надзеяй чакала большасць насельніцтва. Шляхта збірала грошы для французаў, што трапілі ў расейскі палон у 1807 годзе. Сяляне верылі выдадзеным па-беларуску ўлёткам з абяцаннем скасаваць прыгон, якія пашыралі прыхільнікі Напалеона. Каталіцкае і уніяцкае духавенства разлічвала пазбыцца ўведзеных расейцамі шматлікіх абмежаванняў.

З перахопленых лістоў, а таксама з данясенняў віжоў-шпегаў расейскія ўлады часта даведваліся пра намеры шляхты і месцічаў служыць у Вялікай арміі. Гэтых «врагов государя и Отечества» арыштоўвалі і судзілі. Іх маглі чакаць смяротная кара або пажыццёвая служба ў царскім войску. Адзін з такіх асуджаных шляхціч Адам Чарноцкі мусіў цягнуць салдацкую лямку ў Бабруйску. Ён здолеў збегчы ды перайсці мяжу і ўступіў у корпус французскага маршала Даву. Чарноцкі перадаў свайму камандзіру план важных расейскіх умацаванняў — Бабруйскай фартэцы.

Яшчэ за тры гады да паходу на Расею палкоўнік Тадэвуш Тышкевіч, што служыў у войсках Напалеона Банапарта, пісаў яму у рапарце: «У маёй краіне ад Нёмана да Дзвіны сэрцы людзей адкрытыя да Вас».

## «Слава вызваленцам!»

У купальскую ноч 1812 года Вялікая армія пераправілася цераз Нёман, па якім тады праходзіла мяжа Расейскай імперыі.

Праз чатыры дні Напалеон ужо ехаў па вуліцах Вільні. Сталіца Айчыны нашых продкаў сустракала французскага імператара як героя. Горад грымеў воклічамі «Слава вызваленцам!» Шляхцянкі кідалі пад ногі Банапарту, ягоным генералам і афіцэрам букеты кветак. Ліцвінская арыстакратыя ладзіла ў гонар вызваленцаў багатыя пачосткі ды балі.

Першым пад бел-чырвона-белымі сцягамі ў горад увайшоў беларускі кавалерыйскі полк князя Дамініка Радзівіла. Шмат ліцвінаў ваявала і ў палках польскага генерала Юзафа Панятоўскага. Адразу распачаўся запіс у Вялікую армію. Служыць у ёй выказалі жаданне амаль усе студэнты Віленскага ўніверсітэта. Узяць у рукі зброю імкнуліся шмат шляхцічаў і людзей з мяшчанскага стану.

Самая ўрачыстая сустрэча была наладжаная ў Менску французскаму маршалу Даву. Віншавальныя прамовы гучалі ў іншых беларускіх гарадах. Вялікую армію віталі каталіцкія і уніяцкія святары. Яшчэ перад паходам Напалеона яны, нягледзячы на загад царскіх уладаў, адмаўляліся называць у сваіх храмах французскага імператара Антыхрыстам — галоўным ворагам Ісуса Хрыста.

Банапарту прысягнуў былы ігумен віленскага праваслаўнага Святадухаўскага манастыра, а тады епіскап магілёўскі і віцебскі Варлам ды магілёўскае праваслаўнае духавенства. Епіскап падпісаўся пад зваротам пра далучэнне Магілёўскай губерні да адроджанага Вялікага Княства. Аднадумцам і паплечнікам уладыкі Варлама быў ігумен Арэст. Абодва спадзяваліся стварыць незалежную ад Масквы Беларускую праваслаўную царкву.

Пра тое, з якім уздымам нашы прадзеды чакалі і сустракалі напалеонаўскую армію, можам прачытаць у славутай паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Яе героі верылі, што «сам Бог з Напалеонам», а значыць, кожны патрыёт-ліцьвін павінен быць у ягоных шэрагах, каб прынесці роднаму краю вызваленне.

Царскія чыноўнікі ўслед за войскам уцякалі на ўсход, і шляхта для кіравання губернямі і паветамі стварала свае камісіі. Сялянства таксама глядзела на французаў з надзеяй, бо чула, што ў Варшаўскім герцагстве Банапарт ужо скасаваў прыгон. На пачатку вайны сяляне часта дапамагалі напалеонаўскім жаўнерам: паказвалі ім дарогу, хадзілі ў выведку, разам нападалі на маёнткі верных цару памешчыкаў.

У тыя дні ў сэрцах людзей жылі светлыя мары і спадзяванні. Мала хто задумваўся, чаму адмовіўся ўдзельнічаць у вайне Тадэвуш Касцюшка, які жыў тады ў Францыі.

## Аднаўленне Вялікага Княства

Напалеон Банапарт добра разумеў, наколькі важна палітыку ведаць гісторыю. Яшчэ ў Парыжы, перад тым, як выехаць да сваіх жаўнераў, ён прысвяціў некалькі дзён вывучэнню мінулага тых мясцін, куды накіроўваў Вялікую армію. Імператару паведамілі пра мары ліцвінаў не толькі вызваліцца ад расейскай няволі, але і адрадзіць былую дзяржаву.

У Вільні Напалеон падпісаў указ пра аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага з ранейшай сталіцай. Княства складалася з Віленскай, Гарадзенскай, Менскай губерняў і Беластоцкай вобласці, перайменаваных у дэпартаменты. Кожны дэпартамент меў ваеннага губернатара-француза.

У Часовы ўрад Княства ўвайшлі паважаныя асобы са знакамітых ліцьвінскіх родаў: Аляксандр Сапега, Францішак Ельскі, Язэп Серакоўскі, Кароль Прозар, Аляксандр Патоцкі. Камітэт народнай адукацыі і рэлігіі ўзначаліў рэктар Віленскага ўніверсітэта славуты вучоны Ян Снядэцкі. Кіраўніком урада стаў граф Станіслаў Солтан.

Дзеля падтрымання парадку ў адроджаным Княстве стварылі сваю паліцыю. Пачалося фармаванне ўзброеных сілаў, якія сталі часткаю напалеонаўскай арміі. Туды ахвотна ўступалі і сяляне. Пасля шасцігадовай службы ім абяцалі вызваленне ад прыгону і зямельны надзел. Усе жаўнеры-ліцьвіны мелі на вайсковай форме кукарды з «Пагоняй».

## Нашы продкі ў гвардыі Напалеона

У Вільні Банапарт выдаў таксама дэкрэт пра стварэнне з ліцвінскіх шляхцічаў-добраахвотнікаў 3-га кавалерыйскага палка Імператарскай гвардыі. Для таго, каб зрабіцца гвардзейцам, мала было аднаго жадання. У напалеонаўскую гвардыю залічалі самых адважных, дужых і дысцыплінаваных вояраў, якія ўжо мелі добры досвед баявых дзеянняў.

Камандаваў 3-м уланскім палком генерал Ян Канопка родам з-пад Слоніма. Ён надзеў вайсковую форму пятнаццацігадовым юнаком. Пазней Канопка браў удзел у вызвольным паўстанні Тадэвуша Касцюшкі. За мужнасць у баях паўстанцкі правадыр узнагародзіў Яна пярсцёнкам з надпісам: «Айчына свайму абаронцу». Як і многія ліцьвіны, пасля паўстання Канопка апынуўся ў Францыі і ўступіў у армію Напалеона Банапарта. З ёю прайшоў тысячы кіламетраў баявых дарог і вызначыўся ў многіх бітвах. У 1811 годзе Ян Канопка атрымаў званне генерала і найвышэйшую вайсковую ўзнагароду — Залаты крыж ордэна «Virtuti Militari».

У 3-м гвардзейскім палку служыла нямала нашчадкаў вядомых ліцьвінскіх родаў: Валовічаў, Ромераў, Плятэраў, Пузынаў, Пуслоўскіх, Тышкевічаў, але большасць складалі дзеці дробнай і беззямельнай шляхты. Да палка далучыўся эскадрон беларускіх татараў на чале з Мустафой Ахматовічам. Гвардзейцы-татары здабылі славу як выдатныя выведнікі.

Шмат беларусаў-ліцьвінаў неслі службу і ў гвардзейскім уланскім палку генерала Вінцэнта Красінскага. Наогул жа, у гвардыі Напалеона ў 1808–1815 гадах налічвалася паўтары тысячы нашых суайчыннікаў. Зазіраючы наперад, трэба адзначыць, што яны заўсёды вызначаліся гераізмам ды захавалі вернасць прысязе і пасля адыходу напалеонаўскіх войск назад за Нёман.

35 гвардзейцаў-ліцьвінаў Напалеон узяў з сабой у першую высылку на востраў Эльба. Яны складалі амаль палову ганаровай «Эльбаўскай арміі». Пасля высадкі Банапарта на французскі бераг у сакавіку 1815 года ліцьвіны-беларусы ішлі ў авангардзе ягонага маленькага войска, якое пераможна вярнулася ў Парыж. У тыя гады пяцьдзясят аднаго ліцьвінскага гвардзейца ўзнагародзілі ордэнам Ганаровага легіёна. Пяцёра атрымалі самую высокую французскую ўзнагароду двойчы, а двое — тройчы.

Вояры з Беларусі бралі ўдзел і ў апошняй бітве Напалеона пад Ватэрлоа.

Больш даведацца пра тую цікавую старонку беларускай гісторыі вы зможаце, прачытаўшы кнігу даследчыка Уладзіміра Лякіна «Ліцьвіны ў гвардыі Напалеона». Пры канцы кнігі аўтар змясціў 1108 адшуканых імёнаў нашых гвардзейцаў. Магчыма, сярод іх знойдзеце і сваіх продкаў.

## Ад Вільні да Віцебска

Напалеон разлічваў паасобку разбіць расейскія арміі паблізу ад мяжы і прымусіць Расею падпісаць мір. Але царскія генералы вырашылі не ўступаць у вырашальную бітву, пакуль не аб'яднаюць войскі. Французы ж імкнуліся сарваць гэты план. Каля Кобрына і Міра, блізу вёсак Гудзевічы на Гарадзеншчыне, Салтанаўка на Магілёўшчыне з першых дзён вайны ішлі крывавыя баі.

У ліпені вялікая бітва адбылася каля вёскі Клясціцы, што пад Полацкам. Сам Полацак французы занялі без цяжкасцяў. Адсюль адкрываўся шлях на расейскую сталіцу Санкт-Пецярбург. Тры дні на беразе ракі Дрыса кіпела бітва. Расейцам усё ж удалося спыніць наступ напалеонаўскіх палкоў на Пецярбург. Пад Клясціцамі быў смяротна паранены таленавіты генерал Якаў Кульнёў, дзяцінства якога прайшло ў Віцебскай губерні. Напалеон высока цаніў адвагу праціўніка. Даведаўшыся пра геройскую смерць генерала, французскі імператар паслаў у Парыж адмысловага ганца з лістом, дзе называў Кульнёва адным з найлепшых афіцэраў-кавалерыстаў, з якімі ён сустрэўся ў баях.

Да жніўня Напалеон заняў амаль усе беларускія землі. Роўна праз месяц пасля Вільні Напалеон уступіў у Віцебск. На падыходах да горада, каля мястэчка Астроўна, расейскія войскі зноў сустрэліся з французамі. Бой быў такі цяжкі, што на кожным метры дзесяцівярстовай дарогі ад Астроўна да Лучосы ляжаў забіты ці паранены.

**35 гвардзейцаў-ліцьвінаў Напалеон узяў з сабой у першую высылку на востраў Эльба. Яны складалі амаль палову ганаровай «Эльбаўскай арміі». Пасля высадкі Банапарта на французскі бераг у сакавіку 1815 года ліцьвіны-беларусы ішлі ў авангардзе**

## Дзень нараджэння імператара

У Віцебску французскі імператар рыхтаваўся да свайго 43-га дня нараджэння. Ён быў у гуморы. Нягледзячы на цяжкія страты, ягоныя войскі прайшлі ад Нёмана сотні вёрстаў і набылі яму пяць мільёнаў новых падданых.

Паўсюль у беларускіх гарадах вывешвалі партрэты французскага імператара. Газеты пісалі пра добраахвотнікаў, што запісваюцца ў Вялікую армію, і пра ахвяраванні на яе патрэбы. Князёўна Радзівіл ахвяравала дзесяць валоў і дванаццаць бараноў, а нейкі незаможны шляхціч з-пад Навагрудка — некалькі фунтаў масла і рэшата яек. Такіх прыкладаў было вельмі багата.

Святкаванне імянінаў Напалеона ў Менску распачалося раніцой сапраўдным канцэртам званоў гарадскіх храмаў. Муніцыпалітэт (гарадское кіраўніцтва) абвясціў пра перайменаванне пляца Верхні рынак у пляц Напалеона. Увечары ў тэатры паказалі спектакль «Вызваленая Літва, або Пераход Нёмана» паводле п’есы пісьменніка Яна Ходзькі. Шэсць тысяч менчукоў сабраліся на святочны маскарад з багатай ілюмінацыяй, усе прыбыткі ад якога былі ахвяраваныя на французскі вайсковы шпіталь.

Вядома, што ў свой першы віцебскі дзень Напалеон адшпіліў шпагу, тэатральна кінуў яе на завалены вайсковымі картамі стол і абвясціў: «Тут я спынюся, злучу карпусы маёй арміі, дам ёй адпачынак і займуся ўладкаваннем гэтай краіны. Паход 1812 года — закончаны!» З Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў Напалеон меркаваў стварыць яшчэ адну падуладную яму дзяржаву пад назваю Беларусь.

Гэтым часам у напалеонаўскім войску служыла прыблізна 25 тысяч беларусаў.

Хто ведае, што сталася б, каб французскі імператар сапраўды спыніўся? Аднак неўзабаве ён перадумаў і, тамсама ў Віцебску, пастанавіў ісці на Маскву.

## Пяць пудоў жыта з двара

Хоць прамінула ўсяго паўтара месяца вайны, прыхільнікі Напалеона ў нашай краіне адзначалі яго дзень нараджэння ўжо не так радасна, як віталі пачатак паходу. Заняўшы беларускія землі, Напалеон аб’явіў іх вызваленымі ад расейскага прыгнёту і не скупіўся на шчодрыя абяцанні. Не ўсе разумелі, што французскі імператар вёў сваю гульню. Ён марыў пра панаванне над усім светам, а лёс таго ці іншага народа не надта хваляваў яго.

За абяцанне аднавіць Вялікае Княства Літоўскае Напалеон патрабаваў 100-тысячнае войска і велізарную колькасць харчовых прыпасаў для Вялікай арміі. Часовы ўрад Княства не стаў сапраўдным гаспадаром краіны. Ён не меў права прымаць пастановы без згоды французскага камісара, а таго найбольш цікавіла забеспячэнне Вялікай арміі прадуктамі і фуражом.

Сяляне марна чакалі ад Напалеона адмены прыгоннага права. Замест гэтага ён падпісваў усё новыя і новыя загады пра паборы. Французы гойсалі па вёсках, пакідаючы за сабою пустыя каморы, хлявы і адрыны. Пад выглядам добраахвотных ахвяраванняў салдаты збіралі з кожнага двара па два пуды сена і саломы ды па пяць пудоў жыта і аўса. У жніўні Напалеон выдаў загад, згодна з якім Вялікая армія павінна была атрымаць ад беларускіх губерняў 53 тысячы кароў і 628 тысяч тон збожжа.

Надзеяў на французскага імператара заставалася ўсё менш і менш. Сяляне браліся за косы ды сякеры і стваралі партызанскія аддзелы, каб бараніцца ад рабункаў.

Паспяховымі нападамі на чужынцаў праславіліся партызаны з прыдзвінскай вёскі Жарцы пад Полацкам. Напярэдадні Барадзінскай бітвы Банапарт вымушаны быў накіраваць ажно 10 тысяч жаўнераў на дапамогу 12-тысячнаму віцебскаму гарнізону, які партызаны амаль што трымалі ў аблозе.

Ад тых часоў захавалася паданне, як у ваколіцах Віцебска Напалеон запытаўся ў бабулі-сялянкі, каму яна зычыць перамогі ў вайне: французам або расейцам. Мудрая беларуска смела і дасціпна адказала імператару: «Хачу, каб вы загналі расейцаў так далёка, што не вярнуліся б ні яны, ні вы».

## Уцёкі ў чужым мундзіры

На пачатку верасня каля вёскі Барадзіно за 125 кіламетраў ад Масквы адбылася адна з самых буйных бітваў XIX стагоддзя. З французскага і расейскага бакоў тут сышлося больш за 250 тысяч жаўнераў. У напалеонаўскім войску пад Барадзіном ваявала кавалерыя Дамініка Радзівіла, тысячы беларусаў-добраахвотнікаў, у расейскай арміі — іхнія паднявольныя землякі-рэкруты. Сучаснікі тых падзей з болем пісалі, што брат мусіў ісці на брата.

Барадзінская бітва не выявіла пераможца. Напалеону ўдалося заняць Маскву, але разбіць царскую армію ён так і не здолеў. У кастрычніку французы пачалі адступаць. Расейскія войскі, нярэдка з дапамогаю партызанаў, выбілі войскі Банапарта з Полацка, Віцебска, Магілёва…

Жорсткія баі паміж карпусамі Напалеона і царскімі войскамі адбыліся ў лістападзе на берагах Бярэзіны. Рашучым контрударам французскі імператар прымусіў расейцаў пакінуць Барысаў і пераправіў свае сілы на другі бок ракі. Цяпер на месцах тых баёў, каля вёскі Студзёнка і на Брылёўскім полі паблізу Барысава, створаны мемарыял.

Адступленне яшчэ нядаўна магутнай Вялікай арміі ўсё больш нагадвала ўцёкі.

У беларускім мястэчку Смаргонь Напалеон пераапрануўся ў мундзір польскага ўлана і пад чужым імем пакінуў армію. Недзе ў Беларусі, магчыма, на дне аднаго з нашых шматлікіх азёраў, застаўся ляжаць напалеонаўскі залаты скарб, які яшчэ называюць «залатой карэтай».

Апошні бой на радзіме рэшткі войска Вялікага Княства Літоўскага вялі 10 снежня 1812 года на вуліцах Вільні. З царскімі салдатамі мужна біліся егерскі батальён Плятэра, віленскія гвардзейцы палкоўніка Казельскага, татарскі эскадрон Ахматовіча.

Французскі імператар паабяцаў маршалам і прыдворным, што праз год прывядзе 300 тысяч жаўнераў і ўсё адно паставіць Расею на калені. Але тыя планы не здзейсніліся. Часовы ўрад Вялікага Княства яшчэ блізу года працаваў у Варшаве, Кракаве і Дрэздэне, марна спадзеючыся, што ўрэшце вернецца ў Вільню.

У выгнанні, на закінутым у акіяне востраве Святой Алены, Банапарт прыйшоў да высновы, што прычынай яго разгрому ў 1812 годзе былі ваенныя, а найперш палітычныя памылкі, зробленыя на нашай зямлі. Аўтар гэтых радкоў напісаў пра Напалеона-выгнанца, які ва ўспамінах зноў і зноў вяртаецца ў Беларусь, аповесць «Сны імператара». Гэты твор пераносіць чытача ў Вільню, Віцебск, Смаргонь ды іншыя мясціны на беларускім шляху Вялікай арміі…

## Мільён магіл і бясконцыя рабункі

У 1812-м Беларусь страціла мільён жыхароў, чвэрць усяго насельніцтва. Адны загінулі ў баях, другія памерлі ад голаду і пошасцяў. У асобных гарадах насельніцтва скарацілася ў тры разы. Пад час адступлення напалеонаўскія жаўнеры займаліся непрыхаваным рабаваннем мірнага насельніцтва. Каб раскласці вогнішча і сагрэцца, яны разбіралі сялянскія хаты. У полымі часта гінулі бібліятэчныя, архіўныя і мастацкія зборы шляхецкіх маёнткаў.

Многія беларускія сяляне, якія змагаліся з французамі ў партызанскіх аддзелах, атрымалі за баявыя заслугі царскія медалі і крыжы, але прыгон пасля вайны толькі ўзмацніўся. Былых партызанаў, якія палічылі сябе за вольных людзей і адмовіліся ісці на паншчыну, памешчыкі загадвалі бязлітасна секчы бізунамі. Чаканне адмены прыгоннага права перакрэслілі словы цара Аляксандра I: «Мужыкам Бог аддзячыць».

Расейцы рабавалі палацы і замкі нашых арыстакратаў, якія падтрымалі Напалеона. З радзівілаўскага Нясвіжа царскія адмірал Чычагаў і генерал Тучкоў з памагатымі вывезлі на ўсход сорак вазоў найбагацейшых калекцый: творы беларускіх і заходнееўрапейскіх мастакоў, даўнейшую зброю і музычныя інструменты, каштоўныя кнігі ды рукапісы. Частка нарабаванага трапіла потым у царскія скарбніцы і зборы пецярбургскага Эрмітажа. Углыб Расейскай імперыі з Нясвіжа вывезлі больш за 12 тысяч старадаўніх манет і медалёў. Потым дайшла чарга да геаграфічных карт, паляўнічых стрэльбаў, дываноў і фіранак. Шамбеляна (каменданта) Нясвіжскага замка і слугаў, што таксама захавалі вернасць гаспадару, — князю Дамініку Радзівілу, які ваяваў на баку Банапарта, — расейцы бясконца дапытвалі і катавалі. Яны так хацелі даведацца, дзе галоўныя нясвіжскія скарбы, што некалькіх княскіх слугаў закатавалі да смерці.

Царскія ўлады жорстка каралі прыхільных да Напалеона святароў і царкоўных уладыкаў. Епіскапа магілеўскага і віцебскага Варлама абвясцілі дзяржаўным злачынцам. Яго пазбавілі сану і зрабілі простым манахам, а затым пажыццёва зняволілі ў манастыры, забараніўшы нават пісаць лісты сваякам. Неўзабаве былы ўладыка, які марыў пра самастойную беларускую царкву, страціў здароўе і аслеп.

Тысячы нашых землякоў, якія служылі ў напалеонаўскай арміі, мусілі адступіць за мяжу і ваяваць на чужыне. Апошнія жаўнеры і афіцэры з войска Вялікага Княства вярнуліся на радзіму, калі скончыўся тэрмін іхняй шасцігадовай службы.

Пасля вайны 1812 года тыя, хто марыў вызваліць Айчыну ад расейскага панавання, зразумелі, што трэба разлічваць толькі на ўласныя сілы.

## Гістарычная віктарына

1. Чаму для Беларусі вайна 1812 года не была Айчыннай?
2. Раскажыце пра пачатак вайны. Як нашыя продкі сустракалі Вялікую армію?
3. Што Напалеон зрабіў для аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага?
4. Чаму беларусы-ліцьвіны ішлі служыць да Напалеона? Колькі нашых землякоў было ў ягоным войску?
5. Што вы даведаліся пра ліцьвінаў у гвардыі французскага імператара?
6. Якое рашэнне прыняў французскі імператар у Віцебску?
7. Чаму беларусы зразумелі, што Напалеону нельга верыць?
8. Як нашы сяляне бараніліся ад рабункаў чужаземных жаўнераў?
9. Чым скончыўся напалеонаўскі паход на Расею?
10. Якую выснову зрабіў Банапарт на востраве Святой Алены?
11. Якія страты прынесла Беларусі вайна 1812 года?

**Малюнак Паўла Татарнікава**




**На гэтым малюнку — Напалеон Банапарт у жніўні 1812-га ў Віцебску, дзе адзначаў свой дзень нараджэння. На той час Напалеон заняў амаль усе беларускія землі. Ён ужо фактычна стаў уладаром кантынентальнай Еўропы. Напалеону здавалася, што Расея таксама пераможаная і яму супрацьстаіць толькі Вялікабрытанія. Менавіта на яе імператар і паказвае эфесам шаблі на карце Еўропы. На другім плане пашыхтаваная старая гвардыя Напалеона як сімвал ягонага вайсковага трыумфу. Удалечыні — сілуэты храмаў тагачаснага Віцебска.**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 2 (150) | 22 лютага 2019 | № 7 (618) Новы Час

# Арнамент Радзімы



Юрка ГОЛУБ

## Планеты

*Будзем жыць — як набяжыць,*
*Прасаваць падэшвай тракты?*
*Сонца кліча з жытам жыць,*
*Ночка глушыць нанач трактар.*

*Неразборку ўсіх планет*
*Разбіралі ўдома слёзна*
*Муж вучоны праз ларнет,*
*Селянін — праз след палозны.*

*Вынік сведчыў? Скрозь грахі —*
*Не сцяжына для планетаў.*
*Слепа верыў ім глухі,*
*Чуйны вокам быў у нетрах.*

*Каб залатвіць будняў сэнс,*
*Лоб падпёр калом сланечнік.*
*Змізарнеў апошні пенс:*
*У кішэні ён не вечны.*

*Сонца ўздыме росаў рой.*
*Месяц значаць пабрацімы.*
*У нябёс празрысты крой*
*І арнамент у радзімы.*

## Васілёк

*Міколу Крукаву, мастаку*

*І падаў васілёк наўпрост…*
*Навошта, дружа, падаць.*
*Віецца побач рэчка Рось —*
*Над ёю наша праўда.*

*Стаяць натомлена крыжы*
*Распятых сухадрэвін.*
*На скрыжаванні знак крычыць:*
*Шаша пад шынай дрэмле.*

*На помач колы клічуць даль.*
*Мінай канвы канавы.*
*А там, дзе блішча магістраль,*
*Агні начы сканалі.*

*Абмые ранкам жытні плёс*
*Расы высокай хваля,*
*Дзе васілька жаданы ўсплёск*
*Жыты адратавалі.*

*Не ўзняць угору галавы.*
*Трава ў рыштоку кленчыць.*
*А васілёк, глядзі, жывы*
*У бездані сінечы.*

## Не страляць

*Шкада, а час забыў на сказ,*
*Што калісьці месціўся ў кішэні.*
*А прыдаўся б сказ цяпер якраз,*
*Бо пад кулю паўстаюць мішэні.*

*Сказ кароткі вельмі:*
*«Не страляць!» —*
*Воклічам прастору замыкае.*
*Днём свісталі з'юшана страла,*
*Уначы хапаліся за камень.*

*Напладзілася вакол ваяк*
*Раздзімаюць у шаленстве*
*ноздры.*
*Кожны з іх па нораву сваяк*
*У сусветна знанай*
*«коза ностры».*

## Шкадаванне яловаму лесу

*Прытча*

*Яловы лес нагадваў штольню,*
*А ў штольні змрок не лашчыць*
*зрок.*
*Закінуў ён, як ранец школьнік,*
*Не знацца з цемраю — зарок.*

*Калі ў галовах чад яловы,*
*Дык зруб не выведзецца ў лад.*
*Калі цясляр не адмысловы,*
*Дык брус яловы вінават.*

## З успамінаў пра вёску Грынкі

*Івану Сухоцкаму*

*Звон.*
*Царква.*
*Паблізу Супрасль.*
*Сівізна ля галавы.*
*Асабіста я — не супраць,*
*Не зважаў, — ці супраць вы.*

*Божа мілы, адхіснуцца*
*Ці змаглі б ад той зямлі,*
*Там, дзе вербы стойма гнуцца*
*Лежма — рунь на карані.*

*Вы слязу не адшукалі,*
*Не змагліся блазнам быць.*
*Не ахутаў час шаўкамі:*
*Як цяперака пражыць?*
*Загайдалі свет паперы,*
*Звонка рэхва ў вас блішчыць.*
*Дык чаму сюды паперлі*
*Тыя, хто трымалі шчыт?*

*Адначасна — не трывожна —*
*Знойдзе сцежка небасхіл.*
*Кацялок.*
*Агонь.*
*Трыножнік.*
*І на шлях хапае сіл.*

## Абыдзёншчына

*Фэнтэзі*

*Навокал шмат метамарфоз.*
*Вось прадзярэцца вока раптам:*
*Вунь скарацiўся рос завоз,*
*А вываз міма мытні драпнуў.*

*Традыцый дзёрскі марадзёр*
*Завёў у багну спеўны табар.*
*А закапылены франдзёр*
*Прымаў авацыю за хабар.*

*І нечакана, як абвал,*
*На трасу шчасця морак шаснуў,*
*Каб сукін сын не забываў:*
*Дасюль жылося досыць шчасна.*
*Запомніўся, няйначай, раж:*
*Гармата ў вераб'я страляла —*
*Запэўніць свет у соты раз,*
*Што зброя ў свеце не старая.*

*І запрыкмеціла — бы цуд —*
*Абслуга змрочнага тырана,*
*Як той пісаў марскі эцюд,*
*А мора плюскала старанна.*

*Глядзі! На кукішках пяюн*
*Напяўся ўзлесці на катурны,*
*Ды кульбай даў яму Пярун,*
*Не згодны з ім каларатурна.*

*На неспазнаных астравах*
*Дыміцца бровар — калі ласка!*
*Яго размах — ды не! — замах:*
*Разбіць аб слуп тваю каляску.*

*Але найболей і спаўна*
*Нядаўна грамаду абцешыў*
*Пясняр цвярозага віна*
*Пазачарговай, мабыць, цешчай.*

*Да чуткі — чутка, etc…*
*Яны заўсёды з вамі вобак.*
*Сініцу сціснуў у руцэ,*
*А жураўля шпурляй на воблак.*

## Фантасмагорыя хмары

*Засупонім слова — і на хмару:*
*Там канца і краю не відаць.*
*Ведаем,*
*Кахаемся*
*Ды марым*
*Хмару недасяжную дагнаць.*

*Супыніся ты, мая галуба,*
*Пуцявіна наша — гэта верш,*
*І найперш тут вызначаўся*
*лубін…*
*Не! Яго сінеча ўсё ж найперш.*

*Бубны зніклі. І замоўклі трубы.*
*Бераг свету над ракой пустэ.*
*Глянь, высока на стажарным*
*зрубе —*
*Капяжок ад смолкі — гэта стыль.*

*Асачыць адсюль ці давядзецца*
*Кон відушчы сама па сабе?*
*А прыгоду, што між зор віецца,*
*Маладзік, як пеўнік, задзяўбе.*

*І відзён, бы на далоні, хутар.*
*Маці пры даёнцы і фартух.*
*Дык навошта зноў душу ахутаў*
*Да маленства неспазнаны зрух.*

*Блізка — блізка…*
*Так!..*
*Было…*
*Калісьці…*
*Жарсць трымцела, каб палёт*
*пачаць.*
*Хмара — хмара, ты мая калыска:*
*Хочацца з адчаю закрычаць.*

## Яблынь квет

*А яблынь квет фантомны:*
*Суквецці беляхцяць.*
*За плотам не ў прытоме*
*За свята свеціць сад.*

*Агораем мы свята*
*Пры чарцы з ручніка.*
*Дзяўчаты і салдаты:*
*Гудзе жыцця рака.*

*Палянку ў існым садзе*
*Шукаў аблок чарод.*
*А побач — глянь — засада:*
*Ім пастку ладзіў дрот.*

*Ды ў яблынь волкі вэлюм:*
*З такім імкнуцца ў рай.*
*Яго мы песцім вельмі:*
*На хутары — у Зэльве —*
*Любові цераз край.*

## Трыялет касца

*Адкляпаў ён касу, як верш:*
*Звоніць каса яго залатая.*
*Касавільна касу вітае*
*І касцом вітае найперш.*
*Блешча ўранку срэбрам атава,*
*У нябёсах касец вітае.*
*Адкляпаў ён касу, як верш:*
*Звоніць коска яго залатая.*

# Усё яшчэ будзе



Наста КУДАСАВА

***

*цырвала надрывы, хавала рубцы,*
*забівала дарэмныя вокны,*
*але восень прысела ў мяне на*
*гаўбцы*
*і завыла воўкам.*
*завывай жа,*
*зрывай гэты зманлівы рай:*
*хай у схібах гартуецца схіма,*
*хай нясецца душа з горкіх шахт*
*на-гара —*
*міма часу*
*і болю*
*міма.*

***

*ты не кліч, не заві,*
*толькі верасень — мой візаві.*
*колкі сівер і вусцішсівілы ўмаёй крыві.*
*але кожным радком я малю цябе,*
*любы,*
*жыві!*
*аддавайся дарогам, заблуквай*
*у хмельных травах…*
*салаўіныя сэрцы кунеж,*
*заварожвай і княж!*
*так, бязлітасны час,*
*але жыць немагчыма інакш,*
*бо любоў ахінае сабой*
*свет няўрымслівы наш,*
*асвятляючы ўсё —*
*нават самую простую яву.*

***

*там, дзе лета ахоўвае*
*шчасця няўлоўнага трымт,*
*дзе зялёнага лесу наўсцяж*
*раскашуецца харам,*
*там па сцежках чароўных*
*чароўныя ходзяць звяры,*
*там дагэтуль жывыя —*
*давер, спагада і сорам.*
*лапкай мыш бласлаўляе мурог,*
*а вавёрка дупло*
*высцілае любоўю —*
*сасны гаспадарлівы пробашч…*
*там на сцежках зямных*
*мы зямное люляем цяпло*
*бо не трэба ні раю, ні выраю*
*там, дзе ты побач.*

***

*трыццаць два, а дагэтуль — го-*
*лая,*
*без'языкі пакорлівы голем.*
*не ўрастае ў мяне,*
*не прымаецца*
*ні стырна —*
*толькі крык і памяць.*
*ты пашый мне кашулю крыла-*
*тую*
*з веры кропнай,*
*спагады мятнай*
*і пусці мяне ў рай абязболены —*
*рай дзяцей, сабак і анёлаў.*

***

*так свяціцца Імя,*
*так ідзе Валадарства Тваё,*
*быццам хтосьці ў грудзях мне*
*прарэзаў*
*аконны праём*
*і ўтрапёна ўзіраецца ў свет*
*зноў жывымі вачыма —*
*сумны вязень, даўно забыты,*
*дзівак нічыйны.*
*кажа:*
*«Госпадзе, ну і адчайная ж*
*воля Твая!*
*але што ні дасі, вось ён я —*
*Твой маленькі ваяр!*
*Твой даверлівы блазан,*
*пылок на Тваім плашчы…*
*праўда ж, хороша разам, скажы?*
*ну, чаму Ты маўчыш?*
*хай да моташы ўвішнае тло*
*мне давалася ў знакі,*
*але ўсё, што я вынес адсюль, —*
*гэта енк падзякі.*
*вось я —*
*выцісну боль,*
*выб'ю змрок,*
*пераджыў зіму.*
*…ладна,*
*Бог з ім, са словам,*
*я веру*
*й дыханню*
*Твайму».*

***

*Схамяніся, самотная схімніца,*
*бачыш,*
*ветах да вуліцаў хіліцца,*
*тонкай ножкай*
*жывое намацвае*
*між дамамі, палацамі, пляцамі.*
*Схамяніся,*
*пачуй, як упрошвае:*
*«Не згарай! Дарагая, харошая…*
*Між аблудаў пустэчы*
*прагорклай*
*не згарай,*
*будзь маёй зоркай…»*



Фота 64parallel

# Бруклінскі мост

## З нізкі «Уладзевы гісторыі»



Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

### Вокладка ці пераплёт?

Абмяркоўвалі аднаго дня партнёры-выдаўцы новую серыю — размоўнікі-даведнікі.

Пагадзіліся, што пачынаць трэба будзе з самых запатрабаваных і распаўсюджаных еўрапейскіх моў, што ў «размоўнай» частцы будуць тры калонкі: іншамоўная, перакладная і калонка практычнай (вульгарнай, спрошчанай) транскрыпцыі.

Вырашылі, што ў размоўнікі будуць уключаны найчасцей ужываныя словы і выразы, якія варта згрупаваць па тэматычных раздзелах: «На мяжы», «У гатэлі», «У горадзе», «Пакупкі», «Слаўутыя мясціны» і падобныя.

Палічылі, што тэматычныя раздзелы варта дапоўніць заўвагамі і даведкамі, якія будуць утрымліваць карысную найперш турыстам інфармацыю, а таксама міні-слоўнічкі.

— Зразумела, што паперу дзеля эканоміі дамо газетную, — разважаў Алег, — і што фармат будзе адназначна кішэнны...

— Я сказаў бы, што кішэнна-сумачны, бо размоўнік можна насіць не толькі ў кішэні, але і ў барсэтцы, і ў дамскай сумачцы, — мякка ўдакладніў Уладзя. — Мне дык падабаецца 70х100/32.

— А гэта колькі пасля абрэзу?

— 165 на 115 міліметраў.

— Ну, можа быць. А вось з якога варыянта вокладкі пачаць — з мяккага ці з цвёрдага?

— Паліграфісты цяпер прыглядаюцца, спрабуюць засвоіць і трэці ды, мабыць, актуальны, так званы інтэграваны пераплёт...

— Гэта калі ў «крышкі» закладаецца зусім тонкі, амаль што бязважкі кардон?

— Ну, так. Але ж мы прафесіяналы, а таму прапаноўваю скарыстоўваць не дылетанцкую, а прафесійную лексіку, тэрміны і азначэнні выдаўцоў і паліграфістаў. Мяккая вокладка — гэта і ёсць уласна вокладка, а так званая цвёрдая вокладка — гэта пераплёт!

— Згода, — кіўнуў Алег, — але мяркую, што трэба будзе рабіць два варыянты — і ў вокладцы, і ў пераплёце. Так сказаць, танны, дэмакратычны, а таксама больш прэзентабельны, але, як мінімум, на даляр даражэйшы варыянт.

— Я прапанаваў бы пачаць з вокладкі.

— Якія будуць аргументы?

— Я лічу, што размоўнікі-даведнікі набываюць, каб чэрпаць з іх найперш практычную інфармацыю, — пачаў здалёк Уладзя. — А таксама дзеля псіхалагічнай упэўненасці — маўляў, у складанай сітуацыі кніжка дапаможа. Але на вуліцах ні ў нямецкім Франкфурце-на-Майне, ні ў польскай Варшаве, ні ў каталонскім Січэзе, што пад Барселонаю, ні ў амерыканскім Нью-Ёрку не бачыў я турыста ці камандзіраванага па справах з разгорнутым размоўнікам! Хаця пара-тройка іншамоўных фраз спрыяе лепшаму стаўленню тубыльцаў на рэцэпцыі ў гатэлі ці на базары...

— Але якое дачыненне ўсё гэта мае да тыпу вокладкі? — нецярпліва перапытаў Алег.

— Зразумела, што за мяжу ездзяць не самыя бедныя людзі. Ім нібыта ўсё адно — аддаць за размоўнік-даведнік па даляр болей ці меней. А з другога боку, дзе найчасцей гартаюць тыя размоўнікі? У дарозе ці на... пляжы!

— І што з таго?

— А тое, што пакладзе адпачыннік наш томік у вокладцы ў пляжную сумку разам з мокрым купальнікам і ручніком, а той набрыняе вільгаццю, распухне дый сапсуецца!

— Ну дык і добра! — усклікнуў Алег.

— Як гэта — добра?! — здзівіўся ягоны калега. — Усіх нас выхоўвалі, прывучалі ашчадна ставіцца да кніг!

— Так, але да чужых, пазычаных у сябра або ўзятых на абанемент у бібліятэцы! Са сваімі ж можна і трэба абыходзіцца куды вальней. Можна рабіць пазнакі на маргінэзах, можна падкрэсліваць упадабаныя ці важныя радкі, можна дамалёўваць свае ілюстрацыі...

— Усё гэта слушна... А ўсё ж не разумею, што добрага ў тым, што размоўнік размокне і сапсуецца?!

— Ды тут усё проста! — Алег вытрымаў эфектную паўзу і патлумачыў: — Турыст набудзе іншы і, хутчэй за ўсё, гэткі самы, ужо звыклы размоўнік! Значыць, мы прадамо не адзін, а два асобнікі!

— Ну, гэта проста нейкі апафеоз цынізму! — толькі і змог сказаць Уладзя.

— Ды не! Апафеоз — гэта пазіцыя нашага калегі Якава Міхайлавіча Х. ці, як завуць яго сябры, проста Яна. Ён любіць казаць, што выдаўцы, нібыта ілюзіяністы, мяняюць адну паперу на іншую, ператвараюць газетную альбо афсетную паперу ў вокладцы ці ў пераплёце ў стосікі зялёных простакутнічкаў з партрэтамі Бенджаміна Франкліна! Трэба памятаць, што і наш асветнік, гуманіст і першадрукар Францішак Скарына не толькі перакладаў, аздабляў, друкаваў Біблію, але і прадаваў яе, зарабляў выдавецкай справаю! Таму і мы не толькі мусім несці люду паспалітаму добрае, разумнае, вечнае, але і не забывацца, што ёсць прадпрымальнікамі, а значыць павінны мець прыбытак і плаціць падаткі!

### Народны ілюзіяніст

На адным са штогадовых міжнародных кніжных кірмашоў, што праходзіў у сталічным Палацы мастацтва, прыпыніўся Уладзя каля століка свайго калегі, пісьменніка і выдаўца В. Х. і мімаволі загледзеўся на ягоныя маніпуляцыі.

На століку ляжалі з паўдзясятка кніжных выданняў, і на ўсіх былі пазначаныя неверагодна высокія кошты. Калі чарговы наведвальнік выставы-кірмашу і патэнцыйны пакупнік пытаўся, чаму тая ці іншая кніга такая дарагая, дык спадар Валер, і брывом не варухнуўшы, тлумачыў: «Шкада аддаваць, бо гэта апошні асобнік. Таму і цана адпаведая...»

Але, як толькі пакупнік адыходзіў з набыткам, спадар Валер спрытна выхопліваў з кардоннай скрыні, прыхаванай пад столікам, гэткі самы асобнік і выкладваў яго на агляд і на продаж.

— Ну, ты, Валер, малайчына! — удавана захоплена зазначыў Уладзя. — Увіхаешся, нібыта той ілюзіяніст у цырку!

— Называй як сабе хочаш — хоць ілюзіяністам, хоць эквілібрыстам, а хоць і гіпнацізёрам! Але трэба ж неяк круціцца, каб акупіць хаця б арэнду гэтага імправізаванага стэнда!

— Мабыць, трэба будзе ўзяць на ўзбраенне твой фінт, — не пакідаў свайго іранічнага тону Уладзя, аднак калега таго нібыта не заўважаў.

— Ну, наконт гэтага як сабе хочаш. Але ма́ю да цябе адну вельмі сур'ёзную прапанову...

— Прапановы любыя, асабліва сур'ёзныя, я ахвотна выслухоўваю дый разглядаю.

— Ты ж ведаеш, што акрым усяго я яшчэ і лекар.

— А як жа ж! Памятаю, бо гэта пазначана на тваёй візітоўцы. Ну дык і што?

— Выдай мой траўнік-даведнік з каляровымі ілюстрацыямі! Гарантую, што саракатысячны наклад разляціцца імгненна!

— Пачакай, ты, здаецца, сам выпускаў яго ў сваім выдавецтве...

— Ну, калі гэта было! Гадоў з дзесяць таму!

— Тады лічы, што твая прапанова ўжо разгледжаная.

— Ну, і... — са спадзяваннем выдыхнуў спадар Валер.

— Як выдавец, ты мусіш ведаць: кожны аўтар лічыць, што ягоны твор, ягоны рукапіс ці друкапіс — надзвычай таленавіты, запатрабаваны і значны, што менавіта яго нецярпліва чакаюць чытачы і спажыўцы, што выдавец недаацэньвае яго і таму губляе сваю выгоду...

— Ну, ведаю! — нецярпліва перапыніў спадар Валер. — Але не цягні, кажы па сутнасці!

— А па сутнасці — час гэткіх траўнікаў даўно мінуўся, і якраз гадоў з дзесяць таму сышоў на нішто і попыт на іх.

— Ды не, я б сам перавыдаў яго, — млява прагаварыў спадар Валер. — Проста ў мяне цяпер не стае абаротных сродкаў!

— Але ж я не ілюзіяніст, каб дастаць з капелюша тыя самыя сродкі! А з другога боку, чаму гэта ты раптам так палюбіў мяне, што дорыш проста залатыя горы?!.

### Бруклінскі мост

У пазамінулым стагоддзі цяперашнія складнікі Нью-Ёрка выспа Манхэтан ды раён Бруклін былі асобнымі гарадамі і мелі патрэбу злучацца пэўнай магістраллю. Прапанова пра падземна-падводны тунэль не прайшла, а прынялі праект стальнога вісячага моста інжынера Джона Роблінга. Небарака загінуў на будаўніцтве Бруклінскага моста (Brooklin Bridge), але справу цягам трынаццаці гадоў давялі да канца ягоны сын Вашынгтон, а пасля ягонай траўмы — жонка Эмілі.

Гэты неагатычны — аўтамабільны, веласіпедны і пешаходны — цуд не можа не ўражваць: ягоная шырыня складае 26 метраў, даўжыня 1825, а асноўны пралёт 486,3 метра! Ён занесены ў спіс Нацыянальных гістарычных славутасцяў, а дзякуючы галівудскім кінастужкам лічыцца адным з сімвалаў мегаполіса.

Паказаць яго Уладзю ўзялася доччына сяброўка Вераніка.

Прайшлі ледзь не ўвесь яго пешкі, зрабілі некалькі дзясяткаў фотаздымкаў на айфоны, прачыталі ці не ўсе надпісы на шыльдах, мемарыяльных дошках і дарожных указальніках, падзівіліся майстэрству праекціроўшчыкаў і будаўнікоў, палюбаваліся на гарадскія краявіды з хмарачосамі, верхнія паверхі якіх хаваліся ў дажджавых хмарах.

— На хорошее
и мне не жалко слов.
От похвал
красней,
как флага нашего матéрийка,
хоть вы
и разъюнайтед стэтс
оф
Америка, —

прадэкламаваў Уладзя, а пасля паўзы прадоўжыў:

— Смотрю,
как в поезд глядит эскимос,
впиваюсь,
как в ухо впивается клещ.
Бруклинский мост —
да...
Это вещь!

— Каго гэта вы цытуеце? — спыталася заінтрыгаваная Вераніка.

— Ведаеш, за савецкім часам некалькі беларускіх паэтаў пабывалі ў Нью-Ёрку прадстаўнікамі Беларускай ССР на сесіях Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый: Рыгор Барадулін, Пятрусь Броўка, Кандрат Крапіва, Пімен Панчанка... — пачаў здалёк Уладзя. — Максім Танк нават выдаў кніжку публіцыстычнай прозы «Недыпламатычныя нататкі», а Анатоль Вярцінскі — не менш публіцыстычных нататак «Нью-Йоркская сірэна». Пазней, у часы незалежнісця Генадзь Бураўкін быў тут цэлыя чатыры гады за сталага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН. Але вось не магу прыгадаць аніводнага годнага верша пра Бруклінскі мост, хоць і не выключаю, што такія ёсць. Не выключаю жа другасны, прасавецкі верш-агітку «Маякоўскі каля Бруклінскага моста» Петруся Броўкі! Вось таму і даводзіцца дэкламаваць радкі самога Уладзіміра Маякоўскага. Найперш паэт і мастак, ён, калі не памыляюся, у 1925 годзе некалькі месяцаў гойсаў па паўночнаамерыканскім кантыненце, рыхтаваў публікацыі ў часопіс «Огонёк» ды ў газету «Известия», а таксама ладзіў свае творчыя вечарыны.

— Вы ж таксама праводзілі тут свае імпрэзы...

— Ну, покуль што было іх усяго толькі тры дый маю гэтым разам у Амерыцы менш за тры тыдні, — удакладніў Уладзя і задумліва дадаў, пазіраючы на Нью-Ёрк скрозь моставыя ванты:

— Отсюда
безработные
в Гудзон
кидались
вниз головой.

— Які жах! — усклікнула Вераніка.

Уладзя крыху збянтэжана зірнуў на дзяўчыну, а праз хвілю схамянуўся, паспешліва загаварыў да яе:

— Ты выбачай, Вераніка! Я нічога не меў на ўвазе! Проста чамусьці ў галаў прыйшлі і гэтыя радкі... А новую працу ты неадменна і хутка знойдзеш!

— Я гэта ведаю і асабліва не турбуюся, — супакоіла дзяўчына і гарэзліва дадала: — Затое магу падарыць вам сёння свае свежаспечанае адкрыццё!

— Гэта якое ж?

— Ды ваш цёзка ледзь не сто гадоў дурыць людзей!

— Ну, ведаю, што мусіў паэт адпрацоўваць і свае немалыя камандзіровачныя. Дый увогуле нярэдка быў ён двухаблічны. Насіў, да прыкладу, амерыканскія дыхтоўныя чаравікі, як на знакамітым фотапартрэце Аляксандра Родчанкі, а сам, як заўзяты рэкламшчык, складаў слоганы пра савецкія галёшы кшталту: «С помощью «Резинотреста» / Мне везде — сухое место!» Але ж Бруклінскі мост папраўдзе ўразіў паэта, і ён шчыра ў тым прызнаваўся!

— Але я маю на ўвазе не савецкую ідэалогію, а фактаалагічную памылку!

— Так, цікава! Патлумач...

— Беспрацоўныя аніяк не маглі кідаца ў Гудзон з гэтага моста, бо злучае ён два берагі зусім іншай ракі!

— Як гэта?

— А вельмі проста — пад намі нясе сваю плынь Іст-рывер! А рака Гудзон працякае амаль што паралельна, але з іншага, процілеглага боку Манхэтана, самага дарагога вострава ў свеце!

### Біблійны Адам

У Нью-Ёрку, у Беларускай фундацыі Крачэўскага Валянціна Трыгубовіч расказала Уладзю, як на адной з навукова-практычных канферэнцый яна, тады маладая яшчэ даследчыца-мастацтвазнаўца, сарамліва і асцярожліва звярнулася да найпаважанага прафесара Адама Мальдзіса:

— Выбачайце, спадар Мальдзіс, але, да свайго сораму, не ведаю, як зваць вас па бацьку...

Адказ быў і з намёкам на пашанотны ўзрост, і з самаіранічнай адсылкай да часоў біблійных:

— Ну, па-першае, вы ўжо паспяхова звярнуліся да мяне — беларусы могуць цудоўна абыходзіцца і без імя па бацьку. А па-другое, хіба ў Адама быў бацька?

# Пакінуў Пятро Ластаўка…

**Наспеў час сабраць пад адну вокладку мастацкія і гісторыка-краязнаўчыя ўспаміны беларускага грамадска-культурнага дзеяча і публіцыста Пятра Ластаўкі (1907–1968) з Варшавы.**

Ён у свой час актыўна друкаваўся на старонках заходнебеларускага друку, беластоцкіх тыднёвіка «Ніва» і «Беларускага календара», быў сябрам Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы (БГКТ).

Беларускімі справамі Пятро Ластаўка захапіўся яшчэ тады, калі яму было толькі 14 гадоў, распаўсюджваючы нелегальныя адозвы, кніжкі, газеты…

Ён нарадзіўся 16 лютага 1907 года на Дзісеншчыне ў беднай беларускай сялянскай сям'і. Вельмі рана застаўся без бацькоў, таму яшчэ хлопчыкам зведаў нялёгкую фізічную працу парабка і пастуха. Калі яму споўнілася 19 гадоў, уступіў у Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду і стаў яе актыўным сябрам на Дзісеншчыне. За гэтую дзейнасць маладога Ластаўку польскія ўлады арыштоўвалі і саджалі за краты ў Глыбокім, а пасля ў Вільні. Потым выпускалі — і за ім кантралявала паліцыя.

У канцы 1920-х гадоў Пятра Ластаўку забіраюць у польскае войска. Адбыўшы вайсковую павіннасць, ён зноў вяртаецца ў родную вёску і працягвае беларускія справы. Але паліцыя ад яго не адставала. Тады юнак вырашае пакінуць родныя мясціны і едзе ў Варшаву.

З цягам часу знайшлася праца. Пятро Ластаўка знаёміцца з многімі беларусамі Варшавы, а пасля арганізуе асветнае таварыства беларусаў. Гэтае таварыства дзейнічала да пачатку вайны, а Пятро Ластаўка быў яго самаахвярным кіраўніком.

Калі пачалася Другая сусветная вайна, Пятро Ластаўка пакінуў Варшаву і пераехаў жыць у Забалацце Белападляскай гміны, але сувязі з сябрамі-беларусамі не губляў. Ды і там ён праводзіў цікавыя імпрэзы, сустрэчы.

Пасля вайны Пятро Ластаўка вяртаецца ў Варшаву і жыве ў Мілянуўцы. Ён па-ранейшаму не пакідае беларускіх спраў, актыўна ўключаецца ў працу Варшаўскага аддзела БГКТ. Доўгі час з'яўляецца сябрам яго праўлення, а пазней і сябрам прэзідыума. А калі БГКТ займела права займацца гаспадарчай дзейнасцю, то спадар Ластаўка становіцца дырэктарам прамысловага прадпрыемства «Бэтэска» і кіруе гэтым прадпрыемствам ажно пяць гадоў.

Пятро Ластаўка быў і апантаным калекцыянерам, кнігалюбам, займаўся публіцыстыкай і літаратурай. Юры Туронак згадваў, што пасля смерці Ластаўкі, у 1968 годзе, яму пашанцавала купіць усю яго калекцыю — блізу 20 беларускіх кніг, выдадзеных у ваенны час у Берліне, Варшаве і Менску.

Пры жыцці Пятро Ластаўка цікавіўся лёсам варшаўскіх беларусаў. Мне прыемна згадваць сёння гэтага чалавека і таму, што ён добра ведаў і шчыра сябраваў у Варшаве з маім земляком Гальяшом Леўчыкам. Асабліва спадара Ластаўку цікавіў лёс паэта пасля 1944 года. 10 лютага 1967 года Пятро Ластаўка звярнуўся нават у ЗША да Яна Пятроўскага з просьбаю напісаць успаміны пра духоўнае жыццё Леўчыка. Ластаўка пісаў Пятроўскаму: «Пішу ўспаміны пра Гальяша Ляўковіча. І дзеля гэтага хацеў бы прыгадаць варшаўскі час такім, якім ён быў у сапраўднасці. Хіба вы не ведаеце, што Леўчык ужо не жыве. Ён памёр у верасні 1944 года на атаку печані ў цяжкіх абставінах, бо не было ніадкуль ніякае помачы… У наступным лісце перашлю Вам болей звестак пра апошні час жыцця і смерць Ляўковіча» (Ян Пятроўскі. Мэмуары. Слуцак–Гэйнсвільл, 1988). Далей у пісьме Яну Пятроўскаму Ластаўка пісаў, што ён ужо два гады як цяжка хварэе. »У маім далейшым лісце да Ластаўкі, — згадваў далей у сваіх »Мэмуарах» Ян Пятроўскі, — ад 24 чэрвеня 1968 года я пытаўся, як ён маецца і яшчэ раз прасіў падаць мне звесткі, якія адносяцца да апошніх дзён Ляўковіча. Але на гэты мой ліст я ніколі ўжо не атрымаў адказу».

Ян Пятроўскі звяртаўся з просьбаю і да сына Пятра Ластаўкі, але адказу больш ад сям'і Ластаўкаў не атрымаў. Відаць, яго дзяцей беларускія справы і лёсы беларусаў ужо не цікавілі. Тым больш, што 19 верасня 1968 года беларускага дзеяча ў Варшаве не стала…

Артыкулы Пятра Ластаўкі на самыя розны тэмы раскіданы па газетах і часопісах мінулага стагоддзя. Адно праўдзівае здарэнне «Трое сяброў» прапануем «Літаратурнай Беларусі». Яно публікавалася ў месячным рэлігійным часопісе «Zlucennie» ў лістападаўскім нумары за 1938 год.

**Сяргей Чыгрын**

# Трое сяброў

**Праўдзівае здарэнне**

Пасля сусветнай вайны Сцяпан паступіў на фабрыку. Не любіць горада, але недахоп зямлі ў дома і брак заработку змусілі яго да гэтага жыцця.

Як толькі атрымаў водпуск, не чакаючы доўга, купіў білет, сеў, як кажуць, на »шалёну кабылу» і паехаў у родную вёску.

Вечарам зірнула апошняя станцыя. Сэрца яго забіла нейкая радасць. Усё знаёмае, блізкае… Шыбка мінаў вузенькія, гразныя вулічкі добра ведамага яму мястэчка. Хутка дайшоў да поля, поля сваёй ужо вёскі.

— Здароў, брат, — пачуў за сабою голас Лявона. Быў то сябра з дзіцячых гадоў.

— А нішто, як ты? Я, як бачыш, трымаюся. Што чуваць у нашым родным кутку? — спытаў Сцяпан.

— Гарачыня ў нас, бачыш. Днём дык і не паказвайся ў полі… Вось, што схваціш раненька з расой ці вечарам — то і наша. Бачыш, і цяпер вяртаюся з касой. Некаторыя дык нават ноччу косяць.

— Як трэба, дык трэба. А як мы парымся круглы год у душнай фабрыцы…

— Вось і мая хата, — сказаў Лявон, затрымаўшыся перад вёскай, — мо зойдзеш адпачыць?

— Дзякуй. Пайду да брата. Недалёка.

— Мо ў нядзелю прыйдзеш?

— Добра, пастараюся, — сказаў Сцяпан і пайшоў далей.

Перад хатай спаткаў Сцяпана брат: »Чаму ж не папярэдзіў? Конь свой, запрог бы і пад'ехаў».

— А, што там. З прыемнасцю прайшоў гэтыя два кіламетры.

— Пячы, жонка, яешню, маем госця, — звярнуўся брат Сцяпана да жонкі, калі ўвайшлі ў хату.

— Няхай братавая не клапоціцца. Які я там госць, — бараніўся Сцяпан, — свой. Заўтра касу на плечы і да работы пайду… А ведаеце, — змяніў тэму Сцяпан, — ідучы, спаткаў Лявона, як жа ён пастарэў.

— Старэе, — пацвердзіў брат, — але і дзіўны зрабіўся пасля вайны. Ні да людзей, ні да Бога, — нідзе яго не спаткаеш: ні ў царкве, ні на вёсцы. Замкнуты ў сабе.

— Прасіў, каб заглянуў да яго. Гэта ж мой найлепшы сябра з-прад вайны.

Селі вячэраць.

— Ну, раскажы, што ў свеце новага? — звярнуўся брат да Сцяпана.

— А, сённяшні свет не варт гэтага слова. Гэта не свет, а нейкі кацёл, у якім усё кіпіць і кіпіць, і што з гэтага будзе, ніхто не ведае.

Пасля вячэры Сцяпан пайшоў на свежае сена. Зарыўся з прыемнасцю ў ім і, неўпарадкаваўшы часу думак, заснуў. Калі прачнуўся, сонца ўжо было высока. Выйшаў за гумно, кінуў вачыма ў шырокае поле і ўдыхнуў з жаднасцю свежага паветра.

— Шчасце, — падумаў, — гэта мець свой кавалачак зямелькі і працаваць на ім…

Дзень за днём шыбка мінаў. Надышла нядзеля. Паснедаўшы, пайшоў Сцяпан у царкву. Памаліўся за свой народ. Пасля набажэнства спаткаў шмат знаёмых. Пагутарыў крыху то з тым, то з іншым. Калі вяртаўся дахаты, зайшоў да Лявона.

— Думаў, што будзеш у царкве і разам прыйдзем, — сказаў Сцяпан, калі ўвайшоў у хату.

— Не сабраўся ніяк, — адказаў той, убіўшы вочы ў зямлю.

— А мой ты суседзька, думаеце, што ён ходзіць у царкву? — падхапіла жонка.

— Ужо пачынаеш, — перарваў яе Лявон, — дайце лепш супакой гэтай гутарцы. Падавай на стол, — звярнуўся ён да жонкі.

— Што гэта знача? Пра царкву не гавару. Чаму? — пытаў сябе ў думцы Сцяпан. — Перад вайной гэтакі быў рэлігійны, гэтак гарнуўся да малітвы і царквы, а цяпер?.. І абразоў нат няма, — кінуў на сцяну, — хоць ты бяры шапку і ўцякай з гэтай нары. Але не, — падумаў, — трэба аб гэтым пагаварыць.

Выпілі па чарцы. Крыху павесялеў Лявон.

— Як бачу, то ў цябе і абразоў няма? Што з табой? — пачаў Сцяпан.

— Браток, каб ты ведаў гісторыю майго жыцця, то не дзівіўся б, — адказаў Лявон.

— Мо раскажаш?

— Усё гэта вайна, — уздыхнуў Лявон. — Сколькі ж яна нарабіла крыўд людзям… Сколькі ж згубіла душ…

— І тваю пэўна, — падхапіў Сцяпан.

— Каб ты ведаў…

— Кажы ад пачатку. Слухаю.

— Цяжка пра гэта гаварыць, але табе, і ў дабавак пры чарцы, адважуся.

— Кепска, што адвагу маеш пры чарцы, — стыдзіў Сцяпан.

— Пачалася вайна. Ідзе чалавек з вёскі і гораду. Знаходзіцца ў моры натоўпу людзей. Моладзь і моладзь. А ведаем, што найбольш моладзь адварочваецца ад Бога. Моладзь, моладзь, чуючы сябе сільнай фізічна, думае, што жыццё яе ёсць вечнае, і дзеля таго перастае верыць. І калі чалавек знаходзіцца сярод гэтых масаў, хутка асімілюецца, становіцца бязбожнікам — так і са мной сталася… Пачаткава быў я ў расейскай арміі, пасля рэвалюцыі перайшоў у польскае войска. Усюды бязбожнасць, нявера… — цяжка уздыхнуў Лявон, узяў люльку, закурыў і распавядаў далей. — Было нас трох сяброў: адзін жыдок, другі палячок-камуніст і я. Адной ноччу, пасля наступлення на бальшавікоў, ляжалі мы за ўзгоркам. То там, то сям чуваць былі стрэлы. Перад намі на пагорачку стаяў крыж. Не гледзячы, што два дні трывала барацьба на адным месцы, крыж і фігура Хрыста былі не зачэплены. І не ведаю, які чорт падсунуў мне думку, кажу да іх: »Хто ж з нас лепшы стралок і пападзе ў фігуру?..» І, доўга не думаючы, пацэліў і стрэліў. Не папаў, закрануў толькі дрэва крыжа. Тады жыдок кажа: »Ты не стралец, вось я дык пападу». І праўда, злажыўся і папаў у самую галаву фігуры, паміж вачэй. Трэці стрэліў і таксама папаў у левы бок, ніжэй сэрца. Калі ўглядаліся мы, убачылі, як пацякла кроў з ран. Пераміняліся мы позіркамі між сабой, нічога не кажучы. Толькі жыдок прамовіў: »Е, галюцынацыя».

Назаўтра з самай раніцы зноў наступленне. Пачалі гнаць бальшавікоў. Мы заўсёды разам. У пэўнай хвіліне, здаецца, і стрэлаў не было, жыдок крыкнуў і паваліўся. Мы да яго… І мароз прайшоў па скуры. Куля трапіла якраз у гэта самае месца, у якое ён Хрыста стрэліў. Глянулі мы на сябе, усталі і бяжым далей. За хвіліну і палячок дагары нагамі паляцеў. Спалохаўся я, угледаюся, нідзе нічога, а ўжо ён і не жыве. Разарваў я адзенне, а яму куля прайшла ніжэй сэрца. Вось я і задрыжаў… Божанька, — кажу, — не карай мяне смерцю, я ж толькі дрэва закрануў… Не паспеў устаць, а тут ззаду бальшавікі… Ну і забралі мяне ў палон… І што ты на гэта ўсё скажаш? — спытаў Лявон і змоўк.

— Панеслі адпаведную кару за свае ўчынкі перад Богам, — сказаў Сцяпан.

— Добра, яны не жывуць і не мучацца, а мяне ўвесь час ад гэтага грызе сумленне.

— Яны згубленыя, а ты можаш яшчэ ўратаваць сваю душу. Бог ёсць міласэрны, толькі трэба ўпакорыцца, памаліцца, можа, пашкадаваць за свае грахі, а тады адыдзе ад цябе жуда, сумленне твае адпачне, і будзеш шчаслівы. Чаму гэтага не зробіш? — пытаў Сцяпан з выкідам. — У царкву ходзіш?

— Не магу. Пайшоў раз, то ў маіх вачах здалося, што ўсе святыя пачалі мяне стыдзіць і казаць, што я нягодны там прыхадзіч. І праўда, калі падумаю, што я столькі брахаў, як сабака, проці Бога і Веры святой, то і сапраўды я нягодны, стыдаюся людзей і баюся Бога, папросту, хоць ты жывы ў сырую зямельку ўцякай…

— Не спадзяваўся я, што ты такі нясведамы, — сказаў Сцяпан. — Зрабі, што я табе параджу, не страціш гэтым нічога. Кінь усю работу і пайдзі заўтра з сямі раніцы да споведзі. Памаліся шчыра. Кайся сваіх праступкаў, і пабачыш, як шчаслівы прыйдзеш дахаты. Ведай тое, што Бог ёсць так добры, як бацька свайго дзіцяці, каторае, яшчэ яно нядобрае, а ўсё ж і памагае яму ў чым толькі зможа — таксама і Бог за шчырую малітву і каянне прыгарне да свайго сэрца кожнага чалавека… Ну, але я загаварыўся, як баба, там чакаюць.

— Мо і праўду кажаш. Нікога я не спаткаў, каб мне дарадзіў, а жыццё мае цяжкае, цёмнае… жуда і сум агарняюць маю душу.

— Тады будзе сонечнае і вясёлае, пабачыш… Ну бывай, а заўтра ведаеш, што трэба зрабіць, — паціснуў руку Лявона і выйшаў.

Прайшло пару дзён. Трэба было ўжо вяртацца Сцяпану ў горад. Калі меў ад'ехаць, прыйшоў Лявон, каб адвесці на станцыю. У дарозе не закрануў гэтай тэмы. Толькі на станцыі Лявон крэпка абняў Сцяпана і сказаў: «Ведаеш, браток, паслухаў цябе. Цяпер чуюся іншым. Жыццё перад сабой бачу пекнае, яснае… Вельмі цешуся, што Усемагутны Бог прыслаў да мяне найдаражэйшага мне з дзіцячых гадоў сябра, а цяпер праведніка, які паказаў мне дарогу да збаўлення душы. Бывай. Буду памятаць цябе заўсёды і прашу: не мінай маёй хаты ніколі».

Сцяпан ад'ехаў, глыбока задуманы жыццём свайго сябра, а Лявон вярнуўся да хаты шчаслівы і вясёлы.

**Пятро Ластаўка**

# Новая «Справа»

**Тэма новага нумара беларуска-ўкраінскага альманаху «Справа» — каханне і любоў.**

Яна арганічна вызначылася пасля таго, як рэдакцыя альманаху паездзіла з прэзентацыямі папярэдняга выдання, тэмай якога быў боль. Так, боль — галоўная тэма літаратуры. Болю шмат, і таму яму быў прысвечаны папярэдні нумар. Але менавіта любоў і каханне — гэта тое, што ўраўнаважвае боль. Любоў і каханне — гэта агонь, што асвятляе ноч. А можа, менавіта гэты ракурс — адзіны, дазваляе бачыць сутнасць рэчаў? Так ці інакш, менавіта каханне і любоў трымаюць наш свет і не даюць яму зваліцца ў прорву болю...

Прафесар Галіна Яструбецкая з Луцка пранавала надзвычайна цікавы матэрыял пра каханне ў жыцці Васіля Стуса — паэта, які вызначаў твар украінскай літаратуры ў 70-х гадах, Героя Украіны, дысідэнта, выбітнага стыліста, які быў, дарэчы, родам з Данецка.

Знаёмства на Кангрэсе даследчыкаў Беларусі са спадарыняй Алай Брадзіхінай «абярнулася» артыкулам пра тэатралізацыю кахання ў сучаснай беларускай літаратуры...

І хто так напіша пранізліва пра любоў да сваёй мовы, як настаўніца з Дывына Кобрынскага раёна Надзея Момлік? Вершы спадарыні Надзеі ўнікальныя сваёй дакументальнасцю — рэдка паэзія (ды і наогул літаратура) так поўна раскрывае карціну чужога жыцця.

Успомнім і паэзію Ірыны Цілык: кожны яе верш — сапраўдная гісторыя; аўтарка па спецыяльнасці з'яўляецца рэжысёрам — і з дакументальнай падрабязнасцю паэтызуе рэальнасць. У яе вершах — гісторыя сучаснай украінскай штодзённасці. Цілык і іншыя сучасныя ўкраінскія паэты публікуюцца ў падборцы вершаў «Толькі не пра вайну», якую з цеплынёй склаў наш сябар з Кіева літаратуразнаўца Вячаслаў Лявіцкі.

Новая «Справа» адкрывае беларусам Юлю Фінкоўську — надзвычай таленавітую ўкраінку, «вытканую» з любові, якая закахалася ў беларускую мову і стала пісаць на ёй вершы, поўныя фарбаў, пахаў і колераў.

Успамінаем і класікаў. І як! Ёсць у нумары бліскучы дыялог артыкулаў: Ігар Альшэўскі з Украіны і Ганна Севярынец з Беларусі спрабуюць разабрацца ў мужчынскай натуры Уладзіміра Сасюры, які, падчас прыезду ў Беларусь, здаецца, «закахаўся ва ўсіх беларускіх дзяўчат, разам і паасобку».

У гэтым нумары публікуюцца лісты ўкраінскіх пісьменнікаў да вядомага беларускага празаіка Івана Шамякіна, падрыхтаваныя яго дачкой спадарыняй Алесяй.

У раздзеле «Літаратуразнаўства» Зінаіда Дудзюк з Брэста публікуе лісты, якія атрымлівала ад пісьменніцы з Камянца Святланы Курылёвай. Святлана Курылёва запомнілася тым, што пісала апавяданні «з жыцця правінцыі», публікуючы іх у дзяржаўных выдавецтвах у савецкія часы, і выкарыстоўвала ў мастацкай прозе мясцовую гаворку.

Публікуюцца і краязнаўчыя матэрыялы ад прызнаных аўтараў. Так, любоўю да праўды вызначаецца тэкст дацэнта Ігара Кузняцова. Яго артыкул распавядае пра тое, як цынічна выраша́ўся лёс берасцейцаў — вязняў НКВД, у рэшце рэшт расстраляных савецкімі карнымі органамі ў Брэсцкай крэпасці перад уцёкамі ад немцаў улетку 1941 года. Парадокс сітуацыі ў тым, што ў крэпасці вісіць памятная табліца гэтаму карнаму атраду НКВД, але няма і згадкі аб бесчалавечных, бяссудных расстрэлах...

Брэсцкая крэпасць — гэта і іншыя гістарычныя фарбы, пра якія трэба памятаць. Крэпасць — гэта, па-першае, стары Брэст: менавіта тут існаваў горад да прыходу рускіх ваенных інжынераў у XIX стагоддзі. Але, вылучаецца, крэпасць — гэта яшчэ і першы ўкраінскі тэатр у Брэсце! Аб зараджэнні тэатра распавядаецца ў матэрыяле Аксаны Палій.

«Справа» публікуе і дзве чытацкія рэакцыі на навуковы артыкул Яраслава Антанюка з Луцку, прысвечаны баявым дзеянням УПА на Берасцейшчыне. Адзін тэкст — ліст чалавека, чыя сям'я стала відавочцамі тых падзей. Неверагодны выпадак, калі мова архіўных дакументаў ажывае ў сямейнай гісторыі. Другі ліст — чытацкія тлумачэнні да артыкулу Антанюка, дапоўненыя ўнікальнымі дакументамі з Пінскага занальнага архіва. З іх можна даведацца, як рэагавалі на УПА і АУН мясцовыя жыхары і чаму далучаліся да іх.

...А пачынаюць гэты нумар вельмі цёплыя выказванні пра Украіну Уладзіміра Караткевіча. Мабыць, не будзе перабольшваннем сказаць, што яго светапогляд ды літаратурны талент у многім сфармавалі гады навучання ў Кіеўскім універсітэце ды работы настаўнікам у сяле пад Кіевам. На ўсё жыццё ў яго засталася любоў да Украіны. «І як ёй аддзячыць? Хіба што адказваючы любоўю на Любоў. А большага яна і не патрабуе».

Альманах можна набыць у кнігарні «Акадэмкніга» і ў прыватных распаўсюднікаў.

Прыемнага чытання!

**Наталка Бабіна, старшыня Таварыства ўкраінскай літаратуры пры СБП**

# «Расціць з жалудоў дрэвы»

**Лепшыя творы пішуцца з болю. Гэтую сентэнцыю ярка ілюструе новая кніга паэзіі Алеся Аркуша «Возера Вялікае», якая нядаўна пабачыла свет дзякуючы выдавецкай ініцыятыве «Полацкае ляда».**

Алесь Аркуш пачынаў свой літаратурны шлях вершамі, але ў апошнія гады амаль цалкам пераключыўся на прозу. Адзін за адным ён выдаў пяць раманаў. І вось новая кніга паэзіі — «Возера Вялікае». Яна прысвечаная бацькам аўтара, якія не так даўно пакінулі гэты свет.

*пабачыліся абняліся*
*і развіталіся*
*да наступнай Радаўніцы*

Возера Вялікае — гэта родныя мясціны маці паэта, куды ў маленстве ён часта прыязджаў. Гукі, пахі, відзежы тых ваколіцаў асабліва выразна абудзіліся пасля таго, як хата продкаў абязлюдзела. Але ў падсвядомасці ўсё захавалася нязменным.

*упарта згадваю*
*адну і тую ж відзежу*
*па вузкакалейцы*
*едзе цягнічок*
*гружоны торфам*
*так выразна яго бачу*
*што магу*
*распазнаваць лічбы*
*на бартах вагонаў*
*грукоча цягнічок коламі*
*мільгаціць у вачах лічбамі*
*ужо і следу не засталося*
*ад той вузкакалейкі*
*а цягнічок усё некуды*
*спяшаецца*

Ці вось яшчэ:

*чаму я заўсёды*
*пазнаю цябе*
*вецер з аеравым пахам*

Незваротны сыход родных абвастрае ўнутраны зрок, выхоплівае з краявіду нябачныя раней праявы.

*ля драўлянай капліцы*
*якая хутчэй награвае́цца*
*ад веснавога сонца*
*шчыльным гуртом*
*грэюцца замшэлыя*
*уросшыя ў зямлю*
*надмагільныя камяні*

Душа, збалелая ў суме па страчаных крэўных, робіць простыя, здавалася б, адкрыцці:

*раптам усведамляеш*
*у гэтай капліцы*
*сумоўнічалі з Хрыстом*
*тры пакаленні тваіх продкаў*

На ўласным шляху да вечнасці паэта часта наведвае пачуццё дарогі ў нікуды.

*бляклае святло месяца*
*ледзь прыкметная дарога*
*і ўсё*
*і больш нічога*
*толькі поле і дарога*
*у нікуды*
*да месяца*
*і зор*

Вярэдзіць паэтаву душу і марнасць многіх ведаў і ўмельстваў, калі ніхто ў свой час не навучыў галоўнаму — гадаваць жыццё...

*калі збіраў пад дзедавым*
*дубам жалуды*
*згадаў як у школе*
*на ўроках працы*
*нас вучылі рабіць*
*з іх чалавечкаў*
*і цэлы дзень*
*думка не давала*
*мне спакою*
*чаму нас не навучылі*
*расціць з жалудоў*
*сапраўдныя дрэвы*

**ВА, svaboda.org**

# Нямецкі бестсэлер — па-беларуску

**(Прыгоды няўрымслівых блізнятак)**

**Прыгоды Луізы і Лоты: авантурны раман для дзяцей / Эрых Кэстнэр; пераклад з нямецкай Галіны Скакун; мастачка Наста Арайс. — Мінск: Тэхналогія, 2018. — 159 с.**




70 гадоў таму нямецкі паэт, празаік і сцэнарыст Эрых Кэстнэр напісаў раман для дзяцей «Незвычайныя прыгоды Луізы і Лоты» («Das doppelte Lottchen»), які стаў адным з літаратурных бестсэлераў. У Германіі гэты твор вытрымаў больш за 160 перавыданняў, быў неаднойчы экранізаваны і перакладзены на некалькі дзясяткаў моў. Беларускія чытачы сёння могуць пачытаць яго на роднай мове дзякуючы творчай працы перакладніцы Галіны Скакун.

Гісторыя пачынаецца ў дзіцячым летніку: тут сустракаюцца дзве абсалютна аднолькавыя дзяўчынкі: Луіза, якая жыве разам з бацькам у Вене, і Лота, якая жыве з матуляй у Мюнхене. Дзяўчынкі шчырыя і непасрэдныя, але маюць розныя характары: Лота — мілая і спакойная, Луіза — няўрымслівая, дасціпная і вясёлая. Дзякуючы старому сямейнаму фотаздымку Луіза і Лота высвятляюць, што яны сястрычкі-блізняткі, і прыдумваюць фантастычны план — бо вельмі пасябравалі і хочуць заўсёды быць разам. Тут і пачынаюцца сапраўдныя — абсалютна жыццёвыя — прыгоды, якія дакладна захопяць маленькіх чытачоў і слухачоў. Дынамічны сюжэт, шчаслівы фінал, пазітыўныя героі, якія вераць, што ўсё атрымаецца (паспрабаваць у любым выпадку варта!), — усё гэта гарантуе выдатныя ўражанні ад знаёмства з творам.

Кніга атрымалася прыгожай і светлай дзякуючы арыгінальным ілюстрацыям ад мастачкі Насты Арайс. На гэтых малюнках нямала герояў, добра знаёмых па іншых дзіцячых творах: цікаўная эканомка, разумны, пранікілівы доктар, эгаістычная прыгажуня сярэдніх гадоў, якая ледзь не стала мачыхай для Луізы і Лоты... Ёсць у кнізе і традыцыйныя, прадказальныя для дзіцячай кнігі сітуацыі і здарэнні. Што робіць раман унікальным, дык гэта цэнтральная праблема, да вырашэння якой Эрых Кэстнэр далучае сваіх герaінь.

У творы ёсць дзве цэнтральныя ідэі, і цяжка вызначыць, якая з іх галоўная. З аднаго боку, пісьменнік гаворыць пра вялікую значнасць сям'і, з іншага боку, паказвае, што жыццё толькі з мамай ці толькі з татам — не самае жахлівае для дзіцяці. Першая ідэя паслядоўна абгрунтоўваецца ў творы: Луіза і Лота вельмі радыя, што сустрэліся, і марацъ бачыць сваіх бацькоў заўсёды побач, яны ўпэўненыя, што геніяльны кампазітар (тата) і выдатны фатограф (мама) проста павінны быць разам дзеля сваіх мілых дачушак. Што тычыцца другой ідэі, то (як на наш час) Эрых Кэстнэр вельмі акуратна і далікатна паказаў, што толькі з мамай ці толькі з татам таксама можна выдатна бавіць час: кавярня, тэатр, выходныя на прыродзе, — усё гэта цудоўна, і калі бацькі не жывуць разам, гэта зусім не жыццёвая катастрофа. Зрэшты, сам Эрых Кэстнэр меў сына, але ніколі не знаходзіўся ў афіцыйным шлюбе.

Стасункі паміж дарослымі апісваюцца даволі спрошчана, аўтар відавочна пазбягаў негатыву і тлумачыў усе няправільныя ўчынкі неабачлівасцю, імпульсіўнасцю ды празмернай патрабавальнасцю герояў. Ён прапанаваў дзецям ставіцца да непаразуменняў паміж бацькамі максімальна проста, не пускаць у душу крыўду, абурэнне, маркоту. Вельмі верагодна, што гісторыя «дарослых» дачыненняў для большасці маленькіх чытачоў застанецца незаўважанай. Затое авантурны раман «Незвычайныя прыгоды Луізы і Лоты» можа стаць выдатнай падказкай для пісьменнікаў, якія адрасуюць свае творы дзецям і хочуць у цікавай форме данесці некалькі сур'ёзных ідэй.

Паводле залатога стандарту еўрапейскай літаратуры, кніга вучыць заўважаць пазітыўнае, раданае ў звычайным жыцці: гульнях, стасунках з блізкімі людзьмі, — і рабіць для іншых прыемныя неспадзяванкі, адзначаць штодня невялікія перамогі. Атрымалася зварыць суп ці палепшыць почырк — цудоўна, адзнака 10! Вось і гераіням заўсёды шанцуе, і нават калі ўсё, здаецца, зусім блага, на дапамогу прыходзяць добрыя зычлівыя людзі.

З кнігай пра Луізу і Лоту можна вельмі ўтульна правесці вечар і разам з дзецьмі ўзгадаць важныя рэчы, якія аб'ядноўваюць кожную — і вялікую, і малую — сям'ю.

**Ганна Скрыпка**

**Будзьма з «Дзеясловам»!**

*Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і атрымліваць яго шэсць разоў на год.*
*Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813,*
*Для ведамаснай падпіскі — 748132.*
*Будзьма разам!*

ПРЭМІІ

## Букераўская прэмія і «Man Group»

**Як вынікае з прэс-рэлізу «Man Booker Prize», адна з самых прэстыжных узнагарод у свеце англамоўнай літаратуры абвясціла аб тым, што супрацоўніцтва «Booker Prize Foundation» і кампаніі «Man Group», якая спансавала літаратурную ўзнагароду, завершана.**

«Man Group» была спонсарам прэміі «Man Booker Prize» з 2002 года, калі канадскі пісьменнік Ян Мартэл быў названы пераможцам (за раман «Жыццё Пі»). За 18 гадоў фундатарства «Man Group» перадала 25 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў на развіццё літаратурнай узнагароды і падтрымку англамоўнай і сусветнай літаратуры.

Цяпер вядуцца перамовы з новым спонсарам, і адміністратары прэміі выказваюць упэўненасць, што новае фінансаванне будзе забяспечана. Між тым, сёлета літаратурная ўзнагарода будзе працаваць у звычайным рэжыме.

Кампанія «Man Group» плануе канцэнтраваць рэсурсы на рэалізацыі ўласнай праграмы развіцця бізнэсу «Пракладваючы шлях», накіраванай на пашырэнне разнастайнасці ў галіне глабальных дабрачынных ініцыятыў фірмы і дабрачыннага фонда «Man».

«Кампанія «Man Group» была выдатным і вельмі шчодрым спонсарам амаль 18 гадоў. Дзякуючы яе падтрымцы мы бачылі, як квітнелі прызы і дабрачынная дзейнасць, і сёння тыя прызы могуць прэтэндаваць на званне самых значных літаратурных узнагародаў у свеце. Мы хацелі б афіцыйна падзякаваць за дабрачыннасць «Man Group». Аднак усё добрае мусіць закончыцца, і мы з нецярпеннем чакаем магчымасці атрымаць прызы на наступны этап ад нашага новага прыхільніка», — сказала старшыня «Booker Prize Foundation» Хелена Кэнэдзі.

## Прэмія Бажова

**У Екацерынбургу дваццаты раз адбылося ўрачыстае ўручэнне прэміі імя Паўла Бажова.**

Год для расійскай літаратурнай узнагароды стаў двойчы юбілейным: споўнілася 20 гадоў з дня яе заснавання і 140 гадоў з дня нараджэння патрыярха ўральскай літаратуры Паўла Бажова.

На конкурс было прадстаўлена 79 кніг прозы, паэзіі, публіцыстыкі і 17 асветніцкіх праектаў. І хоць прэмію называюць уральскай, яе аўтары жывуць ад Далёкага Усхода да Памор'я, а таксама ў ЗША, Германіі ды Ізраілі.

Лаўрэатам 2018 года ў катэгорыі «Майстар. Проза» стаў екацерынбургскі пісьменнік Аляксей Сальнікаў з раманам «Апасродкавана», у намінацыі «Майстар. Паэзія» перамог казанскі паэт Аляксей Астудзін з кнігай вершаў «Вішнёвы сайт», у намінацыі «Майстар. Публіцыстыка» лаўры пераможцы атрымаў маскоўскі журналіст, аглядальнік «Расійскай газеты» Дзмітрый Шэвароў за «Каляндар паэзіі». У намінацыі «Карысць справы» лаўрэацтва атрымаў чалябінскі праект «Анталогія сучаснай уральскай паэзіі».

«Гэта няпростая гісторыя. Газетным публікацыям папярэднічала вялікая праца для душы: я складаў анталогію рускай паэзіі, каля 12 гадоў збіраў вершы, і мне хацелася падзяліцца тым, што асвятляе вечнасцю нашае хуткаплыннае жыццё», — распавёў Дз. Шэвароў пра свой праект. Журналіст перакананы, што дзень стварэння верша паэтам з'яўляецца не менш важнай датай, чым дзень нараджэння самога паэта. Ён адзначыў, што пік актыўнай творчасці рускіх паэтаў не абавязкова прыпадае на восень, як у Пушкіна: «Яны паспяхова ствараюць і ў іншыя часы года, — гэта залежыць ад узросту, ад таго, калі нарадзіўся сам паэт...».

## Канстанцін Паўстоўскі і Нобелеўская прэмія

**З нядаўна апублікаваных архіўных дакументаў Шведскай акадэміі вынікае, што вядомы савецкі пісьменнік Канстанцін Паўстоўскі тры разы прэтэндаваў на Нобелеўскую прэмію па літаратуры.**

Архіўныя матэрыялы Шведскай акадэміі, якія тычацца прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію, захоўваюцца 50 гадоў — і толькі потым іх абнародваюць. Таму і стала вядома, што імя папулярнага літаратара прысутнічала ў спісе кандыдатаў у 1965 і 1967 гадах, а ў 1968 годзе К. Паўстоўскі прысутнічаў сярод шасці асноўных прэтэндэнтаў на прэстыжную літаратурную ўзнагароду.

ТАСС працытавала запіс тагачаснага старшыні камітэта Нобелеўскай прэміі Андэрса Эстэрлінга з каментарыямі пра «выпадзенне» яго імя са спісу кандыдатаў: «З-за смерці Канстанціна Паўстоўскага [14 ліпеня 1968 года] са спісу гэтага года сыходзіць адна з самых прывабных прапаноў. Гэта сумна, паколькі гэтая руская кандыдатура мела добрыя шанцы на бліжэйшую будучыню».

# Акадэмія амерыканскіх паэтаў

**Фонд Эндру Мелана вылучыў Акадэміі амерыканскіх паэтаў 2,2 мільёна долараў ЗША.**

«Гэта, безумоўна, самае вялікае ахвяраванне, якое Фонд Мелана калі-небудзь рабіў у гонар якога-небудзь віду мастацтва», — адзначыла прэзідэнт Фонда Мелана паэтка Элізабэт Александэр.

Грашовыя сродкі падзеляць на два гранты. Першы дапаможа пачаць новую праграму стыпендый для падтрымкі паэтаў-лаўрэатаў штатаў, гарадоў, тэрыторый Злучаных Штатаў ці племянных нацый па ўсёй краіне. Прыём заявак адкрыты з 15 студзеня. І ўжо ў красавіку Акадэмія амерыканскіх паэтаў вызначыць ад 10 да 20 стыпендый на суму ад 50 да 100 тысячаў долараў кожная.

Цяпер у Злучаных Штатах Амерыкі налічваецца 45 паэтаў-лаўрэатаў і больш за 40 паэтаў у гарадах, якія заклікаюць прасоўваць мастацтва на рэгіянальным і мясцовым узроўнях. Тым не менш, большасць з іх атрымліваюць сціплую кампенсацыю, калі такая наогул маецца. Стыпендыя Акадэміі амерыканскіх паэтаў дапаможа прафінансаваць творчыя праграмы паэтаў.

Другі грант пойдзе на Кааліцыю Паэзіі — нацыянальны альянс з больш чым 20-ці паэтычных арганізацый, некаторыя з якіх з'яўляюцца некамерцыйнымі. Фінансаванне падтрымае працу кааліцыі на працягу наступных чатырох гадоў і дапаможа стварыць пілотную праграму стыпендый, якая прапануе працу на няпоўны працоўны дзень у асобных арганізацыях-членах.

Акадэмія амерыканскіх паэтаў была заснавана ў 1934 годзе. Яна клапоціцца пра развіццё паэзіі, курыруе шэраг праграм і праектаў, такіх, як вэб-сайт Poets.org і Нацыянальны месяц паэзіі, заснаваны ў 1996 годзе.

# Якія кнігі чытаюць украінцы?

**Украінцы чытаюць сучаснікаў, усё часцей выкарыстоўваюць гаджэты і адмаўляюцца ад рускамоўнай літаратуры.**

Такія вынікі даследавання, праведзенага «Цэнтрам Разумкова» пры падтрымцы Украінскага культурнага фонду. Былі апытаныя 2013 рэспандэнтаў ва ўзросце ад 15 да 59 гадоў з усіх рэгіёнаў Украіны.

Згодна з вынікамі, найбольш папулярным украінскім пісьменнікам застаецца Ліна Кастэнка. Менавіта яе імя адразу назвалі 10% апытаных. Другое месца дасталося сучаснаму паэту Сергію Жадану, — пры згадванні украінскіх пісьменнікаў яго ўспамінаюць 7% рэспандэнтаў. Трэцяе месца падзялілі класік сучаснай літаратуры Юрый Андруховіч (4,7%) і пісьменніца Аксана Забужка (4,3%).

14% апытаных не змаглі ўспомніць ніводнага пісьменніка, яшчэ 13,8% не змаглі адказаць, а 9,9% — так і не адказалі...

«Разабраліся» і з любімымі жанрамі года: трэціна ўкраінцаў чытала дэтэктывы (34%), крыху менш — класіку (32%), чвэрць абрала фантастыку і падручнікі (па 24%) і крыху менш за чвэрць — кнігі па псіхалогіі і самаразвіццю (23%).

Амаль палове ўкраінцаў (45,3%), паводле згаданага сацыялагічнага апытання, не важна, на якой мове чытаць літаратуру. Пры тым 33,3% з іх нават гатовыя чытаць кнігі на мове арыгіналу, якім бы ён ні быў. У астатніх выпадках часцей выбіраюць рускую — 28,3%, на роднай жа мове зручней чытаць 24,2% рэспандэнтаў.

Па словах сацыёлагаў, выбар мовы кнігі часта залежыць ад таго, на якой чытач мае зносіны ў сям'і. Дык вось, 47% апытаных дома гавораць на ўкраінскай, а 31% — на рускай. Паказальна, што за чатыры гады выкарыстоўваць украінскую ў побыце сталі часцей, а выбіраць рускамоўныя кнігі сталі радзей.

Чытаюць украінцы традыцыйна дома — 58%. На другім месцы стала праца, а на трэцім — дарога (у дарозе чытаюць 13% украінцаў, асабліва гэта тычыцца жыхароў вялікіх гарадоў).

Большасць украінцаў усё яшчэ аддае перавагу друкаваным кнігам: іх некалькі разоў на тыдзень чытаюць 16%, электронныя ці аўдыякнігі — адпаведна 4% і 11%. Наогул жа за 2018 год 31,3% грамадзянаў Украіны карысталіся электроннымі, а 16,9% — аўдыёкнігамі.



Фота www.lifehacker.ru

# Муракамі — «ізгой японскага літсвету»?

**Самы папулярны ў свеце японскі пісьменнік, заўзяты аматар джазавай музыкі і бегу, перакладчык і пустэльнік-літаратар Харукі Муракамі будзе святкаваць свой 70-гадовы юбілей.**

Ва ўсім свеце літаратурная грамадскасць лічыць яго японскім пісьменнікам. У Японіі кнігі Х. Муракамі карыстаюцца не меншым попытам. Аднак там і да гэтага часу працягваюцца спрэчкі пра «сумнеўнага японскага літаратара, а сам ён пра сябе гаворыць так: «Я ізгой японскага літаратурнага свету».

12 гадоў таму Такійскі ўніверсітэт разам з Фондам японскай культуры правялі сімпозіум пад назвай «Паляванне на Харукі», на які сабраліся 25 перакладчыкаў з 17-ці краін. Кожнаму з іх на форуме задавалася адно і тое ж пытанне: «Што японскае вы ўбачылі ў пісьменніка, якога ў нас лічаць занадта празаходнім?»

У Японіі людзі сталага веку, прывучаныя расцэньваць унутраную свабоду ў адценнях сораму, лічаць яго занадта незалежным і «моршчацца» ад яго раманаў. А «сівыя самураі», якія аддалі жыццё служэнню дзяржаве, называюць яго «вестэрнізаваным».

Сам пісьменнік яшчэ ў 2004 годзе, жартуючы, казаў: «Я не разумею, што гэтым старым буркунам ад мяне трэба! Я пішу пра Японію і японцаў. На японскай мове. І перш за ўсё для японскіх чытачоў. Што яшчэ трэба, каб мяне лічылі японскім пісьменнікам?!».

У інтэрв'ю выданню «The Guardian» Харукі Муракамі распавёў: «Мы, японцы, якія нарадзіліся адразу пасля вайны, раслі на амерыканскай культуры. Я слухаў амерыканскія джаз і поп, глядзеў амерыканскія тэлешоў — гэта было акно ў іншы свет. Аднак я патроху намацаў свой уласны стыль. Не японскі і не амерыканскі — проста мой, і ўсё... Я вельмі люблю Габрыэля Гарсія Маркеса, але я не стаў бы называць яго рэалізм «містычным». Гэта проста яго ўласны рэалізм. Вось і мой стыль, хутчэй, падобны на мае ж акуляры: пры поглядзе менавіта праз гэтыя лінзы свет вакол набывае для мяне сэнс».

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы novostiliterature.ru, «Ex Libris», ТАСС, «Новой газеты» і «The New York Times».**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Маніфест Суркова: наступная — Беларусь?

Дзяніс ІВАШЫН

**Нядаўна апублікаваны матэрыял Уладзіслава Суркова «Долгое государство Путина» з'яўляецца па сутнасці маніфестам неаімперскай палітыкі Расіі, задэклараванай Мюнхенскай і канстатаванай Крымскай прамовамі кіраўніка Расіі. Разгледзім яго дэталёва і прааналізуем галоўныя пагрозы нацыянальнай бяспецы Беларусі і Украіны.**



Фота ТАСС

Пасля правалу праекту «Новаросія», які канчаткова разбіўся пяць гадоў таму аб сталёвую волю абаронцаў Дэбальцаўскага плацдарму, шмат каму падаецца, што роля «шэрага кардынала» Крамля істотна зменшылася. Насамрэч Суркоў працягвае заставацца адной з ключавых фігур вайскова-палітычнага кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі. Больш за пяць апошніх гадоў ён з'яўляецца памочнікам кіраўніка Расіі, а таксама дзейным дзяржаўным дарадцам РФ 1-га класа (у войску раўназначнае званню генералу арміі). Апроч гэтага Суркоў — галоўны прыдворны паліттэхнолаг, які актыўна працягвае ствараць для Крамля новыя ідэалагемы, ад «суверэннай дэмакратыі» да «глыбіннага народу».

Новы, па сутнасці, праграмны тэкст Суркова ствараўся ў кантэксце пасля непрыхаванай ваеннай агрэсіі Расіі супраць ваенна-марскіх сілаў Украіны ў Керчанскім заліве і ўльтыматуму ЗША пра дэнансацыю Дамовы аб ліквідацыі ракет сярэдняй і малой далёкасці, зробленага пасля адсутнасці рэакцыі з боку Расіі на факты разгортвання ёю праграмы стварэння наступальнага ракетнага ўзбраення (крылатыя ракеты 9М729). Архітэктар «русской весны» ў сваім тэксце ўжо не намагаецца хаваць сапраўднае аблічча Расіі. Галоўным ягоным пасылам знешняму свету з'яўляецца тое, што кепскія хлопцы вырашылі цалкам адмовіцца ад традыцыйнага палітэсу і гульні ў цывілізаванае грамадства. Больш за тое, яны патрабуюць, каб іх успрымалі цяпер не інакш як bad guys.

Пасля акупацыі Крыма Уладзіслаў Суркоў ёсць чарговым расійскім палітыкам з найвышэйшага эшалону ўлады, які паноўна адкрыта апраўдвае пашырэнне тэрыторыі сваёй дзяржавы. Да Суркова аналагічнае здзейсніў Рудольф Гес — вучань і асістэнт прафесара, заснавальніка нямецкай школы паліталогіі Карла Хаўсгофера. Менавіта Гес увёў у нямецкую ідэалогію нацызму міфалагему «жыццёвай прасторы», неабходнасць пашырэння якой Гітлер з 1924 па 1933 гады зрабіў адной з догмаў нацызму.

Гэта выразна адлюстравана ў яго «Другой кнізе» («Zweites Buch») — працягу аўтабіяграфічнай працы «Mein Kampf». Суркоў не толькі ідзе шляхам Геса, але і сам спрабуе надаць сэнс расійскай нацыянальнай ідэалогіі: ***«Россия рушиться прекратила, начала восстанавливаться и вернулась к своему естественному и единственно возможному состоянию великой, увеличивающейся и собирающей земли общности народов»***.

Тэкст аднаго з «шэрых кардыналаў» Крамля наскрозь прасякнуты ідэямі рэваншызму і рэвізіянізму гісторыі. І гэта не дзіўна, калі ўзяць пад увагу тое, што базісам імперскага светапогляду Суркова ёсць працы расійскага філосафа Івана Ільіна, якія ён асабіста раіць да абавязкова вывучэння. Будучы прыдворным паліттэхнолагам Крамля, ён шмат у чым паўплываў з дапамогаю ідэйнай спадчыны Ільіна і на фармуляванне Пуціным «традыцыйных каштоўнасцяў» расійскага неаімперскага курсу. Суркоў, як і Ільін, заяўляе пра асаблівы, адасоблены шлях развіцця рускага народа, наканаванасць выбару, адзіна магчымую дзяржаўніцкую ідэю выхавання ў рускім народзе ***«национального духовного характера»***.

Пад гэтым характарам Ільін разумее выключную здатнасць рускіх ***«беззаветно любить и беззаветно верить»***, пры чым аб'ектаў любові і веры толькі тры: ***«Бог, родина и национальный вождь»***. Тыя ж, хто не падзяляе гэтыя «каштоўнасці», паводле Ільіна, маюць ***«обуздываться и клеймиться»*** і выпраўляцца ў ***«последний ранг в обществе»***. Гэта будзённыя думкі прыхільніка фашысцкай ідэалогіі, ад якой Ільін не адмовіўся нават пасля заканчэння Другой сусветнай вайны.

**Візіянерства Суркова палягае не ў тым, каб акрэсліць ролю і функцыю «глыбіннага народу», а каб зацвердзіць формулу выжывання эліты ў бліжэйшай будучыні. Бо наўрад ці яе прадстаўнікі маюць ілюзіі што да трывалага панавання дзяржавы Пуціна**

Новыя ідэалагемы Суркова таксама пераклікаюцца шмат у чым і з тэзамі Ільіна пра абранасць і выключную місію Расіі: ***«Ни один народ в мире не имел такого бремени и такого задания, как русский народ. И ни один народ не вынес из таких испытаний и из таких мук — такой силы, такой самобытности, такой духовной глубины. Тяжек наш крест»***. Менавіта адсюль Суркоў чэрпае свае думкі пра глыбінны народ, які перадвызначае дзяржаўнасць, вышкталцоўвае яе формы, а таксама ёсць перадумовай учынкаў і нібыта фактарам адсутнасці выбару.

Як і Ільін, ён лічыць найважнейшымі і вырашальнымі для расійскай дзяржавы менавіта ваенна-паліцэйскія функцыі, неабходныя для абароны і барацьбы. Апроч гэтага, ён адкрыта заяўляе пра іх — што вельмі важна — у якасці сродку нападу. Пры гэтым ён шчыра ненавідзіць ліберальную дэмакратыю і наўпроставае народаўладдзе, практычна перафразоўвае Ільінскае разуменне асноваў таталітарнага рэжыму ***«спасение России — в воспитании и укреплении русского национального рыцарства»*** — у ***«брутальные конструкции силового каркаса»***.

Па сутнасці, Суркоў апявае стварэнне ў Расіі нацыянальнай дыктатуры, якая базуецца на груваcткім зрошчванні рэлігіі, арміі, а таксама ваенізаваных структур. Дыктатуры, якая павінна займацца перавыхаваннем народанасельніцтва дзеля выканання сакральнай місіі ў абароне не толькі тэрыторыі сваіх жыццёвых інтарэсаў, але і ўяўнай духоўнай прасторы. Гэта запраграмаваная скіраванасць на канфлікт з усім навакольным светам, бо, як мы ўжо ведаем, гэтыя тэрыторыя і прастора кардынальна не супадаюць з геаграфічнымі межамі сённяшняй Расійскай Федэрацыі.

Якая праблема тут для Беларусі і ўсіх постсавецкіх краінаў — суседзяў Расіі? На бліжэйшую перспектыву, як мінімум на сем-восем гадоў, можна цалкам забыцца на тое, што для нашай краіны будуць спакойныя часы. Доля Беларусі тут ужо перадвызначаная чвэрцю стагоддзя папярэдняй дзейнасці рэжыму Лукашэнкі, які ўвагнаў краіну ва ўсе магчымыя вайсковыя і палітычныя хаўрусы з Расіяй. Найбольш важнымі з'яўляюцца Адзіная рэгіянальная групоўка войск (у якую Узброеныя Сілы Беларусі ўваходзяць цалкам разам з 20-й агульнавайсковай арміяй РФ), Адзіная рэгіянальная сістэма супрацьпаветранай абароны, АДКБ і, вядома ж, так званае ***Союзное государство***.

У святле апошніх выказванняў расійскіх высокіх чыноўнікаў — некаторыя з іх прагучалі нават на беларускай зямлі — цалкам зразумела, што найбольшая пагроза сыходзіць менавіта ад геапалітычнага праекту ***Союзного государства***. Стварэнне непрыхаванай рэзідэнтуры расійскіх сілавых ведамстваў на базе амбасады РФ у Мінску, значнае павелічэнне актыўнасці прарасійскай «пятай калоны» ў Беларусі, намаганні вядомых расійскіх чарнасоценцаў інстытуцыялізаваць раз'яднаныя прарасійскія рухі ў Беларусі ў палітычную сілу — гэтаму яскравае пацвярджэнне.

Згодна з пададзенымі вышэй словамі Суркова, цалкам зразумелыя функцыі і задачы, якія будзе выконваць ***Союзное государство*** — «увеличивающейся и собирающей земли общности народов». Для Беларусі тут адведзеная роля толькі ў якасці адной з частак трымальнай канструкцыі новага-старога неаімперскага ўтварэння. Тая роля, якую калісьці выконвала БССР.

Аднак у тым выглядзе, у якім так званы саюз Расіі і Беларусі існуе апошнія два дзесяцігоддзі, для рэалізацыі імперскай місіі ён непрыдатны. Менавіта гэтым можна патлумачыць актывізацыю апошнім часам усіх працэсаў што да паўнавартаснага разгортвання і прававой імплементацыі саюзнага праекту. А часу для гэтага застаецца зусім няшмат.

Максімальная баяздольнасць Узброеных Сілаў РФ, яе трох настворaных армій разам з новымі дывізіямі, дасягне свайго піку (паводле розных ацэнак) у 2020–2021 гадах. Менавіта гэтым акенцам магчымасцяў і можа паспрабаваць скарыстацца Масква, каб канчаткова развязаць украінскае пытанне. Менавіта для гэтага і патрэбнае ***Союзное государство***, у фармат якога расійскія вайсковыя стратэгі, меркавана, плануюць інкарпараваць новыя акупаваныя ўкраінскія тэрыторыя з верагодным цэнтрам у Харкаве.

Пра гэта ў Маскве падчас сваёй нядаўняй прэс-канферэнцыі ўскосна заявіў пазбаўлены сваіх прэзідэнцкіх паўнамоцтваў уцякач Віктар Януковіч. Ён недвухсэнсоўна зазначыў, што час украінцам, якія хаваюцца ў Расіі, вяртацца і аднаўляць Данбас. Пра гэта можа сведчыць і пераход адміністрацыі некаторых акупаваных гарадоў на Данбасе пад кантроль людзей з атачэння Януковіча, з так званай «енакіеўскай групоўкі».

Нягледзячы на тое, што ў Расіі істотна і ўвесь час зніжаецца якасць чалавечага матэрыялу, адбываецца татальная дэвальвацыя агульначалавечых каштоўнасцяў, кіроўная палітычная эліта свядома абрала курс на канфрантацыю з усім навакольным светам. Візіянерства Суркова тут палягае не ў тым, каб акрэсліць ролю і функцыю «глыбіннага народу», а каб зацвердзіць формулу выжывання гэтай эліты ў самай бліжэйшай будучыні. Бо наўрад ці яе прадстаўнікі маюць хоць нейкія ілюзіі што да трывалага панавання дзяржавы Пуціна, якое цалкам магчыма раптоўна можа скончыцца, як і гісторыя «тысячагадовага Трэцяга Рэйху».

У гэтых умовах усім патрыятычным сілам Беларусі і Украіны варта кансалідавацца, нягледзячы на ўзаемныя прэтэнзіі, рыхтавацца да працяглай і зацятай абароны. Вектар развіцця сённяшняй Расіі не пакідае нам аніякіх шанцаў на мірнае з ёй суіснаванне.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЛУМБІЯ. Бегемоты і наркабароны

Неверагодную спадчыну пакінуў пасля сябе вядомы калумбійскі наркабарон Пабла Эскабар (1949–1993). Як вядома, на пэўным этапе клан Эскабара шалёна разбагацеў за кошт вытворчасці і кантрабанды какаіну ў ЗША. Лідар картэлю дазваляў сабе проста фантастычныя капрызы. Сярод іншага Эскабар стварыў асабісты заапарк, дзе ўтрымліваліся жырафы, сланы і іншыя экзатычныя жывёлы. Уся гэта лавачка закрылася ў сярэдзіне 1980-х гадоў, калі адміністрацыя Рэйгана абвясціла вайну наркамафіі па ўсім свеце і запатрабавала ад Багаты арыштаваць і выдаць мясцовых наркабаронаў. Эскабар вымушаны быў сысці ў падполле, а яго заапарк нацыяналізавалі. Зараз высвятляецца, што падчас вывазу жывёл з таго заапарка нейкім чынам збегла пара бегемотаў. У выніку яна стала родапачынальнікам цэлай папуляцыі. Калумбійскія натуралісты налічылі ўжо больш за 50 бегемотаў, якія ўпісаліся ў мясцовую фаўну. Калі ім верыць, пражыванне ў калумбійскай прыродзе пазітыўна паўплывала на характар жывёлаў. У адрозненне ад афрыканскіх братоў, мясцовыя бегемоты больш мірныя.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Беражыся «ляшкобуса»

Адным з ноў-хаў цяперашняй украінскай прэзідэнцкай кампаніі стаў «ляшкобус». Гаворка пра аўтобус, на якім Алег Ляшко (кандыдат ад Радыкальнай партыі) ездзіць па краіне ў рамках свайго агітацыйнага туру. Такі прыём з аўтобусамі кандыдаты даўно выкарыстоўваюць на Захадзе. Лічыцца, што аматарам Brexit перамагчы на рэферэндуме 2016-га шмат у чым дапамог спецыяльны аўтобус, які праехаў усю краіну. І вось цяпер Ляшко вырашыў выкарыстаць замежныя напрацоўкі. Па краіне рушыць аўтобус з надпісам «Ляшко — народны прэзідэнт». Прычым галоўны радыкал, якога называюць украінскім Жырыноўскім, паабяцаў падбіраць на трасе ўсіх, хто едзе аўтаспынам. Гледзячы на першую рэакцыю, украінцы пакуль не зразумелі такога піяр-прыёму. Прынамсі ў сеціве пытаюцца: адкуль у Ляшко грошы на такі шыкоўны аўтобус? «Ляшкобус» таксама даў падставу ўзгадаць яго папярэдні скандальны выхад у народ. Раней палітык выбраўся на нейкі мясцовы рынак, каб прыкупіць сабе споднее. Відэадоказ набыцця майткоў за 40 грыўняў (каля двух долараў) палітык, вядома ж, выклаў у сябе на старонцы ў Facebook. Аднак тут жа заўважылі, што Ляшко стаіць ля прылаўка ў брэндавай футболцы за 6250 грыўняў (больш за 200 долараў).

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ТАТАРСТАН. Татараў зменшаць напалову?

Татарскія актывісты супраць некаторых аспектаў перапісу насельніцтва, які адбудзецца ў Расіі ў 2020 годзе. На іх думку, у Маскве вырашылі штучна скараціць колькасць татараў — другога па колькасці этнасу ў Расійскай Федэрацыі. Справа ў тым, што ў апытальным лісце арганізатары перапісу збіраюцца падзяліць татараў на асобныя групы. Рэспандэнт, які лічыць сябе татарынам, можа запісацца крымскім татарынам, сібірскім, крыма-татарскім і гэтак далей. Ёсць прапанова прадугледзець асобную ад татараў і башкіраў групу з татара-башкірскай ідэнтычнасцю. Асабліва Казань непакоіць тое, што асобным этнасам могуць быць прызнаныя так званыя «крашэны» (этнаканфесіянальная група ў складзе татараў волжскага і ўральскага рэгіёнаў, якія вызнаюць праваслаўе). Калі крашэны будуць прызнаныя асобным народам, ёсць рызыка, што татараў у Татарстане будзе менш за 50%. Як вынік, гэта дазволіць Маскве паскорыць працэс русіфікацыі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРГ. Бундэстагу — жаночую квоту!



У гэтым годзе Германія адзначае гістарычную дату. Роўна сто гадоў таму, у 1919 годзе ў парламент краіны ўпершыню была абраная жанчына. Шэраг левых партый прапануюць адзначыць гэты юбілей незвычайным спосабам — увесці ў Бундэстагу жаночую квоту, якая будзе складаць 50 працэнтаў. Сёння ў нямецкім парламенце 31 працэнт жанчын-дэпутатаў, што, на думку прыхільнікаў рэформы, з'яўляецца ганьбай. Правыя партыі больш асцярожна ставяцца да ідэі, аднак 15 лютага даслалі сваіх прадстаўнікоў на першую сустрэчу, падчас якой абмяркоўвалі магчымы закон аб жаночай квоце. Хутчэй за ўсё, лёс закона вызначыць эксперымент у зямлі Брандэнбург. Мясцовы зямельны парламент напрыканцы студзеня прыняў закон пра тое, што ў кожнай фракцыі, пачынаючы з парламента наступнага склікання, павінен быць гендарны парытэт. Але на шляху да прыняцця закона існуе незвычайная перашкода. Цяпер у ФРГ гучаць галасы прызнаць трансгендараў асобным, трэцім полам. Атрымліваецца, што трансгендары могуць запатрабаваць сабе таксама парламенцкую квоту.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Ці чакаць малдоўскага Майдану?

Алег НОВІКАЎ

**Адзін з рэкардсменаў у СНД па колькасці Майданаў — Малдова, дзе тройчы курс краіны разгортваўся пад ціскам вуліцы. Магчыма, па выніках парламенцкіх выбараў 24 лютага малдаване зноў пойдуць на плошчу. Пра гэта і пра іншыя абставіны цяперашняй выбарчай кампаніі распавядае малдоўскі актывіст Сяргей Грыгарчук.**




Фота www.izvestia.kiev.ua

***— Паводле якога прынцыпу будзе абірацца малдоўскі парламент, і хто зараз лічыцца фаварытам выбараў?***

— Упершыню ў гісторыі краіны выбары пройдуць па змяшанай сістэме, калі 50 дэпутатаў абяруць па партыйных спісах, а 51 — па аднамандатных акругах. У выбарах удзельнічаюць 15 партый, сярод якіх фаварытам з'яўляецца прарасійская Партыя сацыялістаў рэспублікі Малдова (ПСРМ). Апытанні паказваюць, што ПСРМ падтрымлівае трэціна рэспандэнтаў. За ёй ідзе кіруючая Дэмпартыя алігарха Уладзіміра Плахатнюка з прыкладна з 15–18 працэнтамі. Замыкае тройку лідараў праеўрапейскі блок Acum, за які гатовыя галасаваць 12–15 працэнтаў. Аднак варта памятаць, што амаль 35 працэнтаў яшчэ не ведае, за каго будзе галасаваць.

***— У прэсе модна казаць пра тое, што цяперашнія выбары маюць характар рэферэндуму наконт пытання геапалітычнага выбару. У выпадку перамогі сацыялістаў Малдова, нібыта, можа адмовіцца ад праеўрапейскага курсу на карысць інтэграцыі з Расіяй.***

— Такі сцэнар можна дапусціць толькі ў выпадку, калі партыя ПСРМ Ігара Дадона атрымае парламенцкую большасць. Але значна верагодней, што партыі давядзецца ствараць кааліцыю з ворагам дэпутатаў, абраных па аднамандатных акругах або з іншымі структурамі. Гэта паслабіць еўразійскі вектар урада сацыялістаў. Не кажучы пра тое, што Дадон — прагматык, і разумее: рэзкая артыкуляцыя антыеўрапейскай рыторыкі справакуе занепакоенасць у бізнес-асяроддзі.

У любым выпадку, намаганні Дадона і яго партыі, перш за ўсё, будуць сканцэнтраваныя на вырашэнні праблемы, калі парламент і прэзідэнт не могуць падзяліць паўнамоцтвы. Часам іх узаемаадносіны нагадваюць камедыю: калі прэзідэнт адмаўляецца зацвярджаць нейкае рашэнне парламента і ўрада, дэпутаты адхіляюць гаранта ад пасады на пэўны час.

***— Ці могуць па выніках выбараў прыйсці да ўлады еўраінтэгратары?***

— Такі варыянт выключаць нельга. Але спачатку трэба, каб Еўропа і ЗША націснулі на еўраінтэгратараў, прымусілі іх увайсці ў адну шырокую ўрадавую кааліцыю. Гэта няпроста, паколькі лідары асноўных партый гэтага лагера не хаваюць узаемнай антыпатыі. Акрамя таго, сюды павінны быць уключаны і дэмакраты Плахатнюка — вельмі таксічнай фігуры. Летась Еўрасаюз прыпыніў вылучэнне макрафінансавай дапамогі краіне — у тым ліку з-за махінацый Плахатнюка на выбарах сталічнага мэра, лабіяванне супярэчлівага закона аб амністыі капіталу.

***— Сакратар Савета бяспекі Расіі Мікалай Патрушаў перасцярог ад «Майдану» пасля верагоднай перамогі сацыялістаў. У якасці контрзахадаў ён нават дапусціў правядзенне Расіяй у Малдове «крымскага сцэнару». Ці рэальныя пратэсты пасля 24 лютага?***

— Зразумела, перамога падобнага Майдану будзе ўдарам па прэстыжы Расіі ў рэгіёне. Бо ёсць рэальны шанец адкарэктаваць геапалітычны курс краіны, якая ці не першай у СНД стала на шлях еўраінтэграцыі. Але ёсць пытанне: ці будзе той Майдан? Так, кадры для пратэстаў ёсць — навучэнцы ўніверсітэтаў і ліцэяў, дзе папулярныя ідэі ўніі (уваходу Малдовы ў склад Румыніі. — НЧ). Аднак у грамадстве назіраецца стомленасць ад палітыкаў, якія прыйшлі да ўлады на хвалі папярэдняга Майдану 2009 года. Таму радыкальныя вулічныя акцыі будуць слаба падтрыманыя ў грамадстве.

***— На гэтых выбарах практычна нічога не чуваць пра прыхільнікаў уніі з Румыніяй…***

— Сапраўды, Ліберальная партыя Дарына Кіртаакэ — вядучая прарумынская сіла — балансуе на мяжы праходу ў парламент. Нічога дзіўнага тут няма: з імем Кіртаакэ і іншых лідараў лібералаў звязваюць серыю карупцыйных скандалаў. Але гэта не азначае, што тэма інтэграцыі з Румыніяй знікла з парадку дня. Папросту яе фанаты масава перавандравалі пад сцягі той жа партыі Маі Санду (адна з лідараў блоку Acum).

***— Амерыканскі амбасадар у Кішынёве абвінаваціў расійскія спецслужбы ў спробе паўплываць на вынік выбараў. Ці магчымы варыянт, калі ЦВК і адпаведныя судовыя структуры не прызнаюць перамогі сацыялістаў?***

— Праблема ў тым, што судовая сістэма Малдовы не з'яўляецца незалежным органам. Агульнавядома, што нашы суддзі — на заробку ў Плахатнюка. Таму адмена вынікаў выбараў будзе, хутчэй, разглядацца як палітычная замова.

***— Ці мелі месца падчас кампаніі якія-небудзь скандалы, кур'ёзы, ці выкарыстоўваўся чорны піяр?***

— Галоўны кур'ёз у тым, што някепскія шанцы на праход у парламент мае партыя Ілана Шора (бізнесовец і муж расійскай спявачкі Жасмін), які абяцае ператварыць Кішынёў у Парыж. Хто стаіць за гэтым праектам, дасюль не зразумела. Што тычыцца «чорнага піяру», то днямі ў сацсетках апублікавалі фотаздымкі, на якіх дзве жанчыны шпацыруюць па вуліцы еўрапейскага горада, трымаючыся за рукі, абдымаюцца, цалуюцца… Некаторыя прызналі ў адной з іх Маю Санду. Паколькі палітык ніколі не была замужам, некаторыя як мінімум з цікавасцю паставіліся да кампрамату. Сама Санду заявіла, што фатаграфіі і відэазапісы — сфабрыкаваныя. Паглядзім, ці адаб'ецца гэта на выніках галасавання.

***— Які твой асабісты прагноз на 24 лютага?***

— Пакуль з упэўненасцю можна сказаць толькі адно: хто б ні прыйшоў да ўлады, яму давядзецца шукаць новы баланс паміж галінамі ўлады. Парадаксальна, але сітуацыя двоеўладдзя не задавальняе ані прарасійскія партыі, ані прыхільнікаў еўраінтэграцыі.


Фота www.azindia.com

# Еўрапарламент будзе гібрыдным

Алег НОВІКАЎ

**З'явіліся першыя контуры таго, як будзе выглядаць Еўрапарламент наступнага склікання. Галоўнае — упершыню ў гісторыі блок лева- і правацэнтрысцкіх партый страціць большасць, аднак рэвалюцыі еўрафобаў чакаць не варта.**

Нядаўна Джордж Сорас апублікаваў рэзанансны артыкул, у якім параўнаў цяперашні стан Еўрасаюза з Савецкім Саюзам напярэдадні яго калапсу. З такім тэзісам пагадзіцца ў чымсьці можна. З іншага боку, назіраецца цікавая рэч — напэўна, яшчэ ніколі ў гісторыі выбары ў Еўрапарламент, якія прызначаны на 26 мая, не выклікалі такі ажыятаж.

Звычайна да заканадаўчага органу ЕС, які на самай справе мае хутчэй кансультацыйныя функцыі, ставіліся несур'ёзна. Палітыкі першага дывізіёну выбары ў Еўрапарламент, як правіла, ігнаравалі. Выбаршчыкі часам таксама ставіліся да іх несур'ёзна, галасуючы за маргінальныя праекты, накшталт Партыі піратаў або Партыі паляўнічых і рыбакоў. Праўда, да выбарчых участкаў трэба было яшчэ дайсці. Звычайна яўка на выбарах не зашкальвае. У суседняй Польшчы, напрыклад, на апошніх выбарах у Еўрапарламент да ўчасткаў дайшлі толькі 22 працэнты выбаршчыкаў.

У гэтым годзе ўсё кардынальна змянілася. Апатыя вялікай часткі еўрапейцаў на адрас Еўрасаюза выклікала ілюзію яго хуткага сконy. Прычым, зрабіць кантрольны стрэл збіраліся самі еўрафобы. Мусіравалася думка, што ў будучым Еўрапарламенце яны атрымаюць салідную фракцыю, якая заблакуе працу інстытута. «Выбары ў Еўрапарламент стануць рэферэндумам паміж Еўропай элітаў, банкамі, фінансамі, іміграцыі, і Еўропай простых людзей», — казаў лідар італьянскіх папулістаў Матэа Сальвіні. Ідэю развіў прэм'ер Венгрыі Віктар Орбан, які заявіў: «Галасаванне 26 мая будзе шанцам сказаць: "Да пабачэння, ліберальная дэмакратыя».

І, нарэшце, у панядзелак, 18 лютага, адразу дзве сацыялагічныя службы — Poll of Polls і Kantar, — азнаёмілі публіку з вынікамі апытанняў наконт выбараў. Думаецца, што яны вельмі расчаравалі аматараў міфу пра агонію ЕС. Еўраскептыкі сапраўды ўзмоцняць свае пазіцыі ў новым Еўрапарламенце, аднак гэта лічба будзе не крытычнай. Фракцыя «Еўропа нацый і свабоды» (ENF), куды ўваходзяць партыя Ле Пэн і Матэа Сальвіні, можа вырасці амаль да 60 чалавек (зараз іх 37). Хаця ENF — гэта не адзіная папулісцкая групоўка. У гэты лагер можна дадаць «Еўрапейскіх кансерватараў і рэфармістаў» (ECR) або фракцыю «Еўропа свабоды і наўпроставай дэмакратыі» (EFDD). Сукупна еўраскептыкі могуць атрымаць 135 мандатаў.

Аднак адэптам еўраінтэграцыі таксама рана адкаркоўваць шампанскае. Тандэм эсдэкаў і кансерватараў, які заўжды руліў у Еўрапарламенце, апынецца ў меншасці. Кансерватыўная Еўрапейская народная партыя (EPP) можа страціць каля 30 мандатаў, а Прагрэсіўны альянс сацыялістаў і дэмакратаў — каля 50. У выніку першыя будуць мець 183, а другія 135 дэпутатаў. Колькасна гэтага не хапае, каб дыктаваць сваю волю парламенту, які пасля Brexit будзе складаецца з 705 чалавек.

Такім чынам у Еўрапарламенце будзе патавая сітуацыя, якую, праўда, тэхнічна лёгка вырашыць. Кансерватары і сацыялісты могуць раскрыць абдымкі лібералам або эколагам, якім уласцівыя праеўрапейскія настроі. Гэта азначае, што ўвосень Жан-Клод Юнкер, які збіраецца застацца на пасадзе кіраўніка Еўракамісіі, хутчэй за ўсё, лёгка атрымае патрэбную згоду ад еўрапарламентарыяў.

Аднак палітолагі заклікаюць не супакойвацца. Па-першае, не выключана, што ў новай асамблеі паўстануць новыя альянсы або пераходы дэпутатаў у іншыя партыі. Такія вандроўкі могуць паўплываць на профіль аб'яднанняў. Напрыклад, польская партыя «Права і справядлівасць» (PiS), урад якой рэгулярна сварыцца з Брусэлем, марыць далучыцца да EPP.

Французская «Le Monde» звяртае ўвагу на працэдурныя моманты. На думку выдання, еўраскептыкі могуць пры жаданні тармазіць працэс падрыхтоўкі дырэктываў і рэзалюцый, паколькі фармулёўкі ў тэксце дакументаў звычайна ўзгадняюцца паміж усімі фракцыямі. «Інстытуцыйная перамога еўраскептыкаў немагчымая, аднак пасля 26 мая яны дакладна ўзмоцняць свой ціск на партыі мейнстрыму», — піша «Le Monde».

Аўтарытэту і, адпаведна, палітычнай вагі еўраскептыкам можа дадаць абсалютная перамога ў такой ключавой для лёсу ЕС краіне, як Францыя. Праз тое, што непапулярны Эмануэль Макрон выступае за інтэнсіфікацыю працэсаў еўраінтэграцыі, большасць французаў збіраецца галасаваць за кандыдатаў-еўрафобаў. Прынамсі на цяперашні момант, калі верыць сацыёлагам, лідзіруе «Нацыянальнае аб'яднанне» Марын Ле Пэн.

Нарэшце, нельга таксама забывацца, што ў Рыме пры ўладзе знаходзіцца кааліцыя папулістаў, лідары якой маюць асабісты зуб на Макрона. Вендэта італьянцаў і французаў можа абярнуцца праблемамі наконт вызначэння кандыдатуры на пасаду кіраўніка Еўракамісіі.

Лёгкага жыцця ў аматараў еўраінтэграцыі пасля 26 мая не будзе. З іншага боку, усё ж будзе пераборам параўноўваць цяперашні ЕС з СССР 1991 года.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Іван Сінчыч



Лідар харвацкай партыі «Živi zid», («Жывая сцяна»), якому ўсяго 29 гадоў, стаў сімвалам новай хвалі еўрапейскага папулізму.

Паводле апытанняў, «Živi zid» стаў больш папулярным за мясцовую сацыял-дэмакратычную партыю — адну з дзвюх вядучых партструктураў краіны. У выпадку выбараў партыя Сінчыча можа набраць каля 15 працэнтаў і саступіць толькі кансерватарам (19 працэнтаў). Прычым прэса піша, што папулісты хутка ўвогуле могуць стаць самай папулярнай партыяй краіны.

Забабоны харвацкага выбаршчыка выглядаюць вельмі экстравагантна, калі пазнаёміцца з праграмай «Жывой сцяны». Сярод іншага там прысутнічаюць абяцанні выдаваць банкаўскія крэдыты без працэнтаў, легалізаваць марыхуану, вывесці краіну з NATO, прызнаць Палесціну, адмяніць абавязковую вакцынацыю дзяцей і радыкальна рэфармаваць Еўрасаюз.

Назіральнікі, якія каментуюць вынікі апытанняў, звяртаюць увагу на тое, што Харватыя — самы малады сябра Еўрасаюза (яна ўвайшла ў ЕС у ліпені 2013 года). Атрымліваецца, хапіла ўсяго шасці гадоў, каб сярод харватаў пачалося масавае расчараванне Еўропай.

Іншыя кажуць, што фурор «Жывой сцяны» можна патлумачыць поспехам «Руху пяці зорак» у суседняй Італіі. Рух, які ідэалагічна блізкі да партыі Сінчыча, летась стаў урадавай партыяй. Але практычна ўсе прызнаюць эфектыўнасць прапаганды «Živi zid», якая робіць стаўку выключна на працу ў сацыяльных сетках.

### Саламэ Зурабішвілі



Прэзідэнтка Грузіі, па законе, хутчэй выконвае цырыманіяльныя функцыі. Аднак цяпер ад яе залежыць, не больш і не менш, лёс мясцовай праваслаўнай царквы — самага ўплывовага інстытуту ў краіне.

Некалькі няўрадавых праваабарончых арганізацый звярнуліся да Зурабішвілі з просьбай пра памілаванне зняволенага протаіярэя Георгія Мамаладзэ. Мамаладзэ быў затрыманы ў Тбіліскім аэрапорце ў лютым 2017 года перад вылетам у Германію, дзе ён збіраўся наведаць Каталікоса — патрыярха Іллю II (тады той праходзіў курс лячэння ў адной з нямецкіх клінік). У багажы Мамаладзэ быў знойдзены цыянід. Прадстаўнікі ўраду і ГПЦ абвясцілі, што цыянід прызначаўся для атручвання патрыярха або яго сакратара. Суд над Мамаладзэ, які праходзіў у закрытым рэжыме, даў яму дзевяць гадоў турмы. Тут жа за святара заступіліся праваабаронцы, якія выявілі ў справе шэраг недакладнасцяў. Напрыклад, багаж Мамаладзэ быў выняты і распакаваны без яго ведама. Гэта значыць, цыянід маглі проста падкінуць зацікаўленыя асобы.

Паступова ў грамадстве склалася версія, што Мамаладзэ стаў ахвярай змовы кансерватыўнай фракцыі патрыярхіі, і яго трэба памілаваць. Такое права, паводле Канстытуцыі, мае прэзідэнт, аднак сварыцца з ГПЦ палітыкі баяцца. Папярэдні прэзідэнт не адважыўся падпісаць амністыю. Цяпер чарга Зурабішвілі.

### Годфры Ківанда



Міністр турызму Уганды выклікаў глабальную палеміку незвычайнай ініцыятывай. Ён прапанаваў правесці конкурс «Міс пышная прыгажуня», і ўключыць яго ў спіс турыстычных атракцыёнаў.

Фінал конкурсу быў запланаваў на чэрвень. Конкурс павінен быў служыць цалкам прагрэсіўным мэтам. Як заявіў Ківанда, угандыйскім жанчынам не трэба саромецца сваіх пышных формаў. Наадварот, яны заслугоўваюць захаплення. «Бог стварыў вас такім чынам. Скажыце яму дзякуй за тое, якія вы», — прамовіў ён.

Аднак ідэя конкурсу літаральна ўзарвала грамадства. На думку некаторых, міністр турызму хоча ператварыць Уганду ў «заапарк жанчын», і нават стымуляваць сектар прастытуцыі. Урад паспрабаваў абяліць міністра, узгадаўшы, што славуты бразільскі карнавал сваёй папулярнасцю абавязаны ў тым ліку і публічным жаночым танцам. Шэраг еўрапейскіх феміністкіх арганізацый выступілі ў падтрымку прыкладна 150 канкурсантак, якіх крытыкі конкурсу, нібыта, дыскрымінуюць за вялікую вагу.

Пытанне пра конкурс «Пышных прыгажунь» вынеслі на сесію парламента, дзе кансенсусу не знайшлі. Зараз яно знаходзіцца на вывучэнні прэзідэнта, які павінен вынесці канчатковы вердыкт.

# Браты Адамовічы. Ад усенароднага прызнання да турмы і забыцця



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У іншых краінах пра такіх землякоў узгадвалі б часта і гучна, але, на жаль, не ў нашай. Між тым гісторыя двух братоў-авіятараў, якія нарадзіліся на беларускай зямлі і ў 1934 годзе ажыццявілі пералёт з ЗША ў Еўропу, вартая таго, каб сучасныя беларусы яе ведалі.**

## З заможнай сям'і

Баляслаў (1898) і Язэп (1893) Адамовічы нарадзіліся ў вёсцы Янкоўшчына на Вілейшчыне.

«Мы з братам заўсёды цікавіліся ўсім, што тычылася іншых пілотаў. Усе яны мелі цікавае жыццё і шмат прыгодаў, а тым часам мы заўсёды былі звычайнымі людзьмі. Майго бацьку звалі Юліян Адамовіч. У яго была гаспадарка ў Янкоўшчыне ля Крайска, на Вілейшчыне. Наш фальварак знаходзіўся ў 40 кіламетрах на ўсход ад Вілейкі і ў 70 кіламетрах на поўнач ад Мінска. Маю маму, якую я добра памятаю, і якая, на жаль, даўно памерла, звалі Ганна. У першыя гады майго дзяцінства быў яшчэ жывы дзед Лука Адамовіч, які мяне любіў і часта са мной гуляў. Было нас тры сыны: Браніслаў, старэйшы, Язэп і я. Янкоўшчына складалася з 40 дзесяцін зямлі. Нашы лясы называліся Пасекі і Беразняк. Дзесьці пасярэдзіне гэтай тэрыторыі стаяў дом. На нашай гаспадарцы працавалі два парабкі і дзве дзяўчыны, а таксама два пастухі. Было ў нас чатыры коні, 25 штук кароў, 15 свіней і 30 авечак. Як было жніво, дык трэба было наймаць людзей з вёскі. Дома размаўлялі па-польску, а з людзьмі па-беларуску. Кожны з нас выдатна ведаў гэтую мову. Я хадзіў у пачатковую школу ў мястэчку Крайск, а парафіяльны касцёл знаходзіўся ў Альковічах. У нядзелю ўсе хадзілі туды на службу. А на ярмаркі і базары ездзілі ў Крайск і Даўгінава», — успамінаў Баляслаў Адамовіч.

Пакуль малодшы з братоў вучыўся ў Крайску, сярэдні працаваў на пошце, а таксама вучыўся на тэлеграфіста ў Мінску. Старэйшы служыў афіцэрам Рускага імператарскага войска. Калі пачалася вайна з Японіяй, Браніслаў адмовіўся ехаць туды і накіраваў імператару просьбу звольніць яго з войска. А калі гэта адбылося, хлопец выехаў у ЗША і пасяліўся ў Брукліне.

У 1907 годзе за старэйшым братам за акіян паехаў і Язэп. Ураджэнцы Беларусі паспяхова працавалі на цукровай фабрыцы «Arbockler Brothers» і дасылалі дадому грошы. За некалькі гадоў ім удалося перадаць у Беларусь каля тысячы долараў. У 1911 годзе ў Злучаныя Штаты паехаў і Баляслаў, а вось Браніслаў, наадварот, вярнуўся на Вілейшчыну. Іх малодшая сястра Марыя Радзімы не пакідала.

## Бізнес за акіянам

У 1918 годзе Бэн (Баляслаў) і Джо (Язэп) Адамовічы заснавалі ў Нью-Ёрку прадпрыемства газаваных напояў і содавай вады. Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны маёнтак Адамовічаў на Вілейшчыне застаўся на савецкім баку, што прымусіла Браніслава Адамовіча разам з сям'ёй вярнуцца ў ЗША. На тэрыторыі БССР засталася сястра Марыя. Хутка бальшавіцкія ўлады «раскулачылі» заможны маёнтак Адамовічаў. У сваю чаргу, за акіянам браты з Вілейшчыны «разгарнуліся». Новы бізнес даў ураджэнцам Беларусі добрыя грошы. Праўда, трэба сказаць, што пазней менавіта гэтая фірма прывядзе іх... на лаву падсудных.

Праз дзесяць гадоў хлопцы з Беларусі вырашылі прафесійна займацца пілатажам самалётаў. За некалькі тысяч долараў яны набылі біплан «Waco» і пачалі вучыцца пілатажу. Варта адзначыць, што ў той час шмат хто марыў здзейсніць подзвігі ў небе і стаць сапраўдным пілотам. У СССР лётчыкі станавіліся нацыянальнымі героямі. У Заходняй Еўропе гэтыя людзі маглі атрымаць не толькі славу, але і зарабіць грошы. Урэшце, ураджэнцы Вілейшчыны вырашылі пераляцець Атлантычны акіян. За вялікія грошы Адамовічы набылі больш магутны і хуткі самалёт «Bellanca J300» і пачалі рыхтавацца да пералёту праз Атлантыку. Паралельна яны ўдзельнічалі ў шматлікіх авіяконкурсах на тэрыторыі ЗША і часта перамагалі.

У «машыне» Адамовічаў не было радыёстанцыі і аўтапілота — на гэта не хапіла грошай. Разлічваць даводзілася толькі на гіракомпас. 28 чэрвеня 1934 года ўраджэнцы Беларусі ўзляцелі з аэрадрому паблізу Нью-Ёрка і накіраваліся на Ньюфаўндлэнд. На наступны дзень яны паляцелі ў Еўропу.

## Цяжкае падарожжа і выдатныя сустрэчы

Вышыня 3000 метраў, метэаралагічныя ўмовы добрыя — здавалася, усё павінна атрымацца без праблем, аднак пазней самалёт абледзянеў, і Адамовічы вымушаныя былі знізіцца да 1200 метраў. Дождж і снег не перашкодзілі ўраджэнцам Беларусі выканаць задуманае — 30 чэрвеня пілоты прызямліліся ў Нармандыі. Французы радасна сустрэлі «амерыканцаў». У Парыжы Адамовічаў чакаў прыём на высокім узроўні. Далей яны вылецелі ў Польшчу, але вымушаныя былі прызямліцца ў Германіі. Пазней быў «прыпынак» у Торуні і, нарэшце, борт Адамовічаў даляцеў да Варшавы. Другая Рэч Паспалітая сустракала гасцей з-за акіяна як нацыянальных герояў.



Браты Адамовічы



Сустрэча братоў Адамовічаў

Баляслава і Язэпа Адамовічаў запрасілі да прэм'ер-міністра і ўганаравалі дзяржаўнымі ўзнагародамі. Пілоты былі ў шматлікіх польскіх гарадах, але яны вельмі імкнуліся наведаць Радзіму. Аднак тут былі свае асаблівасці.

## На тэрыторыі Беларусі

Пасля сакавіка 1921 года Беларусь была падзелена паміж Польшчай і СССР, і родныя мясціны братоў-авіятараў якраз знаходзіліся «на мяжы цывілізацый». З Вільні Адамовічы паехалі ў Альковічы і наведалі парафіяльны касцёл. І тут здарылася нечаканае — амерыканскія пілотаў запрасіў... Савецкі Саюз. Агенцтва «Інтурыст» падрыхтавала для іх праграму знаходжання ў «першай дзяржаве працоўных і сялян». 13 жніўня 1934 года ўраджэнцы Беларусі наведалі Амбасаду СССР у Варшаве. У канцы жніўня на цягніку з Вільні амерыканскія пілоты прыехалі ў Стоўбцы.

«Пасажыры ўжо ў дарозе пазнавалі знакамітых гасцей з Польшчы. У Стоўбцах навіна пра прыезд Адамовічаў разышлася вельмі хутка, а паколькі браты ехалі ў Савецкую Расію і павінны былі чакаць на хуткі цягнік 4 гадзіны, мясцовыя ўлады, якіх праінфармаваў начальнік чыгуначнай станцыі пан Мошчыньскі, хутка прыбылі. Дэлегацыя складалася з каменданта гарнізона капітана Пачкоўскага і старасты Вяжбіцкага», — адзначалася ў адным з даваенных польскіх выданняў.

Баляслава і Язэпа Адамовічаў запрасілі ў залу для прыёмаў у будынку вакзала ў Стоўбцах і пачаставалі абедам. Перад ад'ездам у Савецкі Саюз знакамітыя пілоты сфатаграфаваліся з жыхарамі Стоўбцаў. У Маскве пілоты знаходзіліся некалькі дзён, іх апекавалі супрацоўнікі Амбасады Польшчы ў сталіцы СССР. У сувязі з тым, што браты-пілоты жадалі наведаць родныя мясціны, хутка яны выехалі ў Мінск, у распараджэнне Консульства Другой Рэчы Паспалітай у БССР. Тут перад польскімі дыпламатамі стаяла цяжкая задача — трэба было атрымаць дазвол на знаходжанне грамадзян ЗША ў савецкай памежнай зоне. Аднак савецкі бок не стаў ствараць цяжкасцяў.

На машыне амерыканскія пілоты дабраліся да Крайска, дзе наведалі малую Радзіму і сястру Марыю. Папярэдне, бальшавікі далі жанчыне карову і прывезлі прадуктаў. Улады БССР спрабавалі стварыць чарговую «пацёмкінскую вёску», але праўду пра жыццё ў «імперыі Сталіна» было цяжка схаваць. Савецкія памежнікі, застава якіх знаходзілася ў Крайску, хадзілі «на вушах». Замежнікі са Злучаных Штатаў у сакрэтнай зоне, куды не кожны савецкі грамадзянін можа трапіць!



Браты Адамовічы ля будынку вакзала ў Стоўбцах

Падзеленая мяжой Беларусь, безумоўна, уразіла братоў-авіятараў. На пачатку XX стагоддзя яны выязджалі з тэрыторыі Расійскай Імперыі, а ў 1930-я гады прыехалі на родную зямлю, падзеленую паміж Другой Рэччу Паспалітай і СССР. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ў той час мала хто мог наведаць два бакі мяжы. Адамовічы мелі такую магчымасць. Некаторыя мясцовыя жыхары Вілейшчыны і сёння ўзгадваюць, як у сярэдзіне 1930-х гадоў у Альковічы і «за кардон» прыязджалі нейкія вядомыя асобы «аж з Амерыкі», якім «сам Сталін дазволіў да сваякоў у Саветы з'ездзіць».

## Вяртанне за акіян

Пазней Адамовічы вярнуліся ў Польшчу, прадалі свой самалёт польскай моладзевай арганізацыі «LOPP» і выехалі ў Злучаныя Штаты. Наконт далейшага лёсу гэтага самалёта існуе шмат версій. Паводле адной з іх, падчас баявых дзеянняў у верасні 1939 года крылатая машына выкарыстоўвалася ў якасці санітарнага вайсковага борта, была падбітая, села ў Брэсце і пазней стала нямецкім трафеем. Варта адзначыць, што перад выездам браты разглядалі магчымасць набыцця зямельнага надзела на Віленшчыне з перспектывай застацца на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай, аднак да гэтага так і не дайшло.

Пасля вяртання ў ЗША Адамовічы даведаліся, што амерыканская пракуратура зрабіла ператрус на фабрыцы ўраджэнцаў Беларусі і ўстанавіла, што пілоты займаліся... нелегальным вырабам алкаголю! Пры гэтым Адамовічы «гналі пярвач» з бульбы, а адпрацаваны матэрыял выкідалі побач. На гэта і звярнулі ўвагу амерыканскія праваахоўнікі. Ёсць меркаванне, што браты Адамовічы былі таксама звязаныя з мафіяй.

У снежні 1934 года ўсіх трох братоў з Вілейшчыны амерыканскі суд у Брукліне абвінаваціў у нелегальнай вытворчасці алкаголю. Усяго было некалькі судовых працэсаў, у выніку якіх братоў прысудзілі да 15 месяцаў знаходжання ў федэральнай турме. Пасля выхаду з турмы былыя легенды авіяцыі сталі банкрутамі і працавалі на розных дробных прадпрыемствах. Падчас Другой сусветнай вайны Бэн і Джо служылі ў дапаможнай службе. Браніслаў Адамовіч памёр у 1941 годзе. Язэп сканаў у 1970 годзе. Праз дзевяць гадоў не стала і Баляслава.

**Унікальныя фота з архіву Ігара Мельнікава**



Хайфа. Від на порт і Бахайскія сады



Каларытны арабскі горад Ака



Гара Масада ў Юдэйскай пустыні

# Ізраіль: краіна цудаў, якую стваралі беларусы

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«У кожнага прыстойнага чалавека ёсць сваякі ў Ізраілі», — з выразным грасіраваннем кажа мая сяброўка. Ну, сваякі, не сваякі, але выхадцы з Беларусі досыць шчыльна ўвайшлі ў гісторыю гэтай краіны. Асаблівы гонар ад гэтага адчуваеш, калі трапляеш у Ізраіль сённяшні і бачыш, як з бязлюднай пустэчы тутэйшая зямля менш чым за стагоддзе пераўтварылася ў сапраўдную краіну цудаў.**

## Чыстая латарэя

Канешне ж, усе ведаюць, што першым прэзідэнтам Ізраіля быў наш зямляк з Мотaля Хаім Вейцман. Шырока вядомы яшчэ адзін кіраўнік краіны і лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Шымон Перэс з Вішнева на Валожыншчыне, ды іншыя грамадскія і палітычныя дзеячы, якія самі ці іх продкі паходзілі з нашых земляў.

Але ці ведаеце вы, як утварыўся Тэль-Авіў, другая сталіца, эканамічны і культурны цэнтр Ізраіля, які сёлета адзначыць 110-годдзе? Гісторыя яго пачалася 11 красавіка 1909 года, калі сярод голай пустэчы 66 чалавек зладзілі латарэю ракушак (літаральна: на ракушках напісалі нумары і прозвішчы), падчас якой размеркавалі яшчэ неіснуючыя ўчасткі зямлі яшчэ неіснуючага яўрэйскага квартала Ахузат-Байт побач са старажытным горадам Яфа. Аўтарам ідэі стварэння квартала быў гадзіннікавы майстар з Гродна Аківа Ар'е Вайс. Неўзабаве першы яўрэйскі квартал атрымаў назву Тэль-Авіў («узгорак вясны»), якую, дарэчы, прапанаваў ураджэнец мястэчка Ула на Віцебшчыне Менахем Шэйнкін. Вы можаце ўявіць, каб у Беларусі людзі сабраліся і вырашылі стварыць горад?.. Наўрад ці. Але на тое яна і Зямля Абяцаная, каб на ёй здараліся цуды і здзяйсняліся біблейныя прароцтвы.

Увогуле, біблейнай тэматыкай тут прасякнута само паветра. Немагчыма перадаць адчуванні, якія ўзнікаюць, калі бачыш самы старажытны на зямлі 10-тысячагадовы горад Ерыхон, падзенне якога апісваецца ў Старым Запавеце. Ці трапляеш у Назарэт, дзе, паводле Новага Запавету, адбылося Звеставанне Марыі, праязджаеш Кану Галілейскую (дарэчы, як і Назарэт, сёння — цалкам арабскі горад), дзе Ісус стварыў першы цуд: падчас вяселля пераўтварыў ваду ў віно, спускаешся да возера Кінерэт (Галілейскага мора) у вёсцы апосталаў Капернаўм, дзе Пётр лавіў рыбу і спрабаваў хадзіць па вадзе… Не кажучы ўжо пра галавакружны Ерусалім з яго Сцяной плачу, Храмам Труны Гасподняй, Гефсіманскім садам, далінай Геены вогненнай, Елеонскай гарой, адкуль адбылося Усшэсце Хрыста…

## Мультыкультурнасць ва ўмовах вайны

Але вернемся да сучаснай гісторыі. Афіцыйна дзяржава Ізраіль вядзе сваю гісторыю з 1948 года. І ўвесь гэты час, больш за 70 гадоў, яна існуе ў рэжыме перманентнай вайны з навакольнымі арабскімі дзяржавамі (апроч Егіпта і Іарданіі, з якімі быў заключаны мір) за тэрыторыю. Нягледзячы на гэта, мяне Ізраіль уразіў менавіта сваёй мультыкультурнасцю. Яўрэйскае насельніцтва тут складае 74%, 21% — арабы, і амаль 5% прыпадае на прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. Сюды з'язджаюцца рэпатрыянты з усяго свету. Апроч іўрыту тут гучаць арабская, англійская, руская, французская мовы. Тое, што роўныя правы ў Ізраілі маюць усе этнічныя групы, незалежна ад веравызнання, — не проста дэкларатыўны пастулат. Гэта выконваецца на практыцы. Мячэці тут суседнічаюць з сінагогамі, яўрэйскія крамы — з арабскімі, мужчыны ў пейсах ходзяць побач з жанчынамі ў хіджабах. Турысты лёгка могуць трапляць з ізраільскага Ерусаліму ў палесцінскі Віфлеем, і на мяжы, хутчэй за ўсё, нават не праверацць пашпарт. Што праўда, самім ізраільцянам уезд у Палесціну забаронены.

Пры гэтым нельга адмаўляць, што Ізраіль ледзь не штодня абменьваецца ракетнымі ўдарамі з Палесцінай, Ліванам, Сірыяй. Як кажуць ізраільцяне, нярэдка іх краіна дзейнічае «на апярэджанне». Складана даваць ацэнку гэтым дзеянням, калі дзяржаву ўвесь час атачаюць гарачыя кропкі, і армія заўсёды знаходзіцца ў рэжыме баявой гатоўнасці. Але хачу падкрэсліць, што, нягледзячы на гэта, унутры самой краіны не адчуваецца ніякай варажнечы і небяспекі.



Ерусалім

## Эканоміка і бяспека

Не можа не ўражваць тое, што ва ўмовах адвечнага ваеннага канфлікту эканоміка Ізраіля з'яўляецца адной з самых моцных у свеце. Безумоўна, гэта дарагая краіна: кошты тут параўнальныя са скандынаўскімі. Да прыкладу, прыстойная кватэра ў Тэль-Авіве каштуе мільён долараў. Зрэшты, у іншых гарадах можна знайсці някепскае жытло і за 600–700 тысяч. Мінімальны месячны заробак у Ізраілі складае 1600 долараў. Калі наймальнік заплаціць работніку менш за гэтую суму, яму пагражае крымінальная адказнасць (зрэшты, нелегалам, якіх у краіну прыязджае досыць шмат, даводзіцца пагаджацца і на меншыя грошы). А, скажам, доктар у звычайнай гарадской паліклініцы зарабляе 11 тысяч долараў.

Што праўда, ізраільцяне вельмі шмат працуюць. А 5-ай гадзіне ранку людзі ў Тэль-Авіве ўжо едуць на працу, і вяртаюцца назад у сярэднім пасля 8 вечара. Але вось дзіва: на тварах месцічаў мы не заўважылі і ценю той адвечнай заклапочанасці і прыгнечанасці, уласцівай абліччам нашых суайчыннікаў. Наадварот, людзі тут вельмі адкрытыя, добразычлівыя, ва ўсім імкнуцца дапамагчы. Нават узброеныя ахоўнікі на вакзале і ў аэрапорце (сярод якіх, дарэчы, ледзь не большасць — маладыя сімпатычныя дзяўчаты) выглядаюць не суворымі робатападобнымі цэрберамі, а звычайнымі, прыязнымі асобамі. У такіх нават дагляд праходзіць прыемна, даю слова!

Дарэчы, наконт дагляду: Ізраіль вядомы сваімі ўзмоцненымі захадамі бяспекі, таму паказаць ахоўніку сумку і прайсці праз рамку на ўваходзе ў гандлёвы цэнтр тут — звычайная справа. Але, зноў жа, усё гэта адбываецца настолькі лёгка, што абсалютна не ўзнікае ўражання ваеннага становішча. Шчыра кажучы, начытаўшыся гісторый пра страшныя допыты і падрабязныя дагляды ў ізраільскім аэрапорце, я крыху хвалявалася. Але на справе ўсё абмежавалася стандартным наборам пытанняў «адкуль-куды-навошта». Асаблівая цікаўнасць да вас можа ўзнікнуць, калі вы ці вашы дакументы выклікаюць падазрэнні (напрыклад, у пашпарце стаяць візы арабскіх краін), альбо калі вы трапляеце ў пазаштатную сітуацыю. Так, пакідаючы Ізраіль, мы спазніліся здаць багаж у аэрапорце. Пасля праверкі сек'юрыці нашы рэчы ўсё ж прынялі, але па прылёце мы заўважылі, што чамадан мужа быў ускрыты, і ў ім знаходзілася паведамленне пра тое, што служба бяспекі аэрапорта правяла яго дадатковую праверку.

## Зямля, што цячэ малаком і мёдам

Чым яшчэ ўражвае Ізраіль? Ды тым, што мясцовую пустыню здолелі літаральна пераўтварыць у аазіс. Тут існуюць кібуцы — сельскагаспадарчыя абшчыны, якія займаюцца вырошчваннем самай разнастайнай прадукцыі. Чаго толькі няма на тутэйшых плантацыях: аліўкі, фінікі, бананы, манга, папаі, памела, вінаград, клубніцы, бульба, памідоры, перцы, агуркі і яшчэ шмат пладоў, назваў якіх мы не ведаем. Апельсіны, мандарыны і лімоны растуць у дварах, як у нас яблыкі і грушы. Калі мы зайшлі ў супермаркет, дык проста аслупянелі: адзін толькі аддзел садавіны-гародніны па памерах займае больш, чым нашы сеткавыя крамы крокавай даступнасці.

Паўтаруся, усё гэтае багацце (дарэчы, вельмі смачнае — мы каштавалі) узрастае на бедных ападкавых пародах, а то і пасярод пустыні, з улікам рэдкасці (а то і поўнай адсутнасці) дажджоў і адпаведнага дэфіцыту вады! Пры гэтым ледзь не да кожнай травінкі не толькі ў кібуцах, але і ў гарадах падведзеныя трубачкі для паліву. Раней ізраільцяне карысталіся вадой з возера Кінерэт, а цяпер сталі апрасняць і марскую ваду. Для паліву ж выкарыстоўваюць ачышчаныя воды з каналізацыі.

Нягледзячы на тэхналагічнасць (гэты сектар у Ізраілі надзвычай моцны — прывітанне, IT-краіна!), лад жыцця ізраільцян вельмі традыцыйны. Пасля працы яны аддаюць перавагу хатнім сямейным вечарам, а не паходам па барах (хаця апошніх тут дастаткова). Сем'і тут звычайна шматдзетныя: больш за ўсіх нараджаюць арабы (8 дзяцей — норма), па трое-пяцёра дзяцей выхоўваюць яўрэі, а вось у хрысціян дэмаграфічная сітуацыя пагаршаецца. Асобна варта сказаць пра шабат: з заходу сонца ў пятніцу і да заходу ў суботу яўрэі апранаюць святочныя строі і святкуюць (пры гэтым да рэлігійных сябе адносяць толькі 2%). Большасць устаноў, крамаў, транспарт не працуе — турыстам трэба гэта ўлічваць.

Увогуле, у Ізраілі што ні дзень — то свята (а святкуюць тут шумна, весела, з песнямі і танцамі), а кожная справа суправаджаецца падзякай Богу. Можа быць таму яны выглядаюць шчаслівымі і знаходзяць сілы будаваць сваю краіну і штодня адстойваць яе незалежнасць.

Фота з архіву аўтаркі

# «Родная мова, цудоўная мова!»

## Да Міжнароднага дня роднай мовы




**Па гарызанталі:** 1. Сістэматызаваны пералік кніг. 5. «Дала мне маці гэту мову,// Як спадчыну і …». З верша Аляксея Пысіна «Дала мне маці гэту мову». 10. «Чаму вам дзіка яго …?// Паверце, вашай ён не ўкраў». З верша Янкі Купалы «Ворагам беларушчыны». 11. «Ты — як …, як сонца для нас,// быццам наквіццю сад заінелы». З верша Ларысы Геніюш «Родная мова». 12. Царкоўнае вучэнне пра Бога. 15. Старажытны гарадскі пасёлак на Берасцейшчыне, у Пружанскім раёне. 16. «Родная мова, цудоўная мова!// Ты нашых думак уток і …». З верша Уладзіміра Дубоўкі «Родная мова». 19. «… пранясе цябе, родная мова, //Святлом незгасальным у сэрцы сваім». З верша Максіма Танка «Родная мова». 20. «Любіце і шануйце, як святыню, роднае …, з якім вас літасцівы Бог на свет пусціў». Францыск Скарына. 23. Невялікі кавалак лёду. 25. Васьмірадковы верш. 29. «Наша мова — … весні,// Аксаміт жаўруковае песні». З верша Янкі Золака «Наша мова». 31. Асобнае ўдыханне. 32. Аб'яднанне. 33. «Ніякае … людзей не бывае даражэйшым за іх родную мову». Якуб Колас. 34. «І першую кнігу на мове сваёй// друкуе нашчадкам …». З верша Ларысы Геніюш «Скарына».

**Па вертыкалі:** 2. Духмяны плод паўднёвага дрэва. 3. «Прыгожа … выводзіць ён пяром». З верша Максіма Багдановіча «Перапісчык». 4. «Наш …, нашу мову стопчуць,// каб нас лягчэй было душыць». З верша Міколы Ермаловіча «Дзеля таго…». 5. … корміць людзей, як маці дзяцей (прыказка). 6. «Мужыцкая …». Першая газета на беларускай мове, сем нумароў якой выйшла ў свет у час паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам выдатнага сына беларускага народа Кастуся Каліноўскага. 7. Паляўнічы-прафесіянал. 8. Буйная імперыялістычная дзяржава. 9. Буйны паэтычны твор узнёсла-паэтычнага гучання. 13. Напрамак у беларускай літаратуры ў XX стагоддзі. 14. Прыбор для вымярэння хуткасці руху паветра, газаў. 17. Урачысты верш. 18. Усходні вецер. 21. «Дык шануй, …, сваю мову — // Гэты скарб нам на вечныя годы». З верша Алеся Гаруна «Ты, мой брат, каго завуць беларусам». 22. Выслоўе, у якім у трапнай форме выказана арыгінальная думка. 24. Малаток для кляпання косаў. 25. Памылка ў пісьмовым тэксце. 26. Сухія галіны дрэў. 27. Невялікі літаратурны твор. 28. «Я спяваў пра … і пра жаўранкаў,// Ненавідзеў акупантаў і прыгнёт,// А сягоння — вялікадзяржаўнікаў,// Што разбэсцілі вялікі мой народ». З верша Пімена Панчанкі «Беларуская мова». 30. Усходнеславянскі паэт, пясняр.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Курапаты — незагойны боль Беларусі» (НЧ №4 ад 1 лютага):**

**Па гарызанталі:** 1. Дарога. 5. Клінтан. 6. Тры. 8. Турма. 13. ГУЛАГ. 14. Ранак. 15. Воран. 16. Зацёк. 18. Адзін. 20. Эльф. 22. Дух. 24. Анафема. 25. Свет. 26. Брацце.

**Па вертыкалі:** 1. Дыялог. 2. Ост. 3. Літр. 4. Час. 7. Беларусь. 9. Зараза. 10. Генацыд. 11. Век. 12. Агонія. 15. Вітэкс. 17. Крылле. 19. Звер. 21. Цна. 23. Хна.

# БагатаДата

**А вы ведалі, што Надзея Крупская паходзіць з беларускага шляхецкага роду? Іншыя цікавосткі беларускай гісторыі ў нашым аглядзе.**

### 23 лютага

У афіцыйным календары — Дзень абаронцаў Айчыны. А яшчэ 70 гадоў, як за нямецкай акупацыяй была заснавана Беларуская Краёвая Абарона. Для аховы складаў і барацьбы з партызанамі ў гэтае вайсковае фармаванне было мабілізавана 25 тысяч чалавек. Пасля вайны многія жаўнеры і афіцэры БКА апынуліся ў эміграцыі.

**1944.** Нарадзіўся знакаміты савецкі і расійскі акцёр з польска-беларускімі каранямі Алег Янкоўскі. З Беларуссю ён звязаны не толькі паходжаннем. Першая тэатральная сцэна Янкоўскага з эпізадычнымі ролямі ў падлеткавым узросце была менавіта ў Мінску — у тэатры імя Горкага. Таксама ў яго была галоўная роля ў фільме «Я — Францыск Скарына» ў 1970 годзе. Алег Янкоўскі — апошні, хто атрымаў званне «Народны артыст СССР». Фільмаграфія: «Служылі два таварышы», «Шчыт і меч», «Той самы Мюнхгаўзен», «Настальгія».

### 24 лютага

40 гадоў таму пад Мінскам адбылося ўрачыстае адкрыццё Рэспубліканскага цэнтру алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту «Раўбічы».

### 25 лютага

100 гадоў таму дэкрэтам ураду Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь было прынята рашэнне аб стварэнні Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту з выдаткаваннем на гэтую справу 1 мільёна рублёў. Праўда, запрацаваў БДУ толькі ў 1921 годзе.

**1959.** У Літве памёр Клаўдзій Дуж-Душэўскі, выдавец, палітычны дзеяч, чалавек, які стварыў бел-чырвона-белы сцяг. У прыватнасці, менавіта ён на падставе гістарычных сведчанняў і народных арнаментаў зрабіў эскіз сцяга ў 1917 годзе. Ужо праз некалькі месяцаў на Усебеларускім з'ездзе бел-чырвона-белы сцяг быў ушанаваны як нацыянальная сімволіка. Дуж-Душэўскі вядомы таксама як дойлід. Кіраваў кафедрай гісторыі архітэктуры ў Каўнаскім універсітэце. Аўтар мноства будынкаў у Каўнасе, Панявяжысе, Клайпедзе, Шаўляі. У 1952 годзе арыштаваны як беларускі нацыяналіст і асуджаны на 25 гадоў зняволення. У 1955 годзе выпушчаны праз дрэнны стан здароўя. Пахаваны ў Каўнасе.

### 26 лютага

**1869.** У Санкт-Пецярбургу нарадзілася педагог і рэвалюцыянерка Надзея Крупская, жонка і паплечніца стваральніка СССР Уладзіміра Леніна. Мела беларускія шляхецкія карані. Яе дзед Ігнат быў са Слуцку, а бацька падтрымліваў удзельнікаў паўстання 1863 года. Паводле адной з версіяў, была атручаная на загад Сталіна, па другой — падчас апендыцыту ёй не аказалі своечасовую медычную дапамогу.

90 гадоў з дня нараджэння літаратуразнаўцы, крытыка і сцэнарыста Георгія Коласа. Ён — бацька выдаўца і перакладчыка Зміцера Коласа, а таксама педагога і кіраўніка Беларускага гуманітарнага ліцэю Уладзіміра Коласа.

### 27 лютага

**1734.** У Нясвіжы з'явіўся на свет Караль Станіслаў Радзівіл па мянушцы Пане Каханку, магнат і дзяржаўны дзеяч ВКЛ (падчашы, мечнік вялікі літоўскі і ваявода віленскі). Мянушку атрымаў, бо так звяртаўся да ўсіх прадстаўнікоў шляхты. Гэта быў адзін з самых заможных арыстакратаў Еўропы другой паловы XVIII стагоддзя, які валодаў 16 гарадамі і амаль 700 вёскамі. За ім у Нясвіжы дзейнічалі тэатр і аркестр. Катаўся дзеля забавы летам на санках: замест снегу была соль. Любіў баяць легенды а-ля барон Мюнхгаўзэн. З аднаго боку, гэта быў патрыёт і папулярны палітык, з другога — эксцэнтрычны да непрыстойнасцяў п'яніца-гуляка.

**1919.** Была створана Літоўска-Беларуская ССР са сталіцай у Вільні — скарочана Літбел. У яе ўрадзе беларусаў не было. Літбел як буферную дзяржаву стварыла Масква, але перад гэтым забрала і далучыла да РСФСР Смаленшчыну, Магілёўшчыну і Віцебшчыну. Праз некалькі месяцаў Літбел занялі польскія войскі.

### 28 лютага

70 гадоў споўнілася б лідару татарскай дыяспары ў незалежнай Беларусі Ібрагіму Канапацкаму. Ладзіў набажэнствы ў смілавіцкай мячэці. З яго ініцыятывы ў 1993 годзе праведзеная першая міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная 600-годдзю існавання татарскай дыяспары ў Беларусі.

**2009.** Адбыўся ўстаноўчы сход партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» як аднаўленне БХД, што дзейнічала сто гадоў таму. Але Мінюст партыю дагэтуль не зарэгістраваў.

### 1 сакавіка

80 гадоў з дня нараджэння вучонага, доктара медыцынскіх навук Яўгена Канаплі. Ён — заснавальнік і першы дырэктар Інстытуту радыёбіялогіі Акадэміі навук, дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання. Вывучаў уздзеянне малых дозаў радыяцыі пасля Чарнобылю. Адзін з тых, дзякуючы каму дзяржава звярнула ўвагу на забруджаныя тэрыторыі.

90 гадоў з дня нараджэння беларускай паэткі Еўдакіі Лось.

**2014.** У Мінску памёр заслужаны архітэктар, старшыня Саюзу беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын Леанід Левін. Ён — адзін з аўтараў мемарыяльных комплексаў «Хатынь» і «Яма» ў сталіцы, помніка Якубу Коласу ў Мінску.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №292

Падпісана да друку 22.02.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.